ГІСТОРЫЯ СПЕЦСЛУЖБАЎ: АПЕРАЦЫЯ «БУМЕРАНГ» 28 ПАНФІЛАЎЦАЎ

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 www.nn.by

# Наша Гісторыя

№ 1 – 2019

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ISSN 2617-2305

## АРМІЯ КРАЁВА Ў БЕЛАРУСІ:

ЗНАЧНЫЯ АПЕРАЦЫІ, ВЯДОМЫЯ КАМАНДЗІРЫ, ВОСТРЫЯ ПЫТАННІ



РАМАН СКІРМУНТ: СТРАЧАНЫ ШАНС БНР



«ХРЭН ТАБЕ Ў ВОЧЫ!» ДЫК ХТО Ж НАПІСАЎ «ПІНСКУЮ ШЛЯХТУ»?

# ДОКТАР КЛУМАЎ: СЭРЦА НА ДАЛОНІ

ПОЛАЦК КРЫМІНАЛЬНЫ

НОВЫЯ КОМІКСЫ: ВАМПІРЫ Ў МІНСКУ… ВЯРТАННЕ КАПІТАНА ТАНАКІ… ФРАНЦЫСК. ДЫВЕРСІЯ…

16+

Наша Гісторыя
1/2019
www.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Паўліна Скурко, кандыдат гістарычных навук

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — вектарная графіка LuckyStep, shutterstock.com.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** nn@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 14.01.2019.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0003/19.
Наклад 6 600 асобнікаў.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916. ЛД 02330/78 ад 03.03.2014 да 9.03.2019.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

**Памяць народная і памяць афіцыйная**

Гадоў з 20 таму на матчынай радзіме, у Вялікіх Сонтаках (Іўеўскі раён Гродзенскай вобласці), разгаварыўся я з бабінай суседкай Стасяй. Гэта была ўжо вельмі старая, пад 90 гадоў, але яшчэ жвавая і рухавая, а галоўнае — гаваркая бабулька. Слова за слова — і размова перайшла з сучасных на даўнейшыя часы. Сярод іншага баба Стася стала ўспамінаць і пра вайну.

Вёска была глухая, аддаленая ад усялякіх камунікацый. Навокал — вялікія лясы, а таму тут раздолле было партызанам, і «белым», і «чырвоным». За гэтымі народнымі назвамі хаваліся польская Армія Краёва («белыя») і савецкая партызанка («чырвоныя»). Яны і сталі героямі тых сюжэтаў, якія захаваліся ў памяці бабы Стасі, а праз яе пераказ — і ў маёй.

Першыя гады вайны немцы ў вёску не зазіралі. І калі нарэшце мусілі прыехаць, вяскоўцы, не жадаючы нарывацца на непрыемнасці, зладзілі на ўездзе прывітальную брамку. Немцы ў той дзень не з'явіліся, затое ўначы прыйшлі «чырвоныя» партызаны. Якія сталі строга пытаць, для каго тая брамка. На апраўданні, што, маўляў, гэта ўсё толькі для выгляду, каб не цвяліць немцаў, партызанскі камандзір сказаў: «Отольётся вам кровью эта брамка». Дзякуй богу, далей за пагрозу справа не пайшла.

Другая гісторыя звязаная ўжо з партызанамі «белымі». Аднойчы прыйшлі яны ў вёску і прыцягнулі з сабой цэлы мехналоўленых курэй. «Белыя» госці былі збольшага мясцовыя, хоць і не з гэтай вёскі. Аднаго Стася добра ведала, бо да вайны ён заляцаўся да яе сваячкі. Мне запомніўся пераказ іхняй размовы на ламанай польска-беларускай мове: «Ён мне гаворыць: "Веш, цо табе повем?". А я ж яго знаю, дык кажу: "Ну, і што ж ты мне такога повеш?" — "Ідзь курэй скýбай". Ну, што будзеш рабіць — паскубла, каб іх гарончка».

«Каб іх гарончка» — універсальны выраз, якім баба Стася суправаджала згадку пра любых узброеных гасцей. Усе яны даваліся ў знакі: і немцы з паліцаямі, і партызаны любой афарбоўкі. Усе былі на ўтрыманні насельніцтва і патрабавалі бясконцую даніну. Натуральна, не беручы пад увагу, што тут ужо папасвіліся канкурэнты. Да таго ж, усе яны вяскоўцам пагражалі – і незразумела было, як залагодзіць аднаго, не ўгнявіўшы іншага.

Народнае бачанне вайны ніколі не супадае з афіцыйным, ідэалагізаваным. У той жа час немагчыма асэнсаваць вайну толькі праз такія ўспаміны. Для разумення партызанскага супраціву патрэбен аналітычны падыход. Узаемаадносіны з насельніцтвам – толькі адзін бок партызанкі. Каб зразумець іншыя, трэба ведаць, за што змагаліся тыя людзі, хто за імі стаяў, як яны бачылі будучыню краіны. Для «Нашай гісторыі» гэтая тэма цікавая і важная. У гэтым нумары мы да яе вяртаемся зноў.

**Аляксандр Пашкевіч**











тэма

**4 ДОКТАР КЛУМАЎ. СЭРЦА НА ДАЛОНІ**




пошта і водгукі

**10 Ніякіх лапцей, затое падцяжкі…** Кубкі з Касцюшкам… Вёска Мацылёўшчына… Багдановіч не быў з татараў… Быць самастойным гаспадаром з непрывычкі цяжка…

вайна пасля вайны

**12 Армія Краёва ў Беларусі:** значныя аперацыі, вядомыя камандзіры, вострыя пытанні

**20 Героі ці бандыты?** Чаму свядомыя беларусы не падтрымлівалі Армію Краёву, піша кандыдат гістарычных навук **Аляксандр Пашкевіч**

**24 «Умела і тактоўна».** У жніўні 1943-га савецкая партызанская брыгада Маркава расстраляла амаль сто партызан Арміі Краёвай з атрада Кміціца

бнр

**28 Раман Скірмунт: страчаны шанс БНР.** Піша доктар гістарычных навук **Алесь Смалянчук**

**32 Раман Скірмунт:** загадкавы сфінкс беларускай палітыкі. Не быў жанаты, жыў з сялянкай, быў прынцыпова дэмакратычным…

гісторыя спецслужбаў

**36 Аперацыя «Бумеранг».** Як савецкі КГБ 20 гадоў вадзіў за нос украінскія эміграцкія цэнтры




таямніцы

**41 «Хрэн табе ў вочы!»: дык хто ж напісаў «Пінскую шляхту»?** Адказ шукае выкладчык Палескага ўніверсітэта, кандыдат фізіка-матэматычных навук з Пінска **Аляксандр Ільін**

















**46** **«Гоман»:** газета 1906 года, якой ніколі не існавала

простыя рэчы

**48** **«Яго дабро і яго ярмо лёгкія».** Пра сямейную рэліквію расказвае **Святлана Курс**

стоп-фэйк

**50** **Подзвіг панфілаўцаў: як нарадзілася легенда.** 5 з 28 панфілаўцаў, узнагароджаных пасмяротна, выявіліся жывымі

54

наша страва

**54** **Беларускі пітны мёд: старадаўні і слаўны.** Піша доктар гісторыі **Алесь Белы**

вялікае княства літоўскае

**60** **Полацк крымінальны XVII стагоддзя.** Піша кандыдат гістарычных навук **Дзяніс Лісейчыкаў**

рэч паспалітая

**64** **Забавы «за караля Саса».** Як адзначала зімовыя святы эліта Рэчы Паспалітай






гаспадары

**68** **Ён першым увёў 8-гадзінны працоўны дзень.** Антоній Стульгінскі — дырэктар, які зрабіў славутай Добрушскую папяровую фабрыку

ссср

**72** **Як беларусы адбудоўвалі Ташкент:** шашлыкі, сквар і бойкі да смерці

жывая гісторыя

**75** **«А ў калгасе добра жыць: адзін робіць, сем ляжыць».** Гісторыю сваёй сям'і запісаў педагог з Магілёва **Міхась Булавацкі**









турыстычныя кірункі

**80** **Майстры нагамёту.** Харваты, якія 900 гадоў пражылі без уласнай дзяржавы, здабылі незалежнасць у крывавых муках, але цяпер знайшлі мірны спосаб самасцвярджэння ў футболе






коміксы

**88** **Апошні вампір**

**92** **Іконы на экспарт**

**94** **Францыск. Дыверсія**

**96** **Пластыляндыя.** Зляпіце з пластыліну разам з дзецьмі

**Масквіч прыехаў у Беларусь вывучаць каўтун — і застаўся ў ёй назаўсёды**

# Доктар Клумаў

## Сэрца на далоні

75 гадоў таму, 13 лютага 1944 года, у Трасцянцы нацыстамі быў знішчаны доктар Яўген Клумаў. Некалькі сямейных легенд расказала і яго ўнучатая пляменніца Святлана Ганнушкіна — дачка айца расійскай псіхіятрычнай школы Пятра Ганнушкіна, вядомая расійская праваабаронца, намінаваная на Нобелеўскую прэмію міру

SHUTTERSTOCK, BY LUCKYSTEP

**Яўген Клумаў, доктар-гуманіст і герой-падпольшчык, чыё імя сёння носяць вуліца і сквер у сталіцы Беларусі, а таксама 3-я гарадская клінічная бальніца, стаў правобразам доктара Савіча ў знакамітым рамане Івана Шамякіна, які так і называўся — «Сэрца на далоні». Пра жыццё і пакутніцкую смерць гэтага неардынарнага чалавека піша Ганна Севярынец.**



**Яўген Клумаў з жонкай Галінай.** 1910-я гады. Разам яны і загінуць.

У 1913 годзе, калі Яўген Клумаў быў яшчэ земскім доктарам на Лоеўшчыне — а ён вёў тры велізарныя ўчасткі, Суткоўскі, Лоеўскі і Холмецкі, цяперашнім участковым такая нагрузка і не снілася, — яму давялося аперыраваць студэнта з нажавым раненнем у сэрца. Невядома, хто асісціраваў Клумаву, хто быў побач і бачыў, як на далоні хірурга пульсуе жывое, уратаванае сэрца, але менавіта ён у жаху і захапленні пераказаў раніцай тое, што пабачыў. Расповед пра жывое сэрца на далоні доктара жыў на Лоеўшчыне больш за паўстагоддзя — і менавіта тут пачуў яго народны пісьменнік Іван Шамякін.

### Земскі доктар

Хто такі быў земскі доктар? Гэты доктар лячыў усё. Ён быў адзін на ўсе хваробы і балячкі. Ён і тэрапеўт, і хірург, і акушэр, і педыятр, і зубы рваў, і вочы ратаваў. Да яго ехалі і ўдзень, і ўначы, везлі цяжарных і шалёных, выклікалі да паміраючых і параненых. Працаваць яму даводзілася ў невялікім памяшканні, дзе і прыём хворых, і стацыянар, і радзільная зала, і аперацыйная.

Да Суткова Клумаў меў ужо досвед працы ў палявых шпіталях — падчас расійска-японскай вайны ён быў вайсковым хірургам. Таму ў бедным, але пакуль што мірным Суткове ён лёгка прызвычаіўся да мясцовых умоў. Па звестках, сабраных гісторыкам Мікалаем Анісаўцом, у 1910 годзе ў Суткове Клумаў зрабіў 65 аперацый, у 1911-м — 142, у 1912-м — 145.

Як жа сын маскоўскага адваката, бліскучы выпускнік медыцынскага факультэта Маскоўскага ўніверсітэта апынуўся ў тым богам забытым беларускім Суткове?

**Маці Клумава, Даратэя, была этнічнай немкай. Падчас акупацыі ён падпадаў пад крытэрыі «фольксдойча», яму прапаноўвалі кафедру ў Лейпцыгскім універсітэце**

Адказ просты: «паехаў на каўтун». Менавіта так ён патлумачыў свой ад'езд сваякам, менавіта так кажуць і сёння пра тое рашэнне маладога таленавітага доктара нашчадкі, што жывуць у Маскве. Гэта значыць — падаўся лячыць малавывучаную хваробу туды, дзе яе і не лячылі ніколі, бо лічылі варыянтам нормы, асвечаным да таго ж фальклорнымі забабонамі і прымхамі.

Дарэчы, пра сваякоў і нашчадкаў. Доктар Яўген Клумаў меў трох братоў і трох сясцёр. Адна з сястрычак, Соф'я, скончыла кансерваторыю па класе фартэпіяна і амаль адразу пасля выпуску выйшла замуж за доктара-псіхіятра Пятра Ганнушкіна, які неўзабаве стаў «айцом» расійскай псіхіятрычнай школы. Унучка ж Пятра і Соф'і, Святлана Аляксееўна Ганнушкіна, — вядомая сёння расійская праваабаронца. Менавіта яна распавяла сямейныя легенды Клумавых: і пра «каўтун», і пра выдатныя дыягнастычныя здольнасці доктара Клумава, і пра ягоную маці Даратэю Клумаву. Даратэя была этнічнай немкай, і ад яе Клумаў выдатна засвоіў нямецкую мову — яна была для яго другой роднай. Падчас акупацыі ён падпадаў пад нямецкія крытэрыі «фольксдойча», яму прапаноўвалі кафедру ў Лейпцыгскім універсітэце. Доктар адмовіўся. ▶

Не менш цікава і тое, што жонка Яўгена Клумава, Галіна Мікалаеўна, — родная пляменніца знакамітага пісьменніка Уладзіміра Караленкі. У Суткове, у невялікай кватэрцы пры бальніцы, яна таксама ўжо была з ім: «Цёця Галя была бясконца адданай Яўгену Уладзіміравічу», — кажа Святлана Ганнушкіна.

Вера суткоўскіх, лоеўскіх і холмецкіх сялян у бясконцую, нават містычную моц свайго земскага доктара была непахіснай. «Бацька мой памёр у 48 гадоў, і нават доктар Клумаў не змог яго выратаваць», — у словах жыхаркі Лоева Марыі Адамаўны Равянок, хоць і горкіх, гучыць гэтая вера і сёння.

Кажуць, вельмі любіў Клумаў гутарыць з «дзядамі» — так ён называў вясковых старых. «Ну як можна не любіць беларусаў? — прыводзіць словы Клумава Мікалай Анісавец. — Як можна быць абыякавым да іх пасталоў, кажухоў з латкамі, да іх гаротнага лёсу? Высакародныя, сумленныя людзі, шчырыя працаўнікі... Яны маюць права на лепшае жыццё, і мы павінны дапамагчы ім у гэтым».

У 1916 годзе Мінскае губернскае праўленне прысвоіла Клумаву званне тытулярнага саветніка — слава пра выдатнага хірурга даўно ўжо перакрочыла межы земскіх участкаў, гарадоў і паветаў.

## Вайна, рэвалюцыя, ізноў вайна

У 1914 годзе доктара Клумава перавялі ў губернскі горад, але ў рэчаіснасці ён паехаў на вайну. Адразу з пачаткам ваенных дзеянняў Першай сусветнай хірург Яўген Клумаў — у мінскім шпіталі Чырвонага Крыжа. Вайна разгараецца, і Клумаў надта патрэбен побач з акопамі — ён едзе ў паходныя шпіталі, аперыруе там салдат і афіцэраў, прывезеных наўпрост з поля бою.

Тут, на пярэднім краі, Клумаў вырашае для сябе далучыцца да бальшавікоў — з 1917 года ён працуе ў франтавых шпіталях Чырвонай Арміі. Маючы «бронь» супраць мабілізацыі на франты Грамадзянскай вайны (існавала адпаведная пастанова СНК, згодна з якой загадчыкі хірургічных аддзяленняў бальніц павінны былі заставацца ў горадзе), доктар усё ж зноў едзе ў палявыя шпіталі Смаленска, Талачына, Барысава. І толькі пасля адраснага запыту Мінскай губернскай бальніцы ў Ваенна-рэвалюцыйны камітэт і Камісарыят аховы здароўя Клумаў,



«Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава. 1911–1912»

Малады доктар Клумаў прыехаў на Беларусь лячыць каўтун.

**Каўтун** (па-лацінску *plica polonica,* польская касá) — запаленне тлушчавых залоз на галаве, якое ўзнікае ў выніку недахопу пэўных рэчываў у арганізме, нервовых расстройстваў, занядбання правілаў гігіены.

Праз тое, што хворыя залозы выдзяляюць шмат тлушчу, валасы на галаве зліпаюцца, у іх збіраецца розны бруд і пыл. У выніку ўтвараецца валасяная збітая маса, падобная на лямец. У народных вераваннях лічылася, што каўтун — вынік дзеянняў злых духаў і калі яго зрэзаць, то можна наклікаць на сябе яшчэ большыя беды.

У Беларусі ў старыя часы каўтун быў шырока распаўсюджаны. Пра яго нават ёсць згадка ў апісанні беларуса ў вершы Мікалая Някрасава «Чыгунка», напісаным у 1864 годзе:

*Губы бескровные, веки упавшие,*
*Язвы на тощих руках,*
*Вечно в воде по колено стоявшие*
*Ноги опухли; колтун в волосах.*



**Яўген Клумаў. 1890-я.**







3-я бальніца імя Клумава ў Мінску знаходзіцца па вуліцы Леніна, каля стадыёна «Дынама». Цікава, што **першыя будынкі бальніцы, якая спачатку была Яўрэйскай, былі збудаваныя ў маўрытанскім стылі (фота злева)**. Будынак захаваўся, але цяпер затынкаваны.

адзіны хірург-гінеколаг у штаце бальніцы, вяртаецца ў Мінск.

Вяртанне ягонае — таксама легендарнае. Са слоў мастака Яўгена Ціхановіча, зяця рэжысёра Уладзіслава Галубка, вядома, што менавіта Клумаў уратаваў у 1921 годзе старэйшага Галубковага брата, Браніслава Голуба. Браніслаў быў афіцэрам польскай арміі, атрымаў цяжкія раненні пры наступе чырвонаармейцаў. Клумаў жа якраз уваходзіў у горад разам з часткамі асобага прызначэння (ЧОН) Чырвонай Арміі. Малодшы брат Галубка, Сяргей Асановіч, таксама служыў у ЧОНе — ён і прывёў доктара да брата. Два чырвонаармейцы, Клумаў і Асановіч, перавязалі пілсудчыка Голуба, далі яму выратавальных парашкоў, паклалі на падводу, накрылі коўдрамі і ціхенька вывезлі з Мінска наўздагон адыходзячым палякам.

### «Персавецкая бальніца»

З 1921 года Яўген Клумаў стала працуе ў той бальніцы, якая сёння носіць ягонае імя. Тады яна звалася «Першая Савецкая», ці, як яе называлі дзеці, «персавецкая» бальніца. Менавіта тут месцілася база для падрыхтоўкі дактароў медфака БДУ, з 1930-га ў бальніцы практыкавалі і навучаліся прафесары і студэнты Мінскага медінстытута. Сюды найперш прыходзіла новае абсталяванне, сюды запрашаліся вядомыя навукоўцы для кансультацый і семінараў, тут працавалі тагачасныя выдатныя вучоныя-медыкі: афтальмолаг Сямён Камінскі, тэрапеўт Сяргей Мелкіх, хірург Юрый Іргер і іншыя. Яўген Клумаў сярод іх — бясспрэчны аўтарытэт. Студэнты, зачараваныя манерай і выхаваннем настаўніка, пачалі нават пераймаць ягоную манеру размовы. Клумаў прыкметна расцягваў галосныя пасярод слоў і крыху заікаўся, гэтаксама сталі рабіць і самыя апантаныя з ягоных вучняў.

Пераймалі не толькі гаворку — пераймалі манеры ў аперацыйным пакоі. А. Пузанава, якая працавала з 1936 па 1941 год у прафесара Клумава ардынатарам хірургічнай клінікі, успамінае: «З Клумавым было прыемна працаваць нават пры самых працяглых аперацыях — ні вокрыкаў, ні сярдзітага погляду; спакойная роўная праца, цішыня ў аперацыйнай. Пасля аперацыі прафесар заўсёды дзякаваў за асісціраванне, ніколі не пакідаў аперацыйную перш, чым пакладуць хворага на насілкі, а ў сур'ёзных выпадках ішоў побач з насілкамі да палаты».

Кажуць, што і тады, калі Клумава прыйшлі забіраць немцы, ён не адарваўся ад аперацыі. «Жэня, па нас з гестапа прыйшлі!» — крыкнула, уварваўшыся ў бальніцу, Галіна Мікалаеўна. «Не з гестапа, а з СД. Няхай пачакаюць, у мяне аперацыя», — адказаў ёй Клумаў.

### «Самарын»

Пад немцамі яны засталіся выпадкова: як і шмат якія іншыя мінчукі, не здолелі эвакуіравацца. А ў 1942 годзе Клумаў аднавіў прыём у «персавецкай» бальніцы.

Ларыса Глебка, прыёмная дачка Пятра Глебкі, што была ўратавана з гета жонкай паэта і перажывала акупацыю дзіцём, успамінае: «Мне падаецца, кожны раз, калі нешта адбывалася са мной, мама вадзіла мяне менавіта да Клумава. Яны сябравалі. Лішай быў, страшны, стрыгучы, — Клумаў лячыў. Зуб балеў — зноў да Клумава. Ён усё ўмеў, мама яму ў кожным слове давярала».

Сам жа Клумаў давяраў не кожнаму.

Як толькі аднавілася праца ў бальніцы, ён адразу выйшаў на сувязь з партызанамі. Праз Клумава — ён быў вядомы партызанам пад псеўданімам Самарын — ішлі ў лес медыкаменты, бінты, хірургічныя інструменты, пад наглядам і кіраўніцтвам Клумава былі разгорнутыя два палявыя шпіталі ў лясах. У бальнічнай лабараторыі, у печцы, быў схаваны радыёпрыёмнік — з самага ранку Клумаў слухаў зводкі Інфармбюро, запісваў галоўныя навіны з франтоў і перадаваў праз сувязных. Ён выпісваў «ліпавыя» даведкі аб заразных хваробах пацыентам — і гэтым ратаваў іх ад пільнай увагі карных органаў. Доктар запісваў у карткі маладзёнаў няісныя дыягназы — і тых не чапалі, збіраючы чарговы эшалон у Германію. ▶

## Апавяданне пра жывое сэрца на далоні доктара хадзіла на Лоеўшчыне — там пачуў яго народны пісьменнік Іван Шамякін

Выдаць Клумава магло паў-Мінска. Таму ён асцерагаўся. Скульптар Вольга Бембель успамінала: калі аднойчы да Клумава звярнулася жонка Глебкі Ніна — яна таксама была звязаная з партызанамі, але для прыкрыцця супрацоўнічала з акупацыйнымі ўладамі, — ужо не як перапалоханая мама маленькай дзяўчынкі, а як партызанская сувязная, прапануючы Клумаву перабрацца ў атрад, а адтуль у Маскву, Клумаў асцярожна адказаў: «Нашто мне, Ніна, у Маскву? Там бальшавікі, жыды».

Калі праз некалькі месяцаў з такой самай прапановай да Клумава звярнуўся іншы чалавек — як аказалася, правакатар, — доктар мо ўпершыню ў жыцці памыліўся. Ён пагадзіўся на ўцёкі да партызанаў у кастрычніку 1943-га. Згоду ён нібыта даваў свайму сябру, таксама прафесару, якога ведаў шмат-шмат гадоў. А той яго выдаў немцам.

**Трасцянец**

У канцлагеры Трасцянец пад Мінскам, куды прывезлі Клумавых, іх адразу ж пазналі. Лагерны доктар прыбег у барак, дзе Клумавым дастаўся куточак на агульных нарах, і забраў іх да сябе, ва ўласны пакойчык пры медпункце.

Клумаў быў ужо немалады, да таго ж хворы на дыябет, дык хто мог і як толькі мог даставаў славутаму доктару праз вольнанаёмных інсулін. Але як было яго з жонкай зберагчы? «Клумавы выглядалі зусім спакутаванымі, асабліва Галіна Мікалаеўна. Пасля допытаў і катаванняў у турме яна трызніла і мала каго пазнавала. Ды і яе цяжка было пазнаць. Ад голаду ў Галіны Мікалаеўны сталі танчэць валасы, яны вылазілі цэлымі пасмамі. Гэта мучыла яе, і яна бясконца папраўляла на галаве дзіравую пуховую хустку», — успамінае відавочца ў апавяданні Уладзіміра Карпава «О, гэтая шчырасць».

**Калі іх грузілі ў машыны ў Трасцянцы, жонка заплакала. «Галя, — сказаў ёй Клумаў, — мы пражылі не самае кепскае жыццё, і гэта не самы кепскі спосаб яго скончыць»**

Калі ўзімку ў Трасцянцы пачалі рыхтаваць вялікі этап у Германію для працы на нямецкіх заводах, Клумаў упісаў у сваю лагерную картку не толькі наяўныя ў яго хваробы, але і такія, якіх не было.


BELHOT.BY

**Помнік у Трасцянцы**, дзе забілі доктара Клумава, адкрылі ў 2015 годзе.

Гэта значыла — усе ведалі, — што ў Германію яго не павязуць, а знішчаць тут: альбо ў машынедушагубцы, альбо ў расстрэльнай яме. Але кажуць, што нават з такімі запісамі лагернае начальства прапаноўвала яму выехаць у Германію, каб працягваць там лячыць. Клумаў адмовіўся.

Калі па іх прыйшлі з загадам грузіцца ў машыны, Галіна Мікалаеўна заплакала. Клумаў узяў яе за руку і сказаў: «Галя, мы пражылі не самае кепскае жыццё, і гэта — не самы кепскі спосаб яго скончыць».

Доктар Клумаў загінуў 13 лютага 1944 года ў душагубцы, што везла людзей да загадзя пабудаванай печы, у якой палілі целы вязняў Трасцянца. Ён не дажыў да вызваленчай аперацыі «Баграціён» усяго чатыры месяцы.



**Доктарскі чамаданчык.**

### Удзячнасць і няўдзячнасць

Адразу пасля вайны доктара Клумава залічылі ў «ворагі». Пра гэта ў нас не прынята казаць, бо цяпер Яўген Клумаў — геройпадпольшчык. Але гэта добра памятаюць у сям’і. «Яму не адразу далі ордэн, спачатку запісалі ў ворагі, менавіта таму, што Клумаву давяралі немцы», — тлумачыць Святлана Ганнушкіна. Сапраўды, пасмяротнае званне Героя Савецкага Саюза Яўгену Уладзіміравічу Клумаву далі толькі ў 1965-м.

Зрэшты, і сучаснікі не заўсёды былі ўдзячныя. Чым больш славуты лекар — тым большых цудаў ад яго чакаюць. А не дачакаўшыся, робяць без віны вінаватым. Пісьменнік Валянцін Тарас у мемуарах «На выспе ўспамінаў» распавядаў, як была расчараваная няўсёмагутнасцю Клумава ягоная бабуля — бо той не здолеў уратаваць яе дачку, якая памерла ад заражэння крыві пасля няўдалай цяжарнасці:

«На пачатку чэрвеня 1941 года я ўбачыў чалавека, чыё імя, калі мама ляжала ў бальніцы, паміналася ў нашым доме кожны дзень — прафесара Клумава. Мы з бабуляй ехалі некуды ў трамваі. На адным з прыпынкаў у трамвай увайшоў мажны дзядзечка з сівымі вусамі, у акулярах, у лёгкім шэрым касцюме, у блакітнай кашулі, пры гальштуку; у руцэ ён трымаў саламяны залацісты капялюш. Азірнуўся па баках і сеў насупраць нас, паслабіў вузел гальштука, стаў абмахваць капелюшом успацелы твар. А бабуля раптам учэпіста ўзяла мяне за локаць, сціснула і нягучна, але нейкім дзіўным, напружаным голасам сказала: “Патш, Валюсь, тэн чловек — мордэрца твоей мамусі! Запаментай его тваж!” (“Глядзі, Валік, гэты чалавек — забойца тваёй матулі! Запомні ягоны твар!”) Дзядзечка глядзеў на нас невідушча, думаючы пра сваё, і раптам прыжмурыў вочы, утаропіўся на бабулю і няўпэўнена кіўнуў ёй галавою — так ківаюць, калі некага і пазнаюць, і не пазнаюць, калі няма ўпэўненасці, што не абазнаўся. Я зірнуў на бабцю і ўбачыў, што яна кусае губы, каб не заплакаць, і слёзы дрыжаць у вачах».

Што ж, нават багоў не памінаюць адным толькі ўдзячным словам. А што ўжо казаць пра доктара, які па сваіх якасцях мусіў быць богам, а быў усяго толькі чалавекам. ◆

## Палескія спевы, намінаваны на «Грэмі» гукарэжысёр і рэкорды краўдфандынгу

### Vuraj прэзентуе новы альбом «Lito»

«Што спяваеце?» — «Літо!»
Вось так проста — адным словам «літо», — на Палессі называюць цыкл абрадавых песень, у якіх знайшлі адбітак звычаі, павер’і і ўяўленні нашага народа. Гэтаксама называецца новы альбом гурта *Vuraj*, вядомага папулярызатара беларускага фольку.
«*Lito*» — гэта беражліва сабраныя, вывучаныя, пераасэнсаваныя і літаральна наноў створаныя каляндарна-абрадавыя песні беларускага Палесся.
Сяржук Доўгушаў і *Vuraj* на працягу 4-х гадоў шукалі іх у экспедыцыях, знаходзілі і надавалі кожнай сваё адметнае «вурайскае» гучанне.




«Людзі сыходзяць, песні знікаюць, а нам хочацца дзяліцца гэтымі скарбамі з усім светам, даносіць палескую мову, мелодыі і тэксты, якім сотні год», — кажа лідар гурта, фалькларыст Сяржук Доўгушаў.

Гукарэжысёрам ды саўнд-прадзюсарам альбома выступіў намінант на прэмію «Грэмі» Томаш Рагула (Польшча). Запіс адбываўся на варшаўскай *TR-Studio* і студыі *Everest* у Мінску пры ўдзеле польскай скрыпачкі Караліны Матушкевіч і аўтэнтычнага гурта з Палесся «Вытокі». Вокладку для дыска зрабіла беларуская мастачка Ліза Лянкевіч.
Грошы на запіс альбома музыкі сабралі праз краўдфандынг, дзе гурт атрымаў рэкордную сярод музычных праектаў падтрымку.

Новы альбом гурта *Vuraj* «*Lito*» можна набыць праз інтэрнэт альбо ў мінскіх кнігарнях **«Акадэмкніга»**(пр-т Незалежнасці, 72), **«Логвінаў»**(пр-т Незалежнасці, 37а) і этнакраме **«Рагна»**(вул. Сухая, 4)

Паслухаць альбом анлайн можна на сайтах:
https://vuraj.bandcamp.com/album/lito
https://soundcloud.com/vuraj/sets/vuraj-lito

# «Вы напісалі пра вёску Мацылёўшчына, а стуль родам мая маці»

Набыў «Нашу гісторыю» № 4, а яшчэ трэці не быў да канца прачытаны. Непарадачак. Пачынаю дачытваць і даходжу да артыкула «Вагі з дзедавай крамы». А там пра вёску Мацылёўшчына, з якой родам мая маці.

Скідваю ёй артыкул — і вось нечаканасць: адзін з фотаздымкаў, аказваецца, з матчынага вяселля! І на фоне нашай вясковай хаты!

Мама расказала: «Гэты здымак зроблены на трэці дзень вяселля, калі ўжо гарадскія з'ехалі, а вясковыя працягвалі “балагурыць”. Дзядзька Антось, герой матэрыялу, сёння быў бы паспяховым прадпрымальнікам. Галава ў яго залатая была. Помню, як у дзяцінстве абменьвала ў яго яйкі на цукеркі — грошай у бацькоў-калгаснікаў асабліва не было, каб проста набыць. Але адзін раз на шляху да крамы яйкі разбіліся. Было мне 4–5 гадоў тады. Таму прыйшлося спяваць песні, каб атрымаць цукеркі ад дзядзькі Антося».

**Аляксандр Луцэвіч, Мінск**

# «Кубкаў з Касцюшкам няма? Дык мы іх выпускаем!»

Хочацца адказаць Алесю Беламу наконт таго, што ў Беларусі ніхто не выпускае кубкаў з выявай Касцюшкі. Выпускаем, і менавіта мы! На жаль, гэта пакуль не філіжанкі для кавы, а звычайныя, як кажуць, «кітайскія кубкі» для гарбаты, але ж з выявай Касцюшкі і розных дызайнаў, якія таксама распрацоўваем мы. 2017 год быў абвешчаны ЮНЕСКА Годам Касцюшкі, гэта і падштурхнула нас да вырабу такой прадукцыі. Робім не толькі кубкі, але і талеркі, паштоўкі, бірулькі. Купіць іх можна ў Марачоўшчыне, дзе нарадзіўся герой.

**З павагай,**
**Ігар Федасенка (Artur Glen)**






**Сыравары з Валожынскага павета,**
1925–1930-я гады.

З НАЦЫЯНАЛЬНАГА ГІСТАРЫЧНАГА МУЗЕЯ БЕЛАРУСІ. НАДАДЗЕНА НАДЗЕЯЙ САЎЧАНКА

# Ніякіх лапцей, затое фартухі ды падцяжкі

Трапіў у Нацыянальны гістарычны музей на выставу «**Сава Сіўко (1888–1978). Фатограф Любчанскага краю**» і быў моцна ўсцешаны яе зместам і інтрыгай. Усім раю наведаць.

Асабліва мяне ўзрушыла, што галоўны герой выставы, Сава Сіўко, сваю працоўную дзейнасць пасля вяртання з нямецкага палону пачаў у Валожынскім павеце (цяпер Івейскі раён) як сыравар. І нават фатаграфаваў сыравараў. А я якраз у сваім артыкуле ў «Нашай гісторыі» №2 наракаў, што замала нам вядома фота сыравараў. І мяне пачулі там, угары.

Сыравар на тыя часы – гэта амаль як праграміст сёння, вельмі пажаданая і прэстыжная прафесія. І паглядзіце, выглядаюць яны зусім не як «Ян-Сыравар з Верхнядзвінска». Ніякіх лапцей! Заміж іх — фартухі ды падцяжкі.

**Алесь Белы, гісторык**

Выставу ў Нацыянальным гістарычным музеі (Маркса, 12) можна наведаць да 3 лютага.

# «Мае супляменнікі таксама стваралі гісторыю Беларусі»

Дзякуй за матэрыял пра татараў – усім, хто рыхтаваў яго! Справа не толькі ў тым, што напісана, а яшчэ і з якой цеплынёй падрыхтаваны матэрыял, якія ён выклікае асацыяцыі, якія дае надзеі! Усё ж мае супляменнікі таксама стваралі гісторыю Беларусі.

Мяне вельмі кранула назва артыкула — «Ясінскія, Луцкевічы, Александровічы — усе нашыя татары». Ці наўмысна, ці не, але прозвішчы пералічаны не па алфавіце, а ў адваротным парадку. Калі ж узгадаць традыцыю арабскага пісьма, то мы б якраз чыталі гэтыя прозвішчы справа налева. Не ўпэўнена, ці так задумвалася, але выйшла прыгожа.

Разумею, што ў большасці сваёй чытачамі сталі беларусы, у тым ліку моладзь. Маю надзею, што цяпер, калі хто натрапіць хоць на нейкі татарскі след, то заўважыць яго і, магчыма, падасць знак. Як у свой час мой сябра Міхаіл Берман, якому знаёмы прынёс патрыманую рукапісную кніжачку, а ён, у сваю чаргу, паказаў мне — высветлілася, што гэта пісаны па-арабску кішэнны малітоўнік (хамаіл), які раней быў у кожнай татарскай сям'і.

А вось зусім нядаўняя цудоўная падзея. Ёанна Пухальская з Польшчы ў сваім выступленні на канферэнцыі «Адам Міцкевіч — талент, непадуладны часу» (Навагрудак, 5 кастрычніка 2018 года) зрабіла сенсацыйнае паведамленне. Сярод дакументаў, якія выратавала падчас Другой сусветнай вайны і перавезла ў Польшчу апошняя жыхарка маёнтка Чамброва пад Навагрудкам Марыя Карповіч, апынуўся незвычайны рукапіс — «*napisany eleganckim,*

*wręcz dekoracyjnym charakterem*» фрагмент перакладу Карана на польскую мову. Пані Ёанна выказала меркаванне, што рукапіс мог трапіць у Чамброва праз Яна Чачота. З добрай ласкі цяперашняй уладальніцы я атрымала фотаздымак аркуша Карана, які змясціла ў зборніку матэрыялаў канферэнцыі (Александровіч Р. «*Czy Allah …tę latarnię zawiesił śród niebios obwodu?*»: татарскія зорачкі на нябёсах творчасці Адама Міцкевіча // Беларуска-польскія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі. Да 220-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Мінск: БДУ, 2018).

Вельмі радасна было ўбачыць на фотаздымках у часопісе родныя твары: Ібрагіма Канапацкага, Івана Луцкевіча, Гасана Канапацкага з жонкай Аленай і дачушкай Тамарай. Мы з дачкой мелі шчасце гасцяваць 20 дзён у Сопаце ўлетку 2003 года па запрашэнні пані Тамары Багдановіч (ёй было тады 92 гады) і яе брата – дарагога Мацея-Мусы Канапацкага. Гэта быў незабыўны час...

У мяне, праўда, узнікла некалькі заўваг. Не чула, што Максім Багдановіч мае татарскія карані, і ведаю, што распаўсюджанае сярод татараў прозвішча Багдановіч не з'яўляецца для яго спадчынным — Максімаў прапрадзед Сцяпан Скокліч прыняў прозвішча свайго айчыма. Гасан Канапацкі не быў генералам (як падпісана пад яго партрэтам), а толькі палкоўнікам. Хоць ён і кіраваў войскам. З прыемнасцю прачытала ў апошнім нумары «Arche» артыкул «Гасан Капанацкі — татарскі камандуючы беларускага войка». У аўтара Лены Глагоўскай склаліся шчырыя адносіны з сям'ёй Канапацкіх, і яна прадставіла фота з іх сямейнага архіва.

Маю таксама некалькі прапаноў. Вельмі б хацелася, каб у лютаўскім нумары быў змешчаны матэрыял, прысвечаны 70-годдзю Ібрагіма Канапацкага (1949–2005), які нарадзіўся ў дзень, калі зіма сустракае сваю пераемніцу. Аб гэтым клапоціцца і доктар гістарычных навук Леанід Міхайлавіч Лыч, які 8 лютага стане адным з самых маладых сяброў «Клуба 90+» — добра, каб такі клуб пачаў сваю дзейнасць на старонках часопіса.

**З павагай,**
**Разалія Александровіч, Мінск**

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню. Падпісны індэкс **00469**.

## «Больш інтэрактыўнасці і падумайце пра нумар па-руску»

Я заўсёды падазраваў, што найлепшыя прадстаўнікі пішучай брацii — гэта не тыя, хто скончаў журфак. У дадзеным выпадку магчымасць публікавацца атрымалі збольшага прафесійныя гісторыкі. І ў іх проста выдатна выходзіць ствараць гісторыі. (Прашу прабачэння за таўталогію.) Асновай іх апавяданняў становіцца тое, пра што нам не распавядалі ў школе і ВНУ. Але гэта тычыцца нашай краіны, нашай гісторыі, і гэта вельмі цікава.

Атрымаўся рэальна здаровы глянцавы часопіс. Калі я яго ўзяў у рукі, то адразу ўспомніў, як у дзяцінстве з нецярпеннем чакаў новы нумар «Вакол свету». Зачытваў да дзірак, асалоду атрымліваў неймаверную. Цяпер — такая ж сітуацыя. Увогуле, плюс, рэспект, малайцы! Абсалютна ўпэўнены, што краіне патрэбны такі часопіс.

І трохі «дзёгцю». Тычыцца ён, хутчэй, прасоўвання самога часопіса, а не яго кантэнту.

Мілыя мае, дзе акаўнт «Наша гісторыі» ў інстаграме? У «НН» ён ёсць, але так сабе, а ў «НГ» не знайшоў. Затое там ёсць выдатны хэштэг #нашагісторыя. Пры беглым праглядзе выявіў вельмі яркія здымкі, дамоўцеся з аўтарамі, выкарыстоўвайце іх.

Любыя мае, а чаму вы не скарыстаецеся выдатным досведам «Вулля», калі яны праводзілі кампанію #nobelnamove па зборы грошай на пяцітомнік Святланы Алексеевіч «Галасы ўтопіі». Думаю, многія вядомыя і аўтарытэтныя людзі з задавальненнем публікавалі б у сябе інфармацыю аб вашым выдатным часопісе. Выдатная, дарэчы, была ідэя са статусам «амбасадара праекта».

Паважаныя мае, народ з радасцю стаў дзяліцца інфармацыяй і распавядаць у сябе на старонках пра «НГ». Арганізуйце для іх конкурсы: на найлепшае фота, на самы цікавы факт, на найлепшую тэму і г.д., і да т.п. Больш інтэрактыўнасці.

Усё гэта, думаю, вельмі нескладана зрабіць. Я б на вашым месцы яшчэ падумаў пра «Нашу гісторыю» па-расійску. Упэўнены, што аўдыторыя значна б падрасла. У рэшце рэшт, у «Нашай Ніве» ёсць рускамоўная версія.

Любімыя мае, дзякуй за часопіс. Поспехаў і развіцця! Спадзяюся, што і 100-ы нумар «НГ» будзе такі ж цікавы, як і 2-і :).

**Іван Мураўёў, Мінск**



ФОТА ІВАНА МУРАЎЁВА

**З прэзентацыі «Нашай гісторыі» №4** у Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі.

## «Быць самастойным гаспадаром з непрывычкі цяжка, але іншага шляху няма»

Бачанне свету, ментальнасць, «матрыца мыслення» перадаецца праз пакаленні генамі і моваю, традыцыямі, паданнямі, міфамі. Гэта дазваляе ўсведамляць сябе звёнцамі бясконцага ланцуга ўласнага роду (народа). Чалавек карыстаецца набыткамі цывілізацыі, нікому за гэта не дзякуючы. Ён прыйшоў сюды ні з чым, ні з чым адсюль і пойдзе. Але пакуль ён тут, дык мае права і абавязак карыстацца і захоўваць сваё, тое, што перайшло яму ад продкаў. Карыстацца і паляпшаць, знаходзячы новыя грані і колеры ў бясконца зменлівых формах і адценнях. Але каб штосьць паляпшаць, трэба яго найперш мець. Чалавеку — эгаісту і ўласніку — трэба мець найперш сваё.

Карыстаючыся чужой мовай, чалавек не паляпшае сваё жыццё, а працуе на чужое, якое выглядае сваім. І тады жыццё страчвае свой першародны сэнс, бо чалавек ужо не ўласнік, а наймальнік, не гаспадар, а батрак — біялагічная маса дзеля працягу віду. Жыццё чалавека, які не мае нічога свайго, страчвае сэнс.

Быць самастойным і адказным гаспадаром з непрывычкі цяжка, але іншага шляху няма. Ад асабістага выбару кожнага залежыць, ці будзем мы калі-небудзь людзьмі звацца.

**Віктар Савіцкі, Мінск**

# Армія Краёва ў Беларусі

## Значныя аперацыі, вядомыя камандзіры, вострыя пытанні



Малюнак Сяргея Дубовіка

**Польскі пункт гледжання на складаныя гістарычныя пытанні рэпрэзентуе журналіст з Гродна Андрэй Пачобут. Ужо некалькі дзесяцігоддзяў ён збірае інфармацыю пра АК.**

— У гісторыі Арміі Краёвай дастаткова шмат гераізму, але шмат і адчаю. Я з дзяцінства чуў розныя гісторыі пра падполле, пра змаганне, паспеў пабачыць шмат байцоў АК. Цяпер на Беларусі засталося трошкі больш за 20 чалавек жывых удзельнікаў. Я заспеў людзей, якія ў 60-я толькі выйшлі з турмы. Іх амністыя 1950-х не закранула. Але і пасля турмы яны не мелі права вярнуцца на Гарадзеншчыну: жылі ў Львове, у Літве. Да канца жыцця такія людзі заставаліся пад наглядам спецслужбаў.

### Колькі ўдзельнікаў налічвала акаўскае падполле на Беларусі

Размова ідзе пра дзясяткі тысяч людзей. Акрамя тых, хто быў у атрадах, існавала яшчэ падпольная сетка, якая дапамагала і забяспечвала байцоў. На 1945 год на Беларусі дзейнічала чатыры акругі АК: Навагрудская, Палеская, Віленская і Беластоцкая. І, нягледзячы на досыць моцныя ўдары, якія нанеслі АК савецкія спецслужбы, акаўскае падполле ў 1945-м заставалася вялікай сілай. Да такой ступені вялікай, што ў некаторых рэгіёнах нават існавала двоеўладдзе.

### Хто ішоў у АК

АК больш чым на 90% складалася з мясцовых людзей. Гэтым яна адрозніваліся ад савецкай партызанкі, якая ў першы перыяд існавання прыкладна на столькі ж складалася з людзей немясцовых: тых, хто патрапіў у акружэнне, прадстаўнікоў райкамаў і чыноўнікаў, прысланых сюды ў 1939-м, якія не паспелі эвакуіравацца.

У Налібаках быў партызанскі канфлікт паміж саветамі і АК, і захаваўся дакумент, які АК перадала савецкім партызанам: «Спыніце забіваць нашы сем'і, калектыўная адказнасць не павінна прымяняцца. Калі вы не спыніцеся, мы будзем рабіць адпаведна, таксама будзем забіваць». Вы думаеце, гэта на кагосьці паўплывала? Саветы не спыніліся, таму што былі немясцовыя.

### Ці праўда, што АК не змагалася супраць немцаў

Вядомы савецкі штамп: «АК у час акупацыі стаяла са зброяй ля нагі» — маўляў, яны не змагаліся з немцамі. Але сэнс у тым, што праводзіць аперацыі супраць немцаў АК старалася вельмі асцярожна, бо немцы каралі цэлыя вёскі за супрацоўніцтва з партызанамі.

### На што спадзяваліся байцы АК

У 1939 годзе праз Заходнюю Беларусь ішлі бальшавікі, нібыта іх было шмат, танкі ехалі, самалёты ляцелі. А праз два гады тыя ж бальшавікі ўцякалі і здаваліся ў палон. У 1941 годзе ішлі немцы. Іх было шмат, танкі ехалі, самалёты ляцелі. Гэта была вялікая сіла. А пасля і гэтая вялікая сіла ўцякала, і ў чарговы раз прыйшлі бальшавікі. Таму ў 1944–1945 гадах у часткі грамадства яшчэ заставаліся надзеі, што і бальшавікі прыйшлі ненадоўга.

**АК не была палітычнай арганізацыяй. Гэта была падпольная армія**

Савецкі рэжым падаваўся антычалавечым і эканамічна вар'яцкім, у людзей забіралі іх звыклы лад жыцця. Таксама шакавала вайна з рэлігіяй.

Рапарты НКВД сведчаць, што многія людзі думалі, нібыта пасля вайны саветаў з немцамі будзе вайна саветаў з амерыканцамі. Франтавікі сутыкнуліся з войскамі саюзнікаў і ўразіліся, наколькі яны добра арганізаваныя і забяспечаныя, пабачылі магутнасць заходніх дэмакратый. Чаканні, што будзе вайна Захаду з Усходам, што мяжа яшчэ раз зменіцца, стваралі глебу для падтрымання веры ў перамогу АК.

### Як Віленская аперацыя магла не дапусціць Варшаўскага паўстання

Аперацыя «Вострая брама» — спроба вызвалення Вільні ад немцаў атрадамі АК 6–13 ліпеня 1944 года. Сваімі сіламі вызваліць Вільню не ўдалося, але разам з тым унёсак АК у вызваленне ад нацыстаў быў істотны. ▶

**Армія Краёва (АК)** была створана ў лютым 1942 года па загадзе польскага ўрада, які эміграваў у Вялікабрытанію пасля нападу Германіі ў 1939 годзе. «Краёва» — значыць тая, якая дзейнічае «ў краіне», «на радзіме», бо іншыя часткі Войска Польскага ваявалі на баку саюзнікаў на розных франтах. АК дзейнічала на тэрыторыі даваеннай Польскай Рэспублікі, гэта значыць, і на землях Заходняй Беларусі. Афіцыйна распусцілі яе ў студзені 1945-га, але да пачатку 1950-х працягвалі дзейнасць асобныя постакаўскія фарміраванні. Лічба сяброў АК невядомая, польскія даследчыкі пішуць, што ў час найбольшага ўздыму (лета 1944-га) яна дасягала 390 тысяч чалавек. Нямецкая выведка ацэньвала колькасць у 100–200 тысяч. Трэба ўлічваць, што гэта на тэрыторыях Польшчы, Украіны, Літвы і Беларусі разам.



**Polska Walcząca — Польшча, якая змагаецца.** Сімвал польскага супраціву часоў вайны стаў таксама сімвалам АК. Аўтарка праекту Анна Смаленская загінула ў Аўшвіцы ва ўзросце 23 гадоў



Цікавая акалічнасць: з АК супрацоўнічалі Казімір і Люцыя Дзяржынскія — брат Фелікса Дзяржынскага і яго жонка. Ён быў перакладчыкам у мясцовых нямецкіх органах улады, яна — перакладчыцай у гестапа. І абое былі агентамі АК. План аперацыі і яе камандны пункт знаходзіўся ў іх у хаце. Атрады АК атакавалі жандармерыю і казармы, і пасля працяглага бою ім удалося захапіць горад. Калі АК сыходзіла з Івянца, камандзір заклікаў Дзяржынскіх пайсці з імі. Але Дзяржынскія палічылі, што яны не дэканспіраваныя і лепш заставацца ў Івянцы, каб спрабаваць пераканаць немцаў, што атрад АК быў не мясцовы. Люцыя была немкай і добра ведала нямецкую мову, карысталася даверам і здолела пераканаць, што атрад АК не тутэйшы. Гэта выратавала многа жыццяў. Праз нейкі час Дзяржынскія былі дэканспіраваныя, іх расстралялі. Іх магіла ў Івянцы — адзіная магіла акаўцаў на тэрыторыі Беларусі, што знаходзіцца пад патранажам Камітэта дзяржаўнай бяспекі. Камітэтчыкі прыбіраюць гэту магілку. Натуральна, яны не акцэнтуюць, што Казімір і Люцыя былі акаўцы, яны проста «супрацоўнічалі з партызанамі».

## З АК супрацоўнічалі Казімір і Люцыя Дзяржынскія — брат Фелікса Дзяржынскага і яго жонка. Немцы іх расстралялі, а магілы цяпер даглядае КДБ

▶ Мацей Калянкевіч (Котвіч) — адзін з аўтараў плана аперацыі «Вострая брама» — афіцэр, удзельнік вайны 1939 года. Ён быў у складзе Першага польскага партызанскага атрада, які дзейнічаў на тэрыторыі Польшчы. Пасля патрапіў у Англію, бо хацеў служыць у рэгулярным войску. Гэта ён прыдумаў спецкурс для дыверсантаў, сам прайшоў яго, быў скінуты на тэрыторыі Польшчы і накіраваны на Наваградскую акругу АК. У 1944-м Котвіч з'явіўся на Гарадзеншчыне, быў паранены, яму ампутавалі руку. З-за аперацыі аўтар плана «Вострай брамы» не змог удзельнічаць у яго здзяйсненні.

Немцы, дзякуючы аэраразведцы, мелі інфармацыю пра будучую аперацыю АК. Гітлер аддаў загад, каб Вільню баранілі да апошняга, абвясціў яе горадам-крэпасцю, каб сілы, якія трапляюць у акружэнне, працягвалі абарону. Такога ніхто не чакаў. Чакалася, што, наадварот, набліжэнне фронту выкліча ў немцаў паніку.

Сілам АК не ўдалося вызваліць Вільню, прыйшлі саветы, і гэта ўдалося зрабіць разам. Калі Вільня была вызвалена, пачаліся перамовы кіраўніцтва віленскай АК і савецкага боку, з якога выступаў генерал Іван Чарняхоўскі. Ён дзейнічаў пад кантролем савецкіх спецслужбаў, яго партнёрам быў Іван Сяроў, сумнавядомая постаць, адзін з кіраўнікоў савецкай бяспекі. Яны адмыслова распрацавалі аперацыю, каб арыштаваць кіраўніцтва АК. На 70% аперацыя прынесла ім тое, што яны запланавалі. Удалося арыштаваць кіраўніка віленскага падполля АК.

Але не ўсе кіраўнікі пагадзіліся з'явіцца на нараду з саветамі. Хоць усе сігналы сведчылі, што прычын баяцца няма, частка кіраўніцтва, ведаючы савецкія норавы, не давярала СССР. Менавіта яны здолелі вырвацца з акружэння. Котвіч быў прыхільнікам таго, каб атрады, якія вырваліся з акружэння, захапілі раён і вялі вайну з саветамі. Каб была створана

лінія абароны і яны змагаліся з саветамі непартызанскім шляхам. Ён адкрыта пісаў, што вынік такога канфлікту зразумелы для кожнага: усе загінулі б. Але, сцвярджае ён, гэта магло б паўплываць на рашэнне заходніх саюзнікаў не супрацоўнічаць з саветамі, магло б абудзіць сумленне на Захадзе...

Мне здаецца, што, калі б такая тактыка была выкарыстана, не было б пасля Варшаўскага паўстання. Ніхто б ужо не лічыў, што саветы неяк дапамогуць. Тады Віленская і Навагрядская АК загінула б да апошняга чалавека, але саветам прыйшлося б прадэманастраваць свае мэты ў дачыненні да АК. Разлік на дапамогу СССР быў памылкай, якая каштавала вялікай колькасці жыццяў жыхароў Варшавы.

## Што вяло ў АК праваслаўных

Ёсць рапарт выведкі «Саюза ўзброенай барацьбы» (папярэдніка Арміі Краёвай), дзе ўзгадваюцца словы аднаго з палешукоў: саветам за два гады ўдалося зрабіць тое, што Польшча за 20 гадоў не здолела — зрабіць нас палякамі. Двух гадоў — 1939–1941 — хапіла, каб насельніцтва, незалежна ад веравызнання і нацыянальнасці, зразумела, што такое савецкі лад.

Але і да таго некаторыя праваслаўныя, не толькі каталікі, сталі патрыётамі Польшчы — гэты патрыятызм ім прышчапляла школа і войска. Саветы расчаравалі, потым расчаравалі немцы. Калі немцы прыйшлі, іх сустракалі нармальна, бо была памяць пра культурных немцаў з Першай сусветнай вайны. А гэтыя, другія, немцы пачалі забіваць яўрэяў і сем'і савецкіх актывістаў, стала ясна, што гэта абсалютна антычалавечы рэжым.

На фоне гэтага вобраз міжваеннай Польшчы з яе парадкам і стабільнасцю станавіўся прывабны. ▶



**Ян Піўнік (Пануры).**



**Помнік паўстанцам Варшавы** на пляцы Красінскіх.

SHUTTERSTOCK, BY S.TATIANA

## Самыя вядомыя аперацыі АК у Беларусі

### Захоп Івянца 19 чэрвеня 1943 года

Некалькі дзясяткаў гадзін Івянец быў адзінай тэрыторыяй былой Польшчы, дзе была польская ўлада і вісеў польскі сцяг. У Налібоцкай пушчы склалася ўнікальная сітуацыя, калі польскае падполле супрацоўнічала з чырвонай партызанкай. Яны хацелі праводзіць нават супольную акцыю ў Івянцы, але савецкія партызаны ад плана адмовіліся. Івянецкае паўстанне — аперацыя стаўбцоўска-налібоцкага згуртавання АК.
Прычыны захопу Івянца называюцца розныя. Па-першае, паліцыя Івянца была перавербавана акаўцамі, і існавала пагроза выкрыцця. Акрамя таго, з Івянца меліся вывозіць людзей на працу ў Германію. І каб гэтага ўсяго пазбегнуць, вырашана было атакаваць нямецкі гарнізон у горадзе.

### Вызваленне вязняў у Пінску і Лідзе

Быў таксама і шэраг удалых дыверсійных аперацый АК, напрыклад вызваленне вязняў з турмы ў Пінску і ў Лідзе. Аперацыі высакаякасныя. У горадзе, дзе каля 30 тысяч немцаў, пайдзі вызвалі сваіх сяброў — пра гэта смела можна было б здымаць кіно. У пінскай турме знаходзіліся афіцэры, якія прайшлі падрыхтоўку ў Англіі, і рашэнне аб тым, што трэба іх вызваляць, прыняло галоўнае кіраўніцтва АК. Выконваў аперацыю Ян Піўнік (Пануры). Пераапранутыя ў нямецкую форму акаўцы на нямецкай машыне заехалі ў турму, і калі ахова зразумела, што нешта не так, было позна.
У Лідзе аперацыя прайшла паспяхова дзякуючы таму, што ўдалося завербаваць паліцыянтаў з унутранай аховы турмы.
Была яшчэ спроба вызваліць вязняў з мінскай турмы на Валадарскага, але няўдалая: нямецкія спецслужбы зарыентаваліся, і дыверсійная група была аточаная ў сваім доме і пасля працяглага бою знішчана.



**Могілкі жаўнераў 5-й віленскай брыгады АК,** якія загінулі ў баях з немцамі. Вёска Варзяны Астравецкага раёна.

### ▶ Чаму АК атакавала беларускіх актывістаў

АК не атакавала актывістаў, яна атакавала калабарантаў — тых, хто супрацоўнічаў з нацыстамі без згоды падполля. А такую згоду можна было атрымаць і пасля працаваць пры немцах на любой пасадзе. Такія прыклады вядомыя, людзі перадавалі разведдадзеныя, АК перадавала іх ураду, які знаходзіўся ў Вялікабрытаніі, і той дзяліўся з Савецкім Саюзам. Калі чалавек пераходзіў на бок немцаў, ён павінен быў лічыцца з тым, што можа быць забіты падполлем.

Акрамя таго, канкурэнцыя паміж беларускімі актывістамі і палякамі на мясцовым узроўні часта выклікала ўзаемную варажнечу. Яе свядома распальвалі немцы — «падзяляй і ўладар». Напрыклад, лагер у Калдычэве пад Баранавічамі, у якім сядзела шмат акаўцаў, ахоўваў беларускі паліцэйскі батальён.

### Як АК супрацоўнічала з беларусамі

Яркі прыклад супрацоўніцтва беларускіх і польскіх актывістаў — бургамістр Мінска Вацлаў Іваноўскі. Пра ягоныя таемныя кантакты з Арміяй Краёвай захаваліся ўспаміны Гражыны Ліпіньскай — кіраўніка акаўскай разведкі ў Мінску. Яна піша, што Іваноўскі дапамагаў легалізавацца ў Мінску афіцэрам Арміі Краёвай, саму Ліпіньскую ўладкаваў на працу ў Мінскую гарадскую ўправу, дзе разведчыца прапрацавала да 3 ліпеня 1944 года. Што было б далей з гэтага супрацоўніцтва, калі б Іваноўскага не забілі (дарэчы, невядома хто), цяжка сказаць, але ў той момант ён утрымліваў кантакты з польскім падполлем, і гэта было карысна польскаму боку.

У АК не было планаў на Мінск, але тут дзейнічала далёкая разведка — Мінск быў буйным транспартным вузлом.

Увогуле, пытанне ўдзелу беларусаў ці, шырэй, праваслаўных у АК — па-ранейшаму табу для беларускай гістарыяграфіі. Прытым што гэты факт быў. Скажам, у архіве Інстытута нацыянальнай памяці ў Польшчы ёсць знойдзены польскай дзяржбяспекай прыператрусе ў аднаго з сяброў падполля спеўнік з песнямі, якія спявалі ў стаўпецка-налібоцкім згрупаванні АК. Там ёсць і песні на беларускай мове. Памятаю, напрыклад, такія радкі:

> «Гэй, беларусы, час нам да бою
> Біць маскалёў і з айчыны прагнаць.
> Родная Польшча, мы за табою
> Пойдзем за родны край паміраць!»

Было столькі публікацый у беларускай прэсе пра АК і столькі даследаванняў — і нікога гэтая частка гісторыі так і не зацікавіла.

### Мясціны АК

Галоўнай базай АК у Беларусі былі ваколіцы Ліды, Васілішак, Шчучына, Воранава, Парэчча. Самыя вядомыя пахаванні жаўнераў АК знаходзяцца ў вёсках Нецеч (вайсковыя могілкі жаўнераў 4-га батальёна 77-га палка пяхоты АК), Нача (вайсковыя могілкі жаўнераў 2-га батальёна 77-га палка пяхоты АК), хутар Сурконты (побач з вёскай Пеляса), дзе знаходзяцца адзіныя на Беларусі пахаванні акаўцаў, якія загінулі ў баі з НКВД, што ахоўваюцца на дзяржаўным узроўні.

### Колькі невінаватых забіла АК

У час вайны хуткасць, з якой чалавек можа націснуць на спускавы кручок, павялічваецца. Выпадкі свавольства здараюцца ў любой партызанцы.

Цяпер мірны час, дзейнічаюць праваахоўныя органы, але ўсё адно ёсць гвалт, ёсць гнюсныя злачынствы. А вы ўявіце, калі б не было праваахоўных органаў і наступіў бы час дэстабілізацыі! Безумоўна, што ў такой сітуацыі расце колькасць злачынстваў. На маю думку, дастаткова часта АК прыпісваліся падзеі, не звязаныя з ёй. З унутраных дакументаў польскага падполля бачна, што працэдура прымянення пакаранняў была вельмі фармалізаваная. Ствараліся судовыя органы, якія разбіралі кожную справу. Калі АК некага забівала, на тое мусіла быць судовае рашэнне. А калі акавец забіваў некага па сваёй волі, яго судзілі. Кіраўніцтва падполля сачыла за дысцыплінай і карала за рабаўніцтвы і самавольныя забойствы.

Проста так мірных людзей ніхто не забіваў. Забівалі супрацоўнікаў дзяржбяспекі, забівалі за канкрэтныя дзеянні, даносы. Я некалі размаўляў з адным чалавекам, і ён распавёў, як забілі яго сваяка, які супрацоўнічаў з НКВД. Як яго выкрылі? Каб праверыць яго, прыйшлі акаўцы ў савецкай форме, і ён пачаў ім дакладваць.

Быў такі камандзір АК Вацлаў Шварабовіч (Кепура), яго таксама называлі Шварабой. Аднойчы акаўская разведка фіксуе, што Шварабой стаў рабаваць: у адным месцы, у другім, у трэцім. Пачалі

**Вацлаў Іваноўскі (**1880–1943) — стваральнік першага беларускага выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца». У 1917–1920 гадах — актыўны ў палітыцы, у снежні 1918-га пасля адыходу немцаў з Мінска спадзяваўся на стварэнне кааліцыйнага ўрада БССР, аднак у маі 1919-га арыштаваны саветамі. Пасля вызвалення адмовіўся выехаць у Польшчу, вярнуўся ў Мінск, дзе загадваў выдавецкай дзейнасцю пры гарадскім аддзеле адукацыі. Расчараваўшыся ў Савецкай Расіі, з'ехаў у Польшчу, сышоў у выкладчыцкую дзейнасць. У 1922–1939 гадах займаў пасаду прафесара Варшаўскага політэхнічнага інстытута — ён быў па адукацыі і прафесіі тэхнолаг харчовай прамысловасці. У 1942-м немцы прызначылі яго на пасаду бургамістра Мінска. Перш чым паехаць у Мінск, ён даручыў дачцэ вывезці з Вільні дзвюх жанчын яўрэйскага паходжання. 6 снежня 1943 года яго забілі невядомыя. Іваноўскі быў папулярны ў народзе, таму ніхто не ўзяў на сябе адказнасць за замах. Пахаваны на Кальварыйскіх могілках.

разбірацца — а ён не мог гэтага рабіць, яго там фізічна не было! Аказваецца, рабавала група людзей, якая казала, нібы сярод іх ёсць Шварабовіч. Чаму менавіта гэтым псеўданімам прыкрываліся? Бо гэта была сур'ёзная сіла, і ніхто не хацеў супраціўляцца Шварабовічу, лічылі, што лепш усё адразу аддаць. АК выявіла, хто гэта рабіў, і сярод белага дня ў вёску Зіневічы прыйшоў сапраўдны Шварабовіч і застрэліў гэтых траіх. Іх забілі за тое, што яны, не будучы сябрамі АК, выкарыстоўвалі гэтую назву. Яны цяпер у спісах фігуруюць як нявінныя акаўскія ахвяры.

Другі бок справы — правасуддзе. У праватной дзяржаве ёсць суды, якія могуць вывучаць справу, дапытваць каго захочуць — і ўсё адно здараюцца несправядлівыя прысуды. А ўявіце сабе сітуацыю падполля. Ацэньваючы якасць падпольнага правасуддзя, варта памятаць пра ўмовы, у якіх яно дзейнічала. У Баранавічах адбылася сітуацыя, калі сябра падполля абвінавацілі ў супрацоўніцтве з немцамі і павінны былі за гэта расстраляць. Але тая асоба, якая прымала рашэнне, вагалася, правярала аргументы. Падсудны здолеў уцячы, і ў выніку некалькі дзясяткаў людзей было расстраляна немцамі. Гэта прыклад, калі гуманізм і жаданне ўсё ўзважыць прывяло да большай трагедыі.

## Што праўда, а што не з таго, што пісалі пра АК у Беларусі

Немагчыма гаварыць пра ўсебаковае даследаванне, пакуль у архівы дапускаюць толькі выбраных.

У растыражаванай кнізе Яўгена Сямашкі «Армія Краёва на Беларусі» (1994) шмат праўды, але столькі ж і маніпуляцый. Яшчэ адна ідэалагізаваная праца «Огнем и мечом: хроника польского националистического подполья в Белоруссии (1939–1953 гг.)» Сяргея Жумара і Віктара Ермаловіча (1994). Аўтары працавалі выбраныя месцы з архіваў КДБ.

Гісторыю АК у Беларусі напішуць толькі пасля поўнага раскрыцця архіваў.

## Хто самыя значныя персанажы АК у Беларусі

Сярод камандзіраў АК шмат геройскіх постацяў. Перш за ўсё, Ян Піўнік (Пануры). Даваенны паліцыянт, ён ваяваў у верасні 1939-га з немцамі, пасля ў Францыі — з немцамі, пасля з польскімі вайсковымі часткамі апынуўся ў Брытаніі, прайшоў дыверсійны курс (падрыхтоўка спецназа, яны называліся «ціхацёмныя» на жаўнерскім слэнгу) і быў самалётам перакінуты ў Польшчу. Піўнік стварыў атрад пад Кельцамі і быў перакінуты на Шчучыншчыну, дзе камандаваў 7-м батальёнам 77-га палка пяхоты АК. Ён загінуў падчас бітвы з немцамі пад вёскай Багданы на Гродзеншчыне. Яго пахавалі ў Ваверцы на Лідчыне, але ў канцы 1980-х была праведзена эксгумацыя і парэшткі перанеслі на радзіму ў горад Хоцк на Келеччыне. Гэта была вялікая ўрачыстасць, у якой удзельнічалі дзясяткі тысяч людзей.

Вельмі значная постаць — Анатоль Радзівонік (Олех). Гэта апошні камандзір АК, які тут застаўся і загінуў. Быў з праваслаўнай сям'і, нарадзіўся ў Бранску — сям'я апынулася там падчас Першай сусветнай. Пасля вярнуўся на радзіму на Ваўкавышчыну, стаў настаўнікам. Але, у адрозненне ад шматлікіх адэптаў чырвонай ідэалогіі, Радзівонікі на ўсё жыццё запомнілі чырвоную ўладу, якую пабачылі ў бежанстве. Олех быў ідэйным ▶



13 ліпеня 1944 года. **Байцы АК і Чырвонай Арміі патрулююць Вільню.** На заднім плане — Пятніцкая царква.

### Супрацiў стрымлiваў калектывiзацыю

Пакуль у Заходняй Беларусi, Украiне i Балтыi актыўна дзейнiчала падполле, калектывiзацыi не праводзiлi — ведалi, што людзi будуць масава далучацца да партызан. Калi арганiзаванае падполле перастала iснаваць, пачалася масавая хваля калектывiзацыi. Але яна ўсё адно не насiла такога бязлiтаснага характару, як ва Усходняй Беларусi i рэшце СССР. Гэта зберагло сялянскi дух, менш людзей дэпартавалi ў Сiбiр.

▶ антыкамунiстам. Ён умела кiраваў падполлем, на яго палявалi. Тры цi чатыры разы НКВД абвяшчала яго забiтым, але кожны раз памылялася: аказвалася, што ён змянiў псеўданiм. Ён загiнуў 12 мая 1949 года ў вынiку даносу: ля хутара Рачкаўшчына ў Шчучынскiм раёне ягоны атрад быў узяты ў тры колы аблавы.

Дзе пахаваны Олех, невядома. I ў Беларусi, i ў Балтыi, i ва Украiне НКВД хаваў целы ўдзельнiкаў падполля ў сакрэтных, безыменных магiлах, каб iх пахаваннi не ператвараліся ў месцы памяцi.

Але перад тым целы нярэдка выкладалi ў публiчным месцы, каб паказаць, што байцы мёртвыя. Гэта быў яшчэ адзiн спосаб псiхалагiчнай вайны. Калi быў лiквiдаваны паручнiк Ян Барысевiч (Крыся), папулярны на Гарадзеншчыне камандзiр, яго цела распранулi да кальсонаў i так вазiлi па вёсках: глядзiце, гэта ваш бог, цалуйце яму ногi. Ваш супрацiў бессэнсоўны!

### Чаму АК — частка беларускай гiсторыi

Армiя Краёва была часткай руху супрацiву нацыстам, а пасля — Саветам, двум таталiтарным рэжымам. Хоць гэты супрацiў прывёў да шматлiкiх ахвяр, у гiсторыi засталося: людзi супрацiўлялiся. I нават няважна, як хто да яго ставiцца. Больш за тое, я ўпэўнены, што наяўнасць такога супрацiву скоўвала сiлы таталiтарных рэжымаў i, у канчатковым вынiку, зменшыла колькасць iх ахвяр. ◆



ВЫДАВЕЦКАЕ УНІТАРНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА «ЧАС НАВІНАЎ». УНП 190790926




**Жаўнеры 5-й віленскай брыгады АК.** 1945 год.

# ГЕРОІ ЦІ БАНДЫТЫ?

## Чаму свядомыя беларусы не падтрымлівалі Армію Краёву

**Кім былі партызаны АК для беларусаў, разважае кандыдат гістарычных навук Аляксандр Пашкевіч.**

АК і польскае партызанскае змаганне ў Заходняй Беларусі — тэма па азначэнні кантраверсійная. У ёй сутыкаюцца як мінімум тры падыходы: польскі, савецкі і нацыянальна беларускі.

### Героі

Для палякаў усё ў гэтым пытанні проста і зразумела. Перад Другой сусветнай вайной яны мелі дзяржаву, якая ў верасні 1939 года была падзеленая паміж нацысцкай Германіяй і сталінскім СССР паводле ўмоў сумнавядомых сакрэтных пратаколаў да пакта Молатава – Рыбентропа. Натуральна, што палякі прыняць новую рэчаіснасць ніяк не маглі і, адышоўшы ад ваеннага паражэння, арганізавалі на ўсіх акупаваных тэрыторыях моцны рух супраціву. Удзельнікі гэтага руху для палякаў – героі народнага змагання за волю і незалежнасць, а нейкія непрывабныя бакі той барацьбы — прыкрыя, але непазбежныя ў такой сітуацыі выдаткі.

### Злачынцы

Просты быў і савецкі погляд на праблему. Ён, хоць і ў мякчэйшай

форме, жывы ў Беларусі да сённяшняга часу. Паводле яго, на тэрыторыях, дзе пасля 1917 года ўсталявалася савецкая ўлада, распачалася пабудова новага, справядлівага грамадства. Нягледзячы на тое, што падчас гэтага будаўніцтва дапускаліся «грубыя памылкі» (такім эўфемізмам, напрыклад, называлі масавыя рэпрэсіі 1930-х гадоў), гістарычная прагрэсіўнасць такога грамадства не ставілася пад сумнеў. І гэта нібыта калі не розумам, то сэрцам разумелі «працоўныя ўсяго свету», а сярод іх і беларусы-заходнікі, грамадзяне «буржуазнай» Польшчы. Усе яны толькі і марылі, каб далучыцца да сацыялістычнага будаўніцтва, і ў верасні 1939 года іхняя мара здзейснілася. «Палякі-эксплуататары» былі незадаволеныя такім зыходам справы, таму разгарнулі супраць савецкай улады, якая неўзабаве ўступіла ў вайну з гітлераўскай Германіяй, узброеную барацьбу. І не спынілі яе нават пасля заканчэння нямецкай акупацыі. У выніку, аднак, польскія «банды» пацярпелі гістарычную паразу, а будаўніцтва светлай будучыні на ўсёй тэрыторыі Беларусі працягнулася.

Вядома, такая ідылічная карціна мае мала супольнага з рэчаіснасцю. Сёння добра вядома, якой была тады савецкая дзяржава. Гвалтоўная калектывізацыя, раскулачванне, масавыя расстрэлы «ворагаў народа», разгалінаваная сістэма ГУЛАГа. Усё гэта напоўніцу паспыталі беларусы, якія былі грамадзянамі СССР да вайны. Але і заходнікам, што пабылі пад Саветамі менш за два гады, хапіла часу, каб пераканацца ў сутнасці гэтага рэжыму.

## А што думаць беларусам?

Як польскі, так і савецкі погляды не бяруць да ўвагі іх інтарэсы і прэтэнзіі на ўласную дзяржаўнасць. Гэтай дзяржаўнасці беларусам не ўдалося атрымаць пасля Першай сусветнай вайны, хоць яны за яе змагаліся. Больш за тое, беларуская этнічная тэрыторыя тады была штучна падзеленая польска-савецкай мяжой.

Натуральна, дзеячаў беларускага руху такое становішча задаволіць не магло. Бадай што, не было ў міжваенны час ніводнай беларускай арганізацыі ў Польшчы, якая б пагаджалася з наяўным станам рэчаў. У розным выглядзе — незалежная дзяржава, далучэнне Заходняй Беларусі да СССР, далучэнне Усходняй Беларусі да Польшчы, — але пастулат нацыянальнага аб'яднання заўсёды прысутнічаў у іх праграмах.

І ніхто з беларускіх палітыкаў не меў ілюзіі, што аб'яднанне можа здарыцца мірным шляхам. Публіцыст віленскай газеты «Беларускі звон», падпісаны псеўданімам «Ярашэўскі», у 1922 годзе прарока пісаў:

«"Раўнавага" ў Еўропе патрывае мо некалькі гадоў, пакуль не прыйдзе новая завіруха, ад якой мо вельмі зменіцца палітычная карта Еўропы. Тады і палажэнне беларусаў можа сур'ёзна змяніцца — на дабро ці мо і на зло. Вось жа ад таго, што мы здолеем зрабіць за гэтыя гады, будзе залежаць і ўвесь наш нацыянальны быт. Будзем сільнымі культурна і эканамічна — дык сваё возьмем! Будзем кволымі, слабымі — дык такая ж будзе і доля наша!»

Спробы стаць «сільнымі культурна і эканамічна» ў 1920–1930-я гады сапраўды рабіліся. Але па розных прычынах яны не мелі поспеху. Да верасня 1939 года, калі ў свеце рэальна пачалася «новая завіруха», беларусы ў Польшчы былі ва ўсіх адносінах «кволымі, слабымі». Добра, што хоць жывымі, — бо тыя, хто паверыў у савецкія хімеры і пасля польскіх турмаў скіраваўся шукаць лепшай долі ў СССР, падзялілі лёс сваіх усходнебеларускіх братоў.

## Чаму адны беларусы падтрымалі АК, а іншыя не

Пасля пачатку вайны адзінае, што заставалася беларусам, — зрабіць стаўку на кагосьці з буйных гульцоў: гітлераўскую Германію, сталінскі СССР ці разгромленую, але няскораную польскую дзяржаву, якую на Беларусі прадстаўляла ўзброенае падполле — Армія Краёва.

Поўнага адзінства сярод беларускіх дзеячаў, якія засталіся на акупаванай тэрыторыі, не было. Многія з іх сталі працаваць у нямецкай акупацыйнай адміністрацыі, іншыя ўключыліся ў стварэнне структур савецкага падполля і партызанскага руху. У той жа час да польскага падполля не далучыўся, бадай, ніхто з беларускіх палітыкаў. Хоць у гэтым руху дастаткова актыўна ўдзельнічалі простыя жыхары Заходняй Беларусі. Чаму так?

Маральнай перавагай польскага падполля было тое, што толькі яно не было прадстаўніком таталітарнага рэжыму. Хоць міжваенную Польшчу, асабліва ў 1930-я гады, цяжка назваць дэмакратычнай краінай, усё ж такі яе палітычныя практыкі былі не супастаўныя са сталінскімі ці гітлераўскімі. Таму многім жыхарам Заходняй Беларусі (і не толькі ►



**Атрад Олеха** дзейнічаў на Лідчыне. Адметна, што Олех (Анатоль Радзівонік) быў праваслаўным.

WIKIMEDIA COMMONS

▶ палякам), якія глядзелі на сітуацыю прагматычна, вяртанне даваенных польскіх парадкаў падавалася не найгоршым варыянтам. І гэта прыцягвала іх у атрады Арміі Краёвай. Таму АК не ідэйна, але дэмаграфічна — у пэўнай ступені і беларуская з'ява.

## АК у пэўнай ступені і беларуская з'ява — не ідэйна, але дэмаграфічна

Але для прадстаўнікоў беларускай эліты, якая намагалася выкарыстаць ваенную завіруху для стварэння ўласнай дзяржавы і аб'яднання этнічнай тэрыторыі, каменем спатыкнення стала пытанне рыжскай мяжы. Беларусы ніяк не маглі пагадзіцца на тое, каб Беларусь і пасля вайны засталася падзеленай. Яны разумелі, што іншага гістарычнага шанцу для аб'яднання можа не надарыцца. Але палякі хацелі аднаўлення даваеннай усходняй мяжы і гатовыя былі весці сур'ёзныя перамовы толькі на гэтай аснове.

Таму польскі варыянт і не стаў для свядомых беларусаў у гады Другой сусветнай вайны сур'ёзнай альтэрнатывай нямецкаму ды савецкаму. І стаўленне іх да польскага падполля было збольшага варожым ці ў лепшым выпадку стрыманым. Такім яно і заставалася ўсю вайну, нягледзячы на пэўныя спробы беларуска-польскіх перамоў, пра якія згадвае Андрэй Пачобут. І натуральна, што браць у палякаў дазвол на правядзенне нацыянальнай працы ніхто з беларусаў не збіраўся. Паколькі не ўспрымалі іх за адзіных гаспадароў гэтай зямлі, а сябе — за гасцей на ёй.


Ks. praf.
ADAMU STANKIEVIČU
z pryčyny trahičnaje śmierci
brata VALENTAHA
zabitaha bandytami u rodnych Arlaniatach
vykazyvajuč ščyraje spačućcio
Dyrekcyi i Pedahahičnyja Rady
Biełaruskich Škołau u Vilni.

**Брат ксяндза Адама Станкевіча** загінуў ад рук жаўнераў АК.

### Ці запэцканыя акаўцы беларускай крывёй?

У дзейнасці любой партызанкі ёсць усялякія старонкі: і гераічныя, і ганебныя. Армія Краёва тут аніякае не выключэнне. Другая сусветная вайна на тэрыторыі Беларусі была сапраўднай вайной «усіх супраць усіх». Усе бакі не асабліва пераймаліся этычнымі момантамі, калі ішла гаворка пра забеспячэнне сваіх інтарэсаў. Тым больш у гады вайны, калі кроў лілася няспынна і штодня, каштоўнасць чалавечага жыцця дэвальвавалася, і не кожны мог процістаяць спакусе дзейнічаць па прынцыпе «няма чалавека — няма праблемы».

Ідэалагічна-прававую базу пад рэпрэсіі з боку АК пры жаданні можна было падвесці лёгка. Любы чалавек, які публічна выказваўся за незалежную і непадзельную Беларусь, тым самым адмаўляў узнаўленне Польшчы ў ранейшых межах. Адпаведна, мог быць кваліфікаваны палякамі як здраднік і на гэтай падставе «пушчаны ў расход». Але ці заслугоўвала гэтае «здрадніцтва» найвышэйшай меры пакарання і ці не мела месца проста расправа над непажаданым чалавекам — пытанні застаюцца.

Захавалася нямала сведчанняў і расповедаў пра жахлівыя рэчы, якія чынілі ў беларускіх вёсках жаўнеры Арміі Краёвай. Напрыклад, адразу пасля вайны вядомы беларускі каталіцкі святар, дзеяч Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Адам Станкевіч занатаваў у сваім дзённіку




Надпіс на крыжы: **«Анатоль Радзівонік (пс. Олех). Апошні камандзір аб'яднаных узброеных сілаў Ліда – Шчучын. Загінуў разам з аддзелам АК у барацьбе з НКВД 12 мая 1949 г. пад Рачкаўшчынай, баронячы айчыну. Гонар іх памяці»**.

(які, што важна, пісаўся для сябе і не прызначаўся для публікацыі):

«Была сястра, расказвала аб іх жыцці на вёсцы падчас вайны і ваенных пераходаў. а) Усе дзерлі і мардавалі народ: немцы, бальшавікі і палякі-партызаны, але гэтыя апошнія "превзошли" ўсіх, гэта былі агулам, з малымі выняткамі, фармальныя бандыты, і грабежнікі, і звярыныя шавіністы. Майго брата Валентага ў Арлянятах да смерці закатавалі за тое, што ён называў сябе і пісаў беларусам. За гэта ж білі да паўсмерці швагра Ант. Астроўскага ў Вішнёўцы і многіх-многіх беларусаў, асабліва праваслаўных. З бандамі былі ксяндзы, іх "капеланы"; уночы забіваюць людзей, а ўдзень спавядаюцца, прычашчаюцца. Ксёндз адпраўляе імшу; так, напрыклад, было пад гумном у Астроўскага ў Вішнёўцы...»

Падобных сведчанняў можна прывесці шмат. Не думаю, аднак, што ў гэтым ёсць патрэба. Бо я зусім не стаўлю задачы ачарніць АК і паказаць яе, насуперак польскаму погляду, з выключна негатыўнага боку. І тым больш не збіраюся скочвацца ў абвінаваўчы пафас.

Бо сам па сабе польскі супраціў быў не лепшы і не горшы за іншыя




POLACYGRODZIENSZCZYZNY.BLOGSPOT.COM

12 мая 2013 года ў вёсцы Рачкаўшчына Шчучынскага раёна на месцы, дзе, як мяркуецца, загінуў адзін з апошніх кіраўнікоў польскага пасляваеннага падполля Анатоль Радзівонік (Олех), прадстаўнікамі польскай меншасці ў Беларусі быў урачыста ўсталяваны чатырохметровы крыж з памятным надпісам на польскай мове. Арганізатары мерапрыемства неўзабаве былі пакараныя штрафамі, а крыж, усталяваны на прыватнай тэрыторыі, прастаяў усяго два месяцы. У ліпені 2013-га ён быў у адсутнасць гаспадароў спілаваны і вывезены ў невядомым кірунку. Гэтая сітуацыя справакавала вострую дыскусію ў беларускіх СМІ і сацыяльных сетках, якая засведчыла глыбокую расколатасць беларускага грамадства ў справе стаўлення да Арміі Краёвай і ўшанавання ў Беларусі яе жаўнераў.



Месца, дзе стаяў крыж, пасля яго знішчэння.

SVABODA.ORG

партызанскія рухі — савецкі, украінскі, літоўскі. У любым з іх можна пры жаданні адшукаць нямала прыкладаў гераізму і ахвярнасці — і не менш прыкладаў злачынстваў і тэрору. Пра любы з іх сведкі могуць распавесці як станоўчае, так і адмоўнае — у залежнасці ад уласнага досведу.

### Не героі, але і не бандыты

Ацэньваючы колішнія падзеі, важна не паддавацца спакусе эмацыйнага развешвання станоўчых ці адмоўных ярлыкоў, не беручы пад увагу кантэксту, у якім гэтыя падзеі адбываліся.

Для мяне няма сумневу, што жаўнеры Арміі Краёвай не могуць прэтэндаваць на ролю беларускіх нацыянальных герояў. Бо арганізацыя гэта была ўсё ж не беларуская, а польская і змагалася яна ў тым ліку і за тое, каб Беларусь па-ранейшаму была падзелена напалам. З пазіцыі беларускага патрыёта такое становішча — нонсэнс. Ды і немагчыма закрыць вочы на тое, што ахвярамі акаўцаў рабіліся ў тым ліку і беларускія патрыёты.

У той жа час непрымальны погляд на акаўцаў, які застаўся ад савецкіх часоў і які многія з нас некрытычна рэтранслююць і сёння. Гэта погляд на жаўнераў АК як на бандытаў, тэрарыстаў, няпрошаных захопнікаў, якія не мелі за душой нічога святога і жылі адно толькі думкай пра тое, як бы паздзекавацца з мясцовага насельніцтва. На самай справе Армія Краёва ў Беларусі — з'ява шматаблічная, а таму і неадназначная. З размаху ляпіць на яе ярлык не выпадае.

З'яўленне і дзейнасць гэтага фармавання ў Заходняй Беларусі — з'ява натуральная, улічваючы тое, што гэтая тэрыторыя да вайны была часткай польскай дзяржавы. Шмат каму з мясцовых жыхароў гэта не падабалася, але многіх такая сітуацыя цалкам задавальняла. Калі ж нашы землі сталі часткай сталінскага СССР, жыццё многіх, хто і пры Польшчы асабліва не шыкаваў, ператварылася ў пекла. Пасля прыйшла нямецкая ўлада, нічым не лепшая. То ці ёсць нейкім дзівам, што, паглядзеўшы на адных і на другіх, нават многія праваслаўныя беларусы не захацелі такога шчасця і пайшлі змагацца ў лес за любую яму альтэрнатыву? А менавіта Армія Краёва ўвасабляла гэтую альтэрнатыву на вялікай частцы Заходняй Беларусі. Тым больш што моцнай беларускай нацыянальнай партызанкі стварыць не ўдалося.

**Ніхто са свядомых беларусаў АК актыўна не падтрымаў, бо ніхто з іх не мог пагадзіцца, каб Беларусь і пасля вайны засталася падзеленай. Яны разумелі, што іншага гістарычнага шанцу для аб'яднання Заходняй і Усходняй Беларусі можа не надарыцца**

Ці маем мы маральнае права асуджаць тых суайчыннікаў, якія не хацелі стаць удзельнікамі бязлітасных сацыяльных эксперыментаў і імкнуліся любой цаной гэтага пазбегнуць?

Чорна-белы погляд на АК — неканструктыўны. Ён добра надаецца да прапагандысцкіх мэтаў, але да разумення гістарычнай праўды не набліжае. ◆

# «Умела і тактоўна»

## У жніўні 1943-га савецкая партызанская брыгада Маркава расстраляла амаль сто партызан Арміі Краёвай з атрада Кміціца


WIKIMEDIA COMMONS

**Ёсць асобы, да якіх у розных краінах ставяцца па-рознаму. Да такіх адносіцца і партызанскі камандзір Фёдар Маркаў. Для палякаў ён — вераломны злодзей. А ў Савецкай Беларусі яго шанавалі як героя. Піша Сяргей Руткевіч.**

Выдатны маладзечанскі гісторык Генадзь Каханоўскі расказваў, што ў савецкі час, калі партызанаў масава славілі, ён, збіраючы матэрыялы для Мінскага абласнога музея, начуўся пра іх ад мясцовых людзей нямала кепскага... Але пры гэтым, казаў ён, былі два партызанскія камандзіры, на якіх ніхто асабліва не скардзіўся, — Фёдар Маркаў і Андрэй Валынец.

### «На ўлётках партыя пісала»

Маркаў быў чалавекам мясцовым, заходнім беларусам. Яго нестандартнае для гэтага рэгіёна прозвішча засталося ў спадчыну ад продкаў, расейцаў-старавераў. Маркаў скончыў настаўніцкую семінарыю і выкладаў гісторыю ў свянцянскай яўрэйскай школе.

Яшчэ юнаком ён свядома абраў сабе гэтую дарогу — змагацца за Беларусь. У яго разуменні гэта мусіла быць Беларусь пад чырвоным сцягам і ў складзе СССР, але менавіта Беларусь.

Фёдар Маркаў уступіў у кампартыю тады, калі за сам гэты факт можна было трапіць у турму — у міжваеннай Польшчы.

Кампартыя Заходняй Беларусі, КПЗБ, дзейнічала ў варожым асяроддзі. Такія людзі, як Маркаў, Максім Танк ці Сяргей Прытыцкі, уступалі ў яе не для кар'еры — гэта быў свядомы, прынцыповы выбар рызыкоўнай барацьбы.

У 1939 годзе, калі ў Заходнюю Беларусь прыйшла савецкая ўлада, 26-гадовы Маркаў быў ужо загартаваным жыццём чалавекам. Сярод іншага, яму давялося пасядзець і ў канцлагеры ў Картуз-Бярозе.

Пасля змены ўлады Маркаў спачатку займаўся арганізацыяй савецкай адміністрацыі ў родных Свянцянах, а пасля таго, як малую радзіму разам з Вільняй Масква перадала Літве, працаваў у Вілейскай вобласці БССР. Гэта быў змрочны час сталінскіх рэпрэсій, калі заходнебеларускія камуністы самі не ведалі, што іх чакае і як доўга яны самі застануцца на свабодзе.

### Пасланы на смерць, выжыў

Бяздарныя савецкія прапагандысты ператварылі гісторыю антынацысцкага супраціву ў Беларусі ў набор прымітыўных штампаў. Між тым калі ставіш сябе на месца людзей таго часу, то ўспрымаеш гэта інакш.

Пасля нямецкага нападу на СССР Маркаў ваяваў і адступаў з Чырвонай Арміяй, але ўжо ў лістападзе 1941-га яго адпраўляюць назад ствараць падполле. У тыл ворага ён, такім чынам, выправіўся яшчэ перад пачаткам бітвы пад Масквой. Нацысты тады былі на піку сваёй магутнасці, і вынік вайны цяжка было прадказаць.

Гэта было падарожжа ў невядомасць. Маркава адправілі не самалётам — ён перайшоў лінію фронту і з парай таварышаў пешкі прайшоў сотні кіламетраў па акупаваных абшарах, маючы са зброі адзін схаваны пісталет.

Маркаў адпраўляецца спярша ў родныя Свянцяны, а пасля — на Вілейшчыну. Калі б любы здраднік выдаў яго немцам, яго б чакала смерць — нацысты і шараговых камуністаў і актывістаў расстрэльвалі, а тут жа адносна высокі чын. Мясцовыя ж людзі ўсе ведалі, што ён савецкі актывіст.

Забеспячэнне партызан з цэнтра як след не наладзяць ніколі,

а ў першую ваенную зіму яно зусім адсутнічала. Зброя і выбухоўка — тое, што падбярэш. Але людзі ішлі да Маркава, прыцягнутыя яго харызмай. І праз гады былыя маркаўскія байцы з захапленнем апісвалі свайго камандзіра ў першую, самую цяжкую зіму змагання: «У мундзіры, без фуражкі. Высокі, малады, прыгожы. На баку два трафейныя пісталеты».

Партызанка на той момант была смертаносным полем для эксперыментаў, бо яснасці, як ваяваць у тыле ворага, не было. І тым не менш, маркаўскі атрад выжыў і разросся. Ужо ўзімку 1941–1942 гадоў Маркаў асабіста распрацоўваў унікальныя аперацыі. Ён адзіны з партызанскіх камандзіраў паспрабаваў разгарнуць партызанскае змаганне ў вялікім горадзе — самой Вільні. Праўда, пасля некалькіх дыверсій мусіў усё ж адысці ў лясы.

У маі 1942 года Маркаў з невялічкай групай байцоў знішчае двух важных нямецкіх афіцэраў каля Свянцян. Савецкая прапаганда заяўляла, што быў знішчаны гебітскамісар Віленшчыны. Гэта не так, на самай справе ліквідаваныя былі афіцэры, якія займаліся пытаннямі гаспадарчай эксплуатацыі акупаванай тэрыторыі, але для вясны 1942-га, гэта было задоўга да Сталінграда, і гэта было ўжо вялікім поспехам партызанаў.

Аперацыя была праведзена ювелірна. Нават польская перакладчыца, якая суправаджала немцаў, падчас нападу не пацярпела. Калі яна апрытомнела сярод партызан, то ледзь зноў не самлела: «перад ёй сядзеў знаёмы ёй жыхар нашага гарадка Федзька Маркаў». Так пісаў былы маркаўскі баец, пазнейшы ізраільскі генерал і дырэктар музея Яд-Вашэм Іцхак Арад. Дарэчы, да самога Арада былі прэтэнзіі ў літоўскага правасуддзя: у 90-я Літва патрабавала яго выдачы для суда за здзейсненае ім у 40-я, але Ізраіль сваіх не выдае.

Немцы адказалі на тэракт расстрэлам закладнікаў. Гэта вялікая трагедыя ўсіх партызанскіх рухаў — ад Карэі да Гватэмалы ў XX стагоддзі на дзеянні партызан адказвалі рэпрэсіямі супраць мірнага насельніцтва. Нацысты рабілі гэта асабліва люта.



ФОТА АНДРЭЯ ПАЧОБУТА

**Помнік Фёдару Маркаву** ў Маладзечне, на вуліцы яго імя.

## Ці патрэбныя былі савецкаму камандаванню партызаны?

Толькі ўлетку 1942 года савецкае кіраўніцтва пачало больш сістэматычна падыходзіць да пытанняў арганізацыі партызанскага руху. Пры гэтым стварэнне Цэнтральнага штаба партызанскага руху (ЦШПР) не абышлося без палкіх дыскусій. Калі першы сакратар ЦК КП(б)Б Панцеляймон Панамарэнка настойваў на тым, каб пакінуць партызанскім атрадам свабоду дзеянняў і толькі падтрымліваць іх у правядзенні аперацый, то маршал Клімент Варашылаў хацеў з Масквы загадваць партызанам, што ім рабіць. У той жа час наркам унутраных спраў Лаўрэнцій Берыя ўвогуле не бачыў сэнсу ў ЦШПР і развіцці партызанкі. Галоўны энкавэдыст прапаноўваў пакінуць справу дыверсій «кваліфікаваным вайскоўцам і сілам дзяржбяспекі». Урэшце было вырашана ўсё ж стварыць ЦШПР, спалучыўшы прапановы Панамарэнкі і Варашылава.

Наколькі ў выніку самастойнымі былі дзеянні Маркава? Хоць ён і мусіў улічваць нейкія агульныя ўказанні з Масквы, наўрад ці варта гэта перабольшваць. Сур'ёзна кантраляваць партызан Масква не мела магчымасці, прынамсі калі гаворка ішла пра аператыўныя дзеянні. Яна не магла іх нават толкам узброіць — у 1943 годзе Маркаў выдаў загад аб стварэнні аддзелаў з пікамі, свайго роду новых касінераў.

У Маркава было сваё разуменне, як дзейнічаць, і яно вынікала з ягоных перакананняў ды ведання сітуацыі. Толькі-толькі здабыўшы ўлетку 1942 года друкарскія шрыфты, ён пісьмова звярнуўся да землякоў. І першая ж улётка, надрукаваная ім, была беларускамоўнай.

## Забойства сястры Максіма Танка

Востра стаяла праблема бандытызму ва ўласных шэрагах. Адзін з першых зваротаў Маркава да вяскоўцаў пачынаецца са словаў: «Перад вамі не разбойнікі і не рабаўнікі». Аднак праблема заставалася цягам усёй вайны.

Гэта партызаны Маркава, напрыклад, забілі 24-гадовую сястру пісьменніка-камуніста Максіма Танка з двухгадовым сынам. Шукалі на яе хутары золата, ды не знайшлі. І забілі Веру з дзіцем і іншых жанчын сякерамі — каб без шуму, без стрэлаў...

Іх мужы ў той вечар былі на суседнім хутары і нават бачылі агні ліхтароў на сваім дварышчы, але не пабеглі туды. Падумаць не маглі, што там робіцца...

Праз некалькі дзён на хутар бацькоў Веры ў Пількаўшчыне заязджалі партызаны. ▶

▶ Адзін з коней быў, як папонай, укрыты пасажнай хатняй посцілкай. У кожнай гаспадыні яны былі на свой узор, вось маці і пазнала даччыну. Домна Іванаўна кінулася пытацца: адкуль жа ў вас посцілка маёй дачушачкі?..

На той момант маці яшчэ не сказалі пра смерць дачкі. А бацька, Іван Хведаравіч, па-свойску Янук, усё ўжо ведаў. Жонку за руку схапіў і не пусціў да ваякаў: не наша гэта посцілка, ты блытаеш... Разумеў, што могуць забіць і іх як сведкаў, як тых, «што пазналі».

Фёдар Маркаў пасля прыязджаў да бацькоў Танка — свайго таварыша па капэзэбоўскім падполлі — і прапаноўваў расстраляць забойцаў Веры і яе сям'і проста на вачах бацькоў, варта было толькі назваць імёны. Але стары Янук не захацеў новай крыві, сказаў: «Хай Бог разбіраецца». Хоць імёны забойцаў не былі сакрэтам у наваколлі.

### Сябар на сябра...

Беларусы асабіста пра Маркава нічога кепскага не казалі, а вось для палякаў ён — вераломны забойца.

Гаворка ідзе пра раззбраенне польскага партызанскага атрада Арміі Краёвай (АК) у жніўні 1943-га, гэта значыць, тады, калі шалі вайны выразна пахіліліся ўжо на іншы бок, пасля Курскай бітвы і высадкі саюзнікаў на Сіцыліі. І пасля рэзкага абвастрэння адносін паміж эміграцыйным урадам Польшчы ў Лондане і ўрадам СССР.

22 чэрвеня 1943 года Масква ў абліччы ЦК КП(б) Беларусі выдае пастанову «Аб мерапрыемствах па далейшым развіцці партызанскага руху ў заходніх абласцях Беларусі». На яе аснове было сфармуляванае пісьмо ЦК КП(б)Б «Аб ваенна-палітычных задачах у заходніх абласцях Беларусі». Ім загадвалася «ўсімі спосабамі выкрываць і распускаць нацыяналістычныя



ПРЫСЯГА
БЕЛАРУСКАГА ПАРТЫЗАНА

Я, грамадзянін Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, верны сын гераічнага беларускага народа, прысягаю, што не пашкадую ні сіл, ні самаго жыцця для справы вызвалення майго народа ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і катаў і не складу зброі да таго часу, пакуль родная беларуская зямля не будзе ачышчана ад нямецка-фашысцкай погані. Я клянуся строга і няўхільна выконваць загады сваіх камандзіраў і начальнікаў, строга захоўваць воінскую дысцыпліну і берагчы ваенную тайну.

Я клянуся, за спаленыя гарады і вёскі, за кроў і смерць нашых жонак і дзяцей, бацькоў і мацераў, за гвалты і здзекі над маім народам, жорстка помсціць ворагу і безупынна, не спыняючыся ні перад чым, заўсёды і ўсюды смела, рашуча, дзёрзка і бязлітасна знішчаць нямецкіх акупантаў. Я клянуся ўсімі шляхамі і сродкамі актыўна дапамагаць Чырвонай Арміі паўсямесна знішчаць фашысцкіх катаў і тым самым садзейнічаць хутчэйшаму і канчатковаму разгрому крывавага фашызма.

Я клянуся, што хутчэй загіну ў жорсткім баю з ворагам чым аддам сябе, сваю сям'ю і беларускі народ у рабства крываваму фашызму

Словы маёй свяшчэннай клятвы, сказанай перад маімі таварышамі партызанамі, я замацоўваю ўласнаручным подпісам, і ад гэтай клятвы не адступлю ніколі.

Калік па сваёй слабасці, трусасці або па злой волі я парушу сваю прысягу і здраджу інтэрэсам народа, няхай памру я ганебнай смерцю ад рук сваіх таварышоў.

Уласнаручны подпіс

**Прысяга беларускага партызана.**

атрады і групы» — гаворка была пра Армію Краёву.

Да таго партызаны АК у раёне возера Нарач мелі добрыя адносіны з партызанамі Маркава. Разам праводзілі акцыі супраць немцаў. Гэтаму спрыяла асабістае знаёмства, яшчэ з даваенных часоў, камадзіра атрада АК Антонія Бужынскага-Кміціца і палкоўніка Маркава. Але ў жніўні 1943-га Маркаў напаў на польскі атрад. Прапанаваў раззброіцца ўзамен на захаванне жыцця. А калі палякі паверылі, то салдат прынялі ў атрад, а вось афіцэраў катавалі — хацелі даведацца ўсё пра агентурную сетку атрада і склад кіраўніцтва віленскага АК, — а пасля расстралялі, у тым ліку і самога Кміціца.

### Пытанні без адказаў

Цяжка сказаць, наколькі вызначальнай была роля Маркава ў здзяйсненні гэтага безумоўнага ваеннага злачынства. Тое, што ён жадаў раззброіць польскіх нацыянальных партызан і замяніць камандаванне імі на прасавецкае — гэта бясспрэчна. Вядома, што Маркаў разам з іншымі партызанскімі камандзірамі 16 жніўня 1943-га падпісаў шыфроўку да Панцеляймона Панамарэнкі, у якой адзначалася, што «на чале польскага нацыянальнага атрада стаяць ярыя ворагі Савецкага Саюза», што нібыта палякі «супраць немцаў не ваююць» і «вядуць узмоцненую антысавецкую прапаганду». У сувязі з гэтым падпісанты прасілі дазволу «абяззброіць нацыянальны польскі атрад і змяніць кіраўніцтва». Дазвол быў дадзены, Панамарэнка толькі папрасіў зрабіць гэта «ўмела і тактоўна». 26 жніўня аперацыя была праведзена, а вынікам яе стала крывавая трагедыя.

Падрабязнасцяў таго, што адбывалася ў тыя дні, не так шмат. Ёсць звесткі, што следства і наступныя расстрэлы палонных палякаў праводзілася пад кіраўніцтвам літоўскага камуніста Ёнаса Вільджунаса, які быў перакінуты ў той раён з Масквы на чале атрада НКВД, база якога знаходзілася недалёка ад базы партызанаў Маркава. Незразумела, пры якіх абставінах і кім было прынята тое рашэнне на фізічнае знішчэнне раззброеных палякаў, прагнуў іх крыві сам Маркаў ці мусіў прыняць тое, што вырашылі за яго. Дзеля чаго ён публічна даваў слова гонару, што жыццю арыштаваных палякаў нічога не пагражае, калі яны былі ўжо раззброеныя і такім чынам не ўяўлялі небяспекі? Чаму 30 жніўня 1943-га Маркаў дакладваў шыфроўкай у БШПР, што «польска-фашысцкі атрад у складзе 230 чалавек абяззброены цалкам, што праведзена без ахвяраў і тактоўна»,

калі амаль сотня палякаў да таго часу ўжо нібыта была расстраляная? Навошта яму было хаваць гэты факт ад Масквы? Ці ў той час яны былі яшчэ жывыя, а расстраляныя пазней? Пытанні застаюцца, і поўных адказаў на іх пакуль няма.

Але як бы там ні было, у вачах польскіх партызан расправа над іхнімі паплечнікамі з атрада Кміціца ўжо ў той час шчыльна асацыявалася менавіта з імем Маркава. Нездарма ў лістападзе 1943-га іншы партызанскі камандзір, Віктар Манохін, рыхтуючыся да чарговых перамоў з палякамі, адмыслова адзначаў у шыфроўцы ў БШПР: «Лічу ўдзел у перамовах Маркава, які кіраваў аперацыяй пад Нараччу, недапушчальным». Кляймо на Маркаве вісіць, і каб яго зняць — патрэбныя не версіі, а сур'ёзныя аргументы.

**Як ацэньваць асобу?**

Тое, што Фёдар Маркаў — асоба як мінімум неадназначная, пытанняў не выклікае. У ягонай біяграфіі можна знайсці і белыя, і чорныя старонкі. Гэта, зрэшты, можна сказаць і пра той рух, у якім ён удзельнічаў. Але ва ўмовах крывавай вайны на вынішчэнне выбар часта быў невялікі: або ты выконваеш загады, або ты дэзерціруеш, або пераходзіш на бок праціўніка. Адхіліцца ад гэтага можна было толькі ў нюансах.

На маю думку, сучасную беларускую нацыю збудавалі не толькі інтэлектуалы, пісьменнікі. У XX стагоддзі яна выжыла і ўз'ядналася ў тым ліку дзякуючы асобам кшталту Фёдара Маркава. І гэтыя людзі вартыя нашай памяці.

У пасляваеннай Савецкай Беларусі, зрэшты, Маркаў сябе не знайшоў. Патэнцыйна ён мог бы зрабіць у ёй выдатную кар'еру, як зрабілі многія ягоныя калегі-партызаны, але замест таго сышоў у магілу ў 1958 годзе, на 45-м годзе жыцця. Прычына такой ранняй смерці — злоўжыванне алкаголем. Прычыны гэтага маглі быць розныя. Цалкам верагодна, што чалавек проста ў рэшце рэшт не вытрымаў цяжару раздвоенасцяў і супярэчнасцяў, якімі было напоўненае ўсё ягонае жыццё. ◆

# Босы след на снезе

У 1944 годзе на пачатку студзеня альбо напрыканцы снежня 1943-га, дакладна не памятаю, наша брыгада раззброіла і нейтралізавала аддзелы польскай Арміі Краёвай (АК), якія дзейнічалі ў Налібоцкай пушчы...

У Налібоцкай пушчы іх раззброілі на працягу некалькіх дзён. Ды калі б толькі раззброілі!.. Камандзіра налібоцкай акаўскай брыгады і ўвесь ягоны штаб адправілі самалётам у Маскву, а малодшых афіцэраў расстралялі... Некалькі чалавек з ліку гэтых афіцэраў утрымліваліся пад вартай у лагеры нашага атрада. Я таксама разы два стаяў на варце каля ўваходу ў зямлянку, у якой яны сядзелі, выводзіў па адным «да ветру», і яны кожнага разу жартавалі: «Цо, хлопаку, бэндзеш пільноваць мое злото?» Гэта і на самай справе было забаўна: дарослы мужчына сядзіць пад сасной на кукішках, а чатырнаццацігадовы падлетак стаіць над ім з карабінам напагатове!

Напэўна, ім і ў галаву не прыходзіла, што іх расстраляюць. Бо за што? Яны здаліся без супраціўлення, яны таксама біліся з немцамі. Не, нічога кепскага з імі не здарыцца! Добры знак, што іх ахоўвае хлапчук. Значыць, не бачаць у іх ворагаў, ведаюць, што яны не збіраюцца ўцякаць, — хіба цяжка было б вопытнаму жаўнеру, дужаму дарослаunion чалавеку, абяззброіць і скруціць гэткага смаркача?..

...Я стаяў на варце каля калодзежа (быў у атрадзе такі пост, каб хто не атруціў ваду), калі тых афіцэраў вялі на расстрэл. Яны ішлі па вузенькай сцежцы, пратаптанай у глыбокім снезе, у аднаго з іх была ў руцэ рыдлёўка, і я, халадзеючы ад жаху, зразумеў, навошта яна: ёю выкапаюць у снезе яму, а потым закідаюць снегам целы... Той, з лапатай, зірнуў на мяне з нейкай дзіўнай усмешкаю — так праз шмат гадоў глядзеў на мяне перад смерцю бацька. І з зайздрасцю, што я застаюся жыць, і з радасцю, што застаюся, што свет застаецца...

Была адліга, падаў мокры снег, клаўся на плечы і на канфедэраткі чатырох акаўцаў... Толькі канфедэраткі і паказвалі на тое, што гэтыя людзі — «жолнежы», апранутыя ў даматканыя вясковыя штаны і суконныя курткі, абутыя ў самаробныя катанкі. За акаўцамі ішлі трое ў белых кажухах, у кубанках, з аўтаматамі ППШ, здаравенныя, мардатыя, незнаёмыя мне... Хвілінаў праз дзесяць прасакаталі кароткія аўтаматныя чэргі, абудзілі, як сарокі, нямую цішыню пушчы...

А праз паўгадзіны ўвесь атрад паднялі па трывозе, загадалі: пашыхтавацца ланцугом, прачэсваць лес, шукаць босы след на снезе. Нехта заўважыў, што адзін з акаўцаў вылез са снежнай магілы. Недастрэлілі!..

«А чаму след босы? — спытаў я ў Міколы Аксючыца. — Яны ж у катанках былі!» — «Разулі, лапушок, — неяк нервова-весела сказаў Мікола. — Перад тым як кокнуць!..»

На босы след выйшла якраз наша аддзяленне, і па гэтым следзе мы ішлі, можа, з кіламетр, пакуль ён не згубіўся ў заснежаных хмызняках на беразе Іслачы...

...Калі пасля вайны на Нюрнбергскім працэсе над галоўнымі нямецкімі ваеннымі злачынцамі паўстала пытанне аб Катыні і ўсе падсудныя адхрышчваліся ад катынскага расстрэлу многіх тысячаў польскіх афіцэраў, даказваючы, што гэта злачынства на сумленні НКВД, я ведаў, што гэта так і ёсць. Таму што памятаў той босы след на снезе.

*Валянцін Тарас.*
*На выспе ўспамінаў*



# РАМАН СКІРМУНТ
# страчаны шанс БНР

**Ці мог у 1918 годзе лёс Беларускай Народнай Рэспублікі скласціся інакш? Ці магла тады Беларусь, як Літва або Польшча, стаць незалежнай? Доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук бачыць страчаны шанс на гэта, аналізуючы біяграфію Рамана Скірмунта.**



Раман Скірмунт, 1930-я. Цікава, што паспяховы палітык **Раман Скірмунт не меў закончанай асветы.** Ён вучыўся ў Рыжскай гарадской гімназіі, але ў 15 гадоў вярнуўся дадому.

Беларуская гісторыя XX стагоддзя была гісторыяй без Скірмунтаў і Радзівілаў. Падчас рэвалюцыі 1917–1918 гадоў перамагла радыкальная сацыялістычная дактрына, якая абярнулася фізічным вынішчэннем «буржуяў» і старой інтэлігенцыі. Разам з імі знішчаліся традыцыі шляхецтва ў культурным і палітычным жыцці.

### Памешчык, прадпрымальнік, краёвец

Раман Скірмунт (1868–1939) належаў да вядомага роду, які з XVI стагоддзя валодаў землямі на Палессі, а ў XIX стварыў у Парэчы на Піншчыне буйны прамысловы комплекс і ператварыўся ў дынастыю прадпрымальнікаў. Раман Скірмунт удзельнічаў у кіраванні гаспадаркай маёнтка з 15 гадоў, а пры канцы XIX стагоддзя стаў яе галоўным менеджарам.

У палітыку ён прыйшоў у перыяд рэвалюцыі 1905–1907 гадоў, калі імперыя пераўтваралася ў парламенцкую манархію, а былыя «падданыя» сталі прэтэндаваць на ролю «грамадзян» сваёй айчыны. Айчынай Рамана Скірмунта была гістарычная Літва, і пачатак яго кар'еры як палітыка быў звязаны з «краёвай ідэяй». Краёўцы верылі ў магчымасць федэрацыі народаў Вялікага Княства Літоўскага.

### На чале беларускага руху

Дэпутатам Дзяржаўнай Думы Раман Скірмунт стаў у 1906 годзе. Тады ён увайшоў у склад дэпутацкай групы «Краёвае кола Літвы і Русі» («Група заходніх ускраін»). Яна аб'ядналася з дэпутатамі ад польскіх губерняў, склала ядро парламенцкай групы аўтанамістаў і адстойвала інтарэсы беларуска-літоўскіх памешчыкаў.

З беларускім рухам Скірмунт зблізіўся пры канцы 1916 года пад уплывам Максіма Багдановіча. Паэт працаваў сакратаром у губернскім камітэце па харчаванні, якім кіраваў Скірмунт. Пра ролю Багдановіча ў гэтым «прыцягненні» палескага памешчыка заявіў следчым АГПУ (справа «Саюза вызвалення Беларусі») Аркадзь Смоліч, які быў вельмі блізкім

да Багдановіча ў менскі перыяд яго жыцця. У выніку Скірмунт апынуўся ў эпіцэнтры маладога руху за незалежнасць Беларусі. Калі ствараецца Беларускі нацыянальны камітэт (БНК), Скірмунт — нядаўні дэпутат і адзін з самых багатых людзей Беларусі — натуральным чынам узначаліў яго.

Менавіта Скірмунт адным з першых загаварыў пра аўтаномію Беларусі ў межах дэмакратычнай і федэратыўнай Расіі. Разумеючы важнасць адзінства ўсіх наяўных палітычных сіл, ён здолеў паразумецца з беларускімі сацыялістамі, а таксама прывёў у БНК людзей заможных: княгіню Марыю Магдалену Радзівіл, князя Антонія Радзівіла, князя Гераніма Друцкага-Любецкага, землеўласніка Эдварда Вайніловіча.

Першымі апанентамі Скірмунта былі палітыкі рэвалюцыйнай Расіі, якія па-ранейшаму глядзелі на Беларусь як на «Северо-Западный край исконно русских земель». Перамовы пра аўтаномію скончыліся няўдачай. Гэта, а таксама хуткі рост папулярнасці найбольш сацыяльна-радыкальных палітычных сіл разбурыла адзінства беларускай эліты. Сацыялісты дамагліся выдалення з БНК прадстаўнікоў арыстакратыі і шляхты, а таксама адстаўкі Рамана Скірмунта з пасады кіраўніка. У ліпені 1917 года яны замянілі БНК Цэнтральнай радай беларускіх арганізацый, якая аказалася нежыццяздольнай.

### Альтэрнатыва сацыялізму

Другі прыход Скірмунта ў беларускую палітыку адбыўся ўжо ў лютым 1918-га ва ўмовах нямецкай акупацыі. 25 лютага ў Менску з яго ініцыятывы паўстала Менскае беларускае прадстаўніцтва (МБП). У склад кіраўнічага камітэта ўвайшлі Раман Скірмунт, протаіерэй Менскай епархіі Стэфан Кульчыцкі (у будучыні адзін з «матораў» стварэння Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы), генерал Кіпрыян Кандратовіч, ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, Павел Аляксюк, Рамуальд Зямкевіч ды іншыя. Прадстаўніцтва ўголас загаварыла пра незалежнасць Беларусі. Шукаючы саюзнікаў, яно пачало наладжваць адносіны з нямецкімі ўладамі.

Савецкая гістарыяграфія асуджала ўсе кантакты паміж дзеячамі беларускага руху

## Скірмунт спрабаваў прывабіць у беларускі рух арыстакратыю

і нямецкай адміністрацыяй. Аднак, ацэньваючы «нямецкі кірунак» замежнай палітыкі БНР, трэба зыходзіць з інтарэсаў не савецкай улады, а беларускай зямлі і яе народа. Расійскае кіраўніцтва катэгарычна не прымала ідэю незалежнасці Беларусі. Каб беларуская дзяржава адбылася, ёй патрэбныя былі саюзнікі.

Зразумела, што і нямецкае войска не прыйшло ў Беларусь дзеля яе вызвалення. Найбольш немцаў цікавілі рэсурсы дзеля патрэб германскай эканомікі. Але ў той жа час немцы беларусаў заўважалі. Менавіта на тэрыторыі нямецкай акупацыі ўпершыню з'явіліся беларускія школы, а «беларускае пытанне» абмяркоўвалася на еўрапейскіх форумах, за якімі стаяў Берлін.

18 сакавіка 1918 года Раман Скірмунт, Павел Аляксюк і Рамуальд Зямкевіч ад імя «Беларускага камітэта» накіравалі германскаму рэйхсканцлеру пратэст, у якім адкідалі прэтэнзіі суседніх краін на беларускія землі і заяўлялі пра незалежнасць Беларусі. Пры гэтым падкрэслівалася, што беларуская дзяржава будзе абапірацца на «заходнюю культуру і яе прадстаўніцу — Германскую імперыю». Немцы, якія ігнаравалі ранейшыя падобныя пратэсты беларускіх сацыялістаў, гэтым разам на зварот адказалі, прызнаючы (!) справядлівасць беларускіх прэтэнзій. У беларускім руху з'явілася палітычная сіла, якая пачала дыялог з Берлінам, маючы на мэце дасягненне незалежнасці.

### Спроба сфарміраваць урад БНР

Між тым 25 сакавіка 1918 года Рада БНР прыняла Трэцюю Устаўную грамату, якая абвяшчала незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Каб гэтая дэкларацыя ажыццявілася, трэба было дамагчыся прызнання незалежнасці з боку «вялікіх дзяржаў». Беларускі камітэт у Вільні (Антон Луцкевіч), а таксама Народны сакратарыят БНР у Менску (Язэп Варонка) разлічвалі перадусім на Германію, якая ўжо прызнала незалежнасць Літвы і падтрымлівала Украінскую Народную Рэспубліку. Пры гэтым сацыялісты разумелі, што з немцамі лягчэй, чым ім самім, будзе дамовіцца Скірмунту і Менскаму беларускаму прадстаўніцтву.

Каб актывізаваць «нямецкі кірунак» замежнай палітыкі, ▶



**Язэп Варонка — галоўны канкурэнт Рамана Скірмунта, адзін з лідараў беларускіх сацыялістаў.** Першы старшыня ўрада БНР у 1923-м у 32 гады эміграваў у ЗША, дзе і застаўся жыць.

сацыялістычная Рада БНР 12 красавіка прыняла ў свой склад камітэт Менскага беларускага прадстаўніцтва. Праз два тыдні, 26 красавіка, па ініцыятыве Скірмунта на імя імператара Вільгельма II была адпраўлена тэлеграма з падзякай за вызваленне Беларусі ад бальшавіцкага панавання і спадзяваннем на падтрымку беларускай дзяржаўнасці. Аўтарам тэксту быў Язэп Варонка. Немцы адказалі на тэлеграму, але гэты адказ расчараваў Раду БНР. У сваім лісце камандаванне III корпуса праігнаравала ідэю беларускай дзяржаўнасці і заявіла, што толькі нямецкая адміністрацыя валодае ўладнымі паўнамоцтвамі ў Беларусі.

Як вядома, тэлеграма выклікала крызіс Рады БНР і выхад з яе прадстаўнікоў Менскай гарадской думы, якая таксама спыніла фінансаванне Народнага сакратарыята Варонкі. У маі Рада БНР пагадзілася на фарміраванне кааліцыйнага ўрада на чале з Раманам Скірмунтам. Не апошнюю ролю ў гэтым рашэнні адыграў фінансавы крызіс.

Але амаль адразу пачалі ўзнікаць перашкоды на шляху да новага ўрада. Па-першае, амбіцыйны Язэп Варонка не мог пагадзіцца з прапанаванай яму пазіцыяй «міністра без партфеля», а па-другое, ягоны ўрад акурат тады атрымаў грошы з Украіны. Гэта быў даўно абяцаны ўрадам УНР крэдыт, які Варонка атрымаў ужо пасля прыходу да ўлады гетмана Паўла Скарападскага, за якім стаяў Берлін. Адначасова нямецкая адміністрацыя ў Менску змяніла стаўленне да сацыялістаў і пачала кансультацыі (!) з імі дзеля вырашэння «беларускага пытання».

Фарміраванне ўрада Скірмунта адбывалася ў ліпені. Гэты месяц быў напоўнены вострай палітычнай барацьбой. Сацыялісты канчаткова адмовіліся ад уваходу ў новы ўрад, і Скірмунт пачаў фарміраваць г. зв. «кабінет спецыялістаў». Кіраўнік урада адначасова займаў пасаду сакратара (міністра) замежных спраў, сакратаром фінансаў станавіўся войт Менска Станіслаў Хржанстоўскі, сакратаром унутраных спраў — генерал Кіпрыян Кандратовіч, асвета і культура перадаваліся ў рукі Радаслава Астроўскага, а кіраўніком спраў быў прызначаны Павел Аляксюк.

9 ліпеня Рада БНР пасля вострых спрэчак зацвердзіла склад новага ўрада і ягоную Дэкларацыю. Яе галоўнай задачай абвяшчалася кансалідацыя ўсіх беларускіх палітычных сіл і прызнанне незалежнасці Беларусі. Ствараўся моцны беларускі ўрад, які меў прадуманую праграму дзеянняў як ва ўнутранай, так і ў знешняй палітыцы. І не толькі на «нямецкім кірунку». Беларусь рабіла сур'ёзны крок у кірунку пераўтварэння ў дзяржаву еўрапейскага тыпу, з'явіўся шанц на вырашэнне сацыяльных праблем на падмурку

## «Нямецкі кірунак» замежнай палітыкі БНР трэба ацэньваць не з пункту гледжання інтарэсаў савецкай улады, а беларускай зямлі і яе народа




ДЭКЛЯРАЦЫЯ
новага Беларускага Кабінэту /пана Р. Скірмунта/.

1/ Падтрыманне правільных адносін з аккупацыйнай Уладай і праца з імі у уцным кантакце.
2/ Стварэнне з Народнаго Сэкрэтарыяту Цэнтральнай Улады - каля якой павін-на згрупавацца усе істнуючыя і нанова створаныя установы, а так сама земствы і гарады.
3/ Кантроль за працай земствау і гарадоу у межах закону.
4/ Вазабнауленне працы почты і тэлеграфу.

ЗАГРАНІЧНАЯ СПРАВА.
5/ Дабівацца прызнання Беларускай Дзяржаунасьці у Дзяржавау, выдзелiушыхся з бышага Расійскаго Гасударства і у чацьвертного цэнтральнаго хаурусу, а так сама у заключыушых з імі мір і у нэйтральных.
6/ Установленне прыязных адносін з суседзямі і правільная з імі разгранічэнне - у церши чарод - з Украінай, ад якой дабівацца прызнання ісходнымі граніцамі - паудневую мяжу у бышай Гродзенскай і Менскай губ.; б/ разграничэнне з Літвой у Віленшчыне; в/ разграніченне з Польшчай і Расіей па этнаграфічнаму прынцыпу.

ФІНАНСЫ.
7/ Старанне аб заключэнні займау, якія бы далі магчымасьць нясьці самыя неадложныя дзяржауныя выдаткі /займы унутраныя і заграничныя/.
8/ Выпуск уласных грошау - як скора будзе прызнана дзяржаунасьць.
9/ Стварэнне зямельно-парцеляціоннаго банку, які бы меу права скупляць усю зямлю, назначаную дзеля парцеляцыі селянскаму земляробнаму люду.
10/ Старанне аб звароце у Менск усіх эвакуіраваных Дзяржавных банкавых і фінансавых установау.

ЗЯМЕЛЬНАЯ СПРАВА.
11/ Апрацаванне зямельнаго права, якое задовольніло бы патрэбы селянскаго земляробнаго люду і павялічыло бы адказна площадь яго землевластвования способам дабравольнаго выкупу, а где трэба і прынуковаго отчуждения зямлі у вялікіх уласьнікау.
12/ Урадовы кантроль дзеля недапушчэння спекулятыунай продажы зямлі.

ЮСТІЦЫЯ.
13/ Установленне усіх інстытуцый Беларускаго Дзяржаунаго Суда ад ніжэйшых да вышэйших - кассацыонных.
14/ Выбарка прау /нормау/ з Расійскаго Свода законау і папауненння іх законамі, адказнымі духу і быту беларускаго народу.

ПРАСЬВЕТА.
15/ Установленне у Менску Беларускаго Універсытэту.
16/ Умацаванне Беларускай пачатковай і сярэдняй школы па усяму краю.
17/ Зварот на Беларусь усіх беларускіх школау і сэмінарыяу, эвакуіраваных з Беларусі.
18/ Падтрыманне Беларускай нацыянальнай культуры праз Выдавецтва Беларускіх навуковых падручнікау і шырокае развіцце усяго беларускаго літэратурнаго выдавецтва і тэатральнаго і інш штукарства.

ТАРГОУЛЯ.
19. Установленне і падтрыманне таварaабмену з суседнімі дзяржавамі. Канцэнтрацыя гэтай справы у Сэкрэтарыяце.
20/ Арганізацыя звароту уцекачоу з Украіны і Расіі.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ АРХІЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Дэкларацыя кабінета Рамана Скірмунта**, якую нямецкія акупацыйныя ўлады забаранілі друкаваць.

Для сацыяльных нізоў, якія ў той час выйшлі на авансцэну беларускай гісторыі, з улікам папулярнасці сярод іх радыкальных бальшавіцкіх праектаў, Раман Скірмунт сапраўды не меў шанцаў стаць нацыянальным лідарам. Сітуацыя магла выглядаць інакш, калі б Беларусь прайшла свой перыяд «арганічнай працы» — г. зн. дзейнасці па развіцці гаспадаркі і культуры, фарміраванні нацыянальнай свядомасці шырокіх мас. Менавіта «арганічная праца» стала падмуркам дзяржавы еўрапейскага тыпу ў палякаў і літоўцаў. Беларусы ж паспрабавалі пераскочыць праз гэты этап нацыянальнай гісторыі, а яна ім у пэўным сэнсе адпомсціла.

канстытуцыі і парламентарызму, а не дыктатуры адной партыі.

### Сацыялісты як нямецкі інструмент

Аднак сацыялістычны блок у Радзе БНР адмовіўся выконваць раней прынятае рашэнне. Язэп Варонка заявіў, што не будзе перадаваць ні архіваў, ні пячаткі ўраду Скірмунта, і распачаў прапагандысцкую вайну па яго дыскрэдытацыі. Грамадскасць Менска і Беларусі пераконвалі ў незаконнасці «буржуазнага» ўрада, а нямецкую адміністрацыю — у «польскасці» Скірмунта і ягоных міністраў. Як прыгадваў пазней Зміцер Жылуновіч, сацыялісты не давалі дыхаць новаму ўраду. Магчымасці контрпрапаганды з боку Скірмунта былі абмежаваныя як джэнтльменскімі паводзінамі кіраўніка ўрада, які не мог дазволіць сабе падобных нападак на палітычных праціўнікаў, так і... нямецкай цэнзурай. Менавіта акупацыйныя ўлады забаранілі публікацыю Дэкларацыі ўрада Скірмунта. Аніводная беларуская газета нават не згадала пра гэты важны дакумент. Толькі па недаглядзе цэнзараў яго пераказ быў змешчаны на старонках польскай газеты «Дзеннік мінскі».

Трэба прызнаць, што «бунт» сацыялістаў не быў цалкам самастойным. Знойдзеныя ў архівах Варшавы і Берліна дакументы дазваляюць сцвярджаць, што якраз нямецкая адміністрацыя адыграла галоўную ролю ў распальванні ўнутрыбеларускага канфлікту. 10 ліпеня камандуючы 10-й нямецкай арміяй генерал Эрых Фалькенгайн напісаў ліст да Рамана Скірмунта, адрасаваны не кіраўніку ўрада, а «землеўласніку»:

> Да землеўласніка пана Скірмунта. Менск
>
> Нам стала вядома, што 9 дня гэтага месяца адбылося пасяджэнне, на якім была абвешчана «Дэкларацыя ўрада» «Беларускай Народнай Рэспублікі», датычная асноўных пытанняў палітыкі і кіравання на тэрыторыі, занятай 10-й арміяй.
>
> Пазіцыя вышэйшага вайсковага камандавання ў гэтых пытаннях у свой час была даведзена праз Вярхоўнае камандаванне III корпуса падпісантам звароту ад 26.04. Сітуацыя не змянілася. Адпаведна, недапушчальна, каб побач з прызнанымі адміністрацыйнымі ўладамі і вайсковымі органамі нагляду існавала іншая арганізацыя, якая валодае вышэйшымі правамі і адміністрацыйнымі паўнамоцтвамі.
>
> Размяшчэнне інфармацыі пра згаданае пасяджэнне ў газетах акупаванай тэрыторыі не дазваляецца.
>
> Камандуючы генерал інфантэрыі Эрых фон Фалькенгайн




**Нямецкія войскі ў Менску**, каля Кафедральнага касцёла. 1918 год. Цяпер гэта плошча Свабоды.

Вядома, што палітыка Берліна ў рэгіёне вызначалася ўмовамі Берасцейскага мірнага трактата, паводле якіх Германія не павінна была падтрымліваць ніякіх дзяржаўных утварэнняў на тэрыторыі былой імперыі.

Пра змест гэтага ліста даведаліся праціўнікі кабінета Скірмунта, і гэта падштурхнула іх да яшчэ больш актыўных дзеянняў. У Менску паўстала сітуацыя «двоеўраднасці». Яна скончылася 20 ліпеня прыездам з Вільні Івана Луцкевіча, які здолеў знайсці кампраміс. Урады Скірмунта і Варонкі адначасова сыходзілі ў адстаўку, а ў Менску пачалося фарміраванне кааліцыйнага ўрада на чале з Іванам Серадой.

### Кошт перамогі

Сацыялісты перамаглі, але якой цаной? Няўдача кабінета Скірмунта абярнулася тым, што ад руху за незалежнасць адышлі правыя і кансерватыўныя дзеячы, такія як барон Казімір Шафнагель, князь Вінцэнт Святаполк-Мірскі і ксёндз Уладзіслаў Талочка. Усё больш рэальнай станавілася гісторыя Беларусі без Скірмунтаў і Радзівілаў...

Вядома, не толькі двухаблічная «дыпламатыя» Берліна была прычынай адыходу Скірмунта. Існавалі таксама выключна беларускія перадумовы такога гістарычнага выбару. Менавіта пра іх пісаў у ліпені 1918 года сацыяліст Язэп Канчар. Ён адзначаў, што ў сітуацыі аб'яднання «інтэлектуальных і культурных сілаў у справе беларускага і дзяржаўнага будаўніцтва Р. А. Скірмунт мог бы быць вельмі карысным як вялікі знаўца і практык, як чалавек вялікага розуму і як беларус». Звярнуўшы ўвагу на эвалюцыю ўлады ў Фінляндыі і Польшчы, Канчар заўважыў, што ў Беларусі яна спазняецца, бо «Скірмунту няма на каго абаперціся, бо ў Беларусі няма арганізаванага заможнага класа, няма нават яркіх асобных прадстаўнікоў гэтага класа...». ◆

Раман Скірмунт у Італіі, пачатак XX стагоддзя.

# Раман Скірмунт:
## загадкавы сфінкс беларускай палітыкі

**У 2018 годзе доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук выпусціў 700-старонкавую кнігу «Раман Скірмунт (1868–1939). Жыццяпіс грамадзяніна Краю». Мы выбралі з яе шэраг нечаканых фактаў пра аднаго з прэм'ераў БНР.**

### Бацькі мелі 10 дзяцей, але разам не жылі

Аляксандр ажаніўся з Тэафілай Любанскай. Першых назвалі ў гонар бацькоў — Тэафіла і Аляксандр. Пара разам не жыла: Тэафіла толькі зімавала ў Парэччы, а з вясны да восені жыла ў Тэклінаполі на Вілейшчыне.

Чамусьці большасць дзяцей Аляксандра і Тэафілы не стварылі ўласнай сям'і. Ніхто з пяцёх сыноў не ажаніўся, і толькі дзве дачкі мелі дзяцей.

### Пакахаў жонку свайго фурмана

Раман Скірмунт не быў жанаты, але меў каханую жанчыну. Ёю была сялянка Кацярына Царэшка, ці то на 7, ці то на 12 гадоў маладзейшая.

Кацярына стала ўдавой у 1915-м, прычым помнік яе мужу ставіў сам Скірмунт, на камені захаваўся надпіс: «*Pamięci Romana Tereszki. Druha wiernego Romana Skirmunta poswięcam*». Фурман трагічна загінуў у 40 гадоў — скінулі коні.

Сыноў Кацярына нарадзіла яшчэ пры мужу, але не ад яго, лічаць вяскоўцы, з якімі размаўляў Алесь Смалянчук. Бо ўсе чацвёра сыноў: Олесь, Раман, Уладзімір і Петрусь — «былі падобныя да Скірмунта як партрэты».

Кацярына дажыла да 1957 года, а лёс сыноў склаўся па-рознаму. Олесь пражыў 37 гадоў, памёр у вайну. Вядома, што ажаніўся з дзяўчынай, якая не падабалася Скірмунту, бо выступіла супраць яго на сялянскім сходзе. Скірмунт гэты шлюб не ўхваліў, не даў дрэва на хату, і маладым прыйшлося пераехаць у суседнюю вёску. Олесь стаў кавалём, яго жонка Гэля — краўчыхай.

Іншы сын, Раман, быў лесніком у маёнтку Скірмунта, у 1939 годзе высланы. Петрусь у час вайны служыў у паліцыі, адступіў разам з немцамі. У Польшчы яго нібыта арыштавалі, вывезлі на Усход.

Уладзімір Царэшка дажываў пры маці, а ягоныя дзеці перабраліся ў Пінск.

### Меў дзяцей ад некалькіх жанчын?

Магчыма, Кацярына Царэшка была не адзінай жанчынай Скірмунта. Алесь Смалянчук запісаў успаміны кабеты, якая сцвярджае, што яе дзядзька, Георгій Кучынскі, — сын Рамана Скірмунта. Той клапаціўся пра адукацыю

**Не быў жанаты, жыў з сялянкай, быў прынцыпова дэмакратычным…**




**Аляксандр, бацька Рамана Скірмунта,** не скончыў універсітэт, бо мусіў дапамагаць бацьку на суконнай фабрыцы ў Парэччы. Ён стаў паспяховым прадпрымальнікам. На яго землях адкрылася першая ў рэгіёне фабрыка па вытворчасці туалетнага мыла. Яшчэ адзін цікавы артыкул даходу — продаж варсільных шышак, суплоддзяў варсянкі, якія выкарыстоўвалі для стварэння начосу на тканіне. Пра Скірмунтаву плантацыю варсянкі ўражана згадваў гісторык Мітрафан Доўнар-Запольскі.
Аляксандр спачуваў паўстанцам 1863 года, напрыклад, перавозіў у сваёй карэце Рамуальда Траўгута. Хоць сам і не падтрымаў паўстанне: быў супраць узброенай барацьбы.

## Пляменнік забіў сябе праз няшчаснае каханне

Аляксандр, сын Зянона Скірмунта, быў студэнтам гданьскай палітэхнікі. Пакахаў настаўніцу, бацькі былі супраць шлюбу.

Трагедыя здарылася ў маі 1930-га. Сучасныя вяскоўцы ўспамінаюць, што Генрык Скірмунт забараніў хаваць самагубцу на родавых могілках у Моладаве. Няшчаснай маці дапамог іншы дзевер, Раман Скірмунт: самагубцу пахавалі ў ягоным Парэччы, у парку.

## У сям'і бытавала легенда пра велікакняскае паходжанне, але гаварылі пра гэта з іроніяй

Адна са Скірмунтаў, Ганна, падпісала ліст да віленскага хлопца, дапамог паступіць у Пінскую гімназію, настаўніцкую семінарыю і, урэшце, Ягелонскі ўніверсітэт у Кракаве.

Чаму вяскоўцы так спакойна ставіліся да Скірмунтавых пазашлюбных дзяцей? Можам прыгадаць *jus primae noctis*, або «права першай ночы». Польскі антраполаг Юзаф Абрэмбскі падчас палескай экспедыцыі 1934–1936 гадоў запісваў успаміны пра часы прыгону. У прыватнасці, сюжэт пра Скірмунта з маёнтка Вітчоўка, да якога маці мусілі прыводзіць сваіх дачок перад вяселлем.

## Генрыка Скірмунта, які жыў у Моладаве, лічылі шалёным

Раманаў брат спускаў сабак, як толькі нехта падыходзіў да палаца, часта крычаў на людзей. Калі мясцовыя дзеці аднойчы прыйшлі спяваць калядкі, ледзь не пазабіваў «за нашу мову», успамінае жыхарка Моладава. Псіхічна неўраўнаважаным чалавекам называе Генрыка Скірмунта дачка ягонага аканома.

Хаця дырэктар моладаўскай школы памятае наадварот: «пан Генрык ніколі не быў абыякавы да няшчасцяў, якіх хапала ў вёсцы», і дапамог скончыць будаўніцтва новай школы.



Раман Скірмунт бачыўся з братамі і сёстрамі на Раство і Вялікдзень. Многія ў сям'і мелі мілыя мянушкі, напрыклад, старэйшы брат Аляксандр — Парцалянавы, сястра Браніслава — Вежа Мудрасці, а Ванда — Цюпця. Алену называлі Вечнай Маладосцю, Феліцыю — Цэрэрай Лагішынскай (Цэрэра — рымская багіня зямлі і ўрадлівасці). Апошняя надоўга пасварылася з сям'ёй: пасля смерці маці яна забрала сабе большую частку маёнтка Тэклінаполь на Вілейшчыне, хаця маёнтак быў дадзены ім на дваіх з сястрой Тэафілай.
На фота: **Скірмунты ў жніўні 1939-га. Злева — Канстанцін, стаіць у шэрым — Генрык, сядзяць Алена, Марыя і Раман.**
У кастрычніку 1939-га па Скірмунтаў ужо прыйшоў вясковы «рэвалюцыйны камітэт». Прычым у складзе камітэта аказаўся чалавек, асуджаны за крадзеж мёду з вулляў Рамана Скірмунта. Скірмунтаў пасадзілі на воз і заявілі, што павязуць у Пінск на допыт, але па дарозе расстралялі. Назаўтра адзін з камітэтчыкаў хадзіў у вопратцы Рамана Скірмунта і з ягоным гадзіннікам.



**Браты і сястра Рамана Скірмунта**: злева — Генрык, справа Марыя і Канстанцін. 1930-я ў Моладаве.

выдаўца Юзафа Завадскага ў 1842 годзе: *«Pana Dobrodzieja Najniższa sługa Anna Skirmuntt, Wielka Księżna Litewska, nieswieżska y Nowogródzka»* («Пана дабрадзея недастойная слуга Ганна Скірмунт, вялікая князёўна літоўская, нясвіжская і навагрудская»).

### Скірмунты падзяліліся прозвішчам з татарамі

Прадстаўнікі княжацкага роду Кадушэвічаў, або Аксак-Мірза, у 1631 годзе прынялі прозвішча Скірмунт. Прычыны пераймання невядомыя.

Яшчэ ў XIX стагоддзі прадстаўнікі татарскага роду — Мустафа, Асман, Ахмет Скірмунты — жылі на Гарадзеншчыне.

### З сялянамі размаўляў на іх мове

Аднойчы новы войт прыехаў у Парэчча з «інспекцыяй». Зайшоўшы ў дом, наткнуўся на гаспадара, які накіраваў яго да аканома. Войт, аднак, вырашыў, што яго зневажаюць, і настойваў, каб да яго спусціўся сам Скірмунт. Раззлаваны Раман аблаяў яго «па-простаму» і выгнаў.

Па-беларуску Раман Скірмунт упершыню выступіў у Менску 12 сакавіка 1917 года, на Дні беларускага значка. Меў тады 48 гадоў. Паводле сведчання ксяндза Гадлеўскага, «добра ўладаў беларускай мовай (трохі з палескім акцэнтам: “шо, шчо”)».

### Не даў зямлі польскім асаднікам

У Парэччы не выкарыстоўваліся два вялікія ўчасткі зямлі, і павятовая ўлада ў пачатку 20-х хацела перадаць іх асаднікам — польскім каланістам. Скірмунт, даведаўшыся пра гэта, тут жа прапанаваў яе ў арэнду мясцовым сялянам на любых умовах.
Калі з’явіліся асаднікі, гаспадар развёў рукамі: маўляў, сяляне ўсё разабралі, так што і мне не засталося.

Забіраць зямлю ў сялян польская ўлада не наважылася.

### Спадзяваўся на Сталыпіна

Скірмунт прызнаваўся, што Пётр Сталыпін ствараў уражанне чалавека, якому можна давяраць. Ён звязваў з асобай Сталыпіна надзеі на перамены, а таксама на супакаенне грамадскіх настрояў:

На пачатку XX стагоддзя ў ваколіцах Пінска і Янова хадзіла прымаўка: «Шчо ні морда, то Орда, шчо ні шпунцік, то Скірмунцік».

сялянскія выступленні 1905 года закранулі і землі Скірмунтаў.

### У вайну жыў на плошчы Незалежнасці

Пераехаў у Менск у час Першай сусветнай, з набліжэннем нямецкіх войскаў. Разам з маці і двума слугамі пасяліўся на трэцім паверсе даходнага дома Абрампольскага, які стаіць на цяперашняй плошчы Незалежнасці, побач з Чырвоным касцёлам (дарэчы, фундатар касцёла, Эдвард Вайніловіч, быў адным з найлепшых сяброў Скірмунта). У гэтым жа доме здымала кватэру вядомая беларуская мецэнатка Магдалена Радзівіл.

### Кастрычніцкі пераварот 1917-га пабачыў на ўласныя вочы і быў шакаваны

Жыў тады ў Петраградзе ў гатэлі «Еўрапейскі» і за абедам 25 кастрычніка яшчэ выказваў



**«Раман Скірмунт — неразгаданы сфінкс»**, — пісаў пра палітыка Сцяпан Некрашэвіч. 1906 год.



**Палац Скірмунтаў у Моладаве ўражваў.** Француженка Роза Белі, супрацоўніца французскага часопіса «Les Amis de la Pologne» («Сябар Польшчы»), гасціла тут у 1936 годзе: палац нагадаў ёй «сон пры святле месяца пад цудоўную музыку Моцарта».
А ў прысядзібным парку раслі рэліктавыя цюльпанавыя дрэвы, бразільскі і шэры арэх, лістоўніцы, піхты, букі... Балотны кіпарыс, радзімай якога лічацца балоты Фларыды, дажыў да нашых дзён.

надзеі, што франтавыя вайсковыя часткі ўмяшаюцца і за пару гадзін зменяць сітуацыю. Да вечара спадзяванні зніклі.

Баючыся нападу, Скірмунт пераначаваў у апартаментах свайго сябра, Ежы Асмалоўскага, які меў уласных ахоўнікаў. Адзін з іх, Патап Еўтух з Піншчыны, вельмі ўсхваляваўся, пачуўшы, што будзе абслугоўваць славутага «поріцького пана».

### Напісаў чарнавік тэлеграмы кайзеру Вільгельму

Тэлеграму з прывітаннем германскаму кіраўніцтву адправілі 26 красавіка 1918 года.

«Сам прынцып пасылкі тэлеграмы не выклікаў вялікіх спрэчак, а доўгую, вельмі доўгую дыскусію выклікала рэдагаванне тэлеграмы і яе змест. Ішло аб тое, каб не сказаць замнога і не сказаць замала», — успамінаў Вінцэнт Гадлеўскі.

Вось якой атрымалася тэлеграма:

«Рада БНР, як выбраная прадстаўніца ўсяго беларускага народа, звяртаецца да Вашай Вялікасці са словамі глыбокай падзякі за вызваленне Беларусі германскімі войскамі з цяжкага чужога ўціску, гвалту і анархіі. Рада БНР дэкларавала незалежнасць цэлае і недзялімае Беларусі і просіць Вашу Вялікасць абараніць у яе кіраваннях да ўмацавання дзяржаўнай незалежнасці і недзялімасці Беларусі у хаўрусе з Германскай імперыяй. Толькі пад абаронай Германскай дзяржавы бачыць добрую долю сваёй старany ў будучыні».

«Высылаючы, спадзяваліся хуткага адказу і разам з адказам прызнання Беларускай Рады і Беларускай Народнай Рэспублікі *de jure* з боку сільнай тагды яшчэ Нямеччыны, — успамінаў ксёндз Гадлеўскі. — Спадзяваліся такжа, што такім парадкам беларуская справа стане на грунт міжнародны».

### Быў незаменны ў перамовах

Антон Луцкевіч востра патрабаваў таленту Скірмунта на перамовах з польскай дэлегацыяй у 1919 годзе ў Парыжы. «Старайцеся зрабіць усё, каб Скірмунт сюды прыехаў», — пісаў у лісце да сяброў дыпмісіі БНР. Тое ж і брату Івану: «Мы тут маемо вельмі многа работы. Страшэнна не хватае Рамана Скірмунта. Калі будзеш мець аказію, то напішы яму, каб канечне сюды прыехаў».

### Захапляўся літаратурай, спрабаваў сябе ў крытыцы

У прыватнасці, Скірмунт напісаў артыкул на смерць Гётэ, а я яшчэ пад псеўдам Ро...мунт выдаў брашуру «Мішура і бляск. З разважанняў пра Славацкага». І за такую ацэнку сурова атрымаў ад прыхільнікаў творчасці польскага класіка.

### Не цаніў Льва Талстога

У канцы 1910 года Раман Скірмунт выступіў у Дзяржаўнай Думе з прапановай скараціць тэрмін аўтарскіх правоў з 50 да 30 гадоў пасля смерці аўтара. Аргументаваў прапанову тым, што творы «сторонников общего переворота», такіх як Леў Талстой і Карл Каўцкі, разыходзяцца ў тысячах асобнікаў. А творы, што маюць вялізнае культурнае значэнне, немагчыма перавыдаць.

### Апошняя дапамога Максіму Багдановічу

У час Першай сусветнай у Мінску Раман быў кіраўніком харчовай камісіі Мінскай губерні, а Багдановіч быў яго сакратаром.

21 лютага 1917 года харчовая камісія разглядала план перавозак прадуктаў на сакавік, а таксама прашэнне сакратара камісіі пра адпачынак дзеля аздараўлення. Багдановіч атрымаў двухмесячны адпачынак з захаваннем зарплаты і 200 рублёў на лячэнне ў Ялце, адкуль ужо не вярнуўся.

### Меў свой погляд на гісторыю

«Гісторыя — гэта жыццяпіс народаў, памылкі мінулага — яе папераджальныя знакі, праявы мудрасці і мужнасці продкаў — указальнікі шляху. Яна пашырае погляды, дае досвед. Досвед — гэта добры настаўнік, і хоць вучань часта бывае тупым, але пэўныя высновы з яго ўсё ж робіць». ◆

**Падрыхтавала Паўліна Скурко, фотаздымкі з кнігі Алеся Смаленчука**

**ЧЫТАЙЦЕ БОЛЬШ**

Смалянчук, А.Ф. **Раман Скірмунт (1868–1939): жыццяпіс грамадзяніна Краю.** Мінск, 2018. 692 с.



# Аперацыя «Бумеранг»

## Як савецкі КГБ 20 гадоў вадзіў за нос украінскія эміgranцкія цэнтры

**Эміграцыя спрабавала ўплываць на падзеі ўнутры Украіны. Савецкая бяспека стварала для яе ўражанне, што гэта сапраўды працуе. Расказвае рэдактар украінскага сайта «Історична правда» Ігар Бігун.**





### Місія Адама

1970 год. Грамадзянін Польскай Народнай Рэспублікі, інжынер Томаш Бялінскі наведвае Львоў. Львоў быў Бялінскаму не чужы. Інжынер Бялінскі быў са сталіцы ўкраінскай Галіччыны родам. Больш за тое, ён нават даводзіўся родзічам галоўнаму камандзіру партызанскай Украінскай паўстанцкай арміі (1943–1950) Раману Шухевічу. Але падарожжа ў родныя мясціны не было для Бялінскага настальгічным. У яго былі іншыя, вызначаныя мэты. У Львове Бялінскі сустрэўся з загадчыкам хірургічнага аддзялення мясцовай абласной бальніцы Святаславам Панчышыным.

Інжынер Бялінскі, падпольны псеўданім Адам, выконваў заданне строга заканспіраванай Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў знайсці кандыдатуру на пасаду кіраўніка падпольнай сеткі ва Украінскай ССР.

Звярнуць увагу на Панчышына Адаму рэкамендаваў сябар кіраўніцтва АУН у Вялікабрытаніі і кіраўнік Саюза ўкраінцаў Брытаніі Ілья Дзмітрыў. Ён, уласна, і пазнаёміўся з Бялінскім падчас адной з замежных камандзіровак у канцы 1960-х гадоў.

У часы халоднай вайны амаль уся ўкраінская палітычная эміграцыя ставілася да Савецкага Саюза варожа. Але антысавецкія сілы не былі маналітнымі. Ветэраны вызваленчай барацьбы 1917–1921 гадоў і людзі ліберальна-дэмакратычных перакананняў гуртаваліся вакол Дзяржаўнага цэнтра Украінскай Народнай Рэспублікі ў выгнанні. Арганізацыя ўкраінскіх нацыяналістаў, у сваю чаргу, была падзеленая на чатыры непрыхільныя адна да адной структуры. Самым радыкальным было згуртаванне «бандэраўцаў» — так званыя Замежныя часткі (ЗЧ) АУН. Іх штаб-кватэра месцілася ў баварскім Мюнхене. Па стане на канец 1960-х у Замежныя часткі ўваходзіла каля 3 000 чалавек, найбольшыя цэнтры ЗЧ АУН дзейнічалі ў Вялікабрытаніі, Францыі, ЗША і Канадзе. Бандэраўцы працавалі і з нацыяналістамі іншых паняволеных Саветамі нацый у шэрагах Антыбальшавіцкага блока народаў (АБН).

### Хірург як падсадная качка

Доктар Панчышын сваёй «аб'ектыўкай» ствараў уражанне чалавека антысавецкага і шчырага патрыёта Украіны. Ягоны дзядзька Мар'ян Панчышын (1882–1943) займаў пасаду міністра аховы здароўя і першага намесніка старшыні ва ўрадзе Украінскай дзяржавы, якую АУН абвясціла 30 чэрвеня 1941-га ў Львове. Гэты ўрад быў тут жа разагнаны і арыштаваны гітлераўцамі.

Ігар Бігун — навуковы супрацоўнік Цэнтра даследаванняў вызвольнага руху, рэдактар украінскага сайта «Історична правда» (Кіеў).

А кіраўніком таго ўрада быў будучы кіраўнік ЗЧ АУН (1968–1986) Яраслаў Стэцько.

Святаслаў Панчышын, пляменнік міністра Мар'яна, скончыўшы Львоўскую акадэмічную гімназію, у 1943 годзе паехаў вучыцца ў Венскі ўніверсітэт. Калі праз два гады ў сталіцу Аўстрыі прыйшла савецкая акупацыйная адміністрацыя, Панчышына прымусова рэпатрыіравалі на радзіму. З урыўкавых звестак можна зрабіць выснову, што яму давялося нават правесці некаторы час за кратамі. У Львове Панчышын атрымаў спецыяльнасць хірурга-траўматолага.

На прапанову эмісара АУН супрацоўнічаць Святаслаў Панчышын пагадзіўся, атрымаў падпольны псеўданім Дарашэнка, неабходныя інструкцыі. Так пачалася аператыўная гульня пад назвай «Бумеранг», якую органы КГБ УССР і МУС ПНР праводзілі каля 20 гадоў. Панчышын быў агентам КГБ і старанна выконваў сваю ролю падсадной качкі.

### Высілкі эмігрантаў — у пясок

Саветы задушылі ўзброеную барацьбу Украінскай паўстанцкай арміі і Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў у сярэдзіне 1950-х гадоў. Апошняга правадыра АУН і камандзіра УПА Васіля Кука ўзялі ў палон у 1954-м. Перастрэлкі і арышты адзіночных баевікоў-нелегалаў савецкімі сілавікамі здараліся да 1960-х, аднак масавага нацыяналістычнага падполля даўно не існавала.

**Галоўнай задачай аперацыі «Бумеранг» была імітацыя наяўнасці падполля АУН ва УССР**




**Нават не падумаеш, што гэтыя джэнтльмены ў гальштуках былі арганізатарамі падполля.**
На фота: кіраўнікі Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў Вялікабрытаніі.

Але па той бок «жалезнай заслоны» Замежныя часткі АУН не гублялі надзеі раздзьмуць вогнішча барацьбы за незалежнасць на Радзіме.

Менавіта ў імітацыі наяўнасці падполля АУН ва УССР і была галоўная задача аперацыі «Бумеранг». Такім чынам савецкая бяспека спадзявалася ўсе высілкі ўкраінскай эміграцыі каналізаваць у пясок. Ад імя падкантрольнага дзяржбяспецы Святаслава Панчышына (агент Крылаты) аперацыю вялі 1-е (знешняя выведка) і 5-е (барацьба з ідэалагічнымі дыверсіямі) упраўленні КГБ УССР сумесна з МУС камуністычнай Польшчы. Савецкія органы дзяржбяспекі мелі багаты досвед аператыўных гульняў з замежнымі цэнтрамі антысавецкага супраціву, напрыклад: «Трэст», «Сіндыкат» (супраць Белага руху) і «Траса», «Звяно» (супраць украінскіх нацыяналістаў).

На жаль, дакументы самой аперацыі «Бумеранг» у архівах СБУ не выяўленыя. Або яны ад пачатку захоўваліся толькі ў Маскве, або іх перавезлі туды, калі Саюз трашчаў па швах. Аднак у галіновым дзяржаўным архіве Службы бяспекі Украіны захаваліся рапарты старшыні КГБ УССР са справаздачамі аб выніках, якія клаліся на стол першаму сакратару кампартыі Украіны Уладзіміру Шчарбіцкаму на працягу ўсёй гэтай аператыўнай гульні.

### Гульня пачынаецца

Савецкая дзяржбяспека пачала гульню, як толькі Панчышын выканаў праверачнае заданне, атрыманае ад Адама. Панчышын мусіў перадаць за мяжу матэрыялы савецкай прэсы пра ўкраінскіх дысідэнтаў, у тым ліку Вячаслава Чарнавіла і Ігара Калінца, і сабраць звесткі пра былых байцоў УПА і АУН, якія пражывалі ў Львове.

Чарнавіл у той час разам з Іванам Святлічным стварылі фонд дапамогі палітвязням і выпускалі самвыдат. Грошы ад украінцаў-сімпатызантаў ім даходзілі, але з АУН яны звязаныя не былі.

З тых часоў да «кіраўніка падполля АУН у Львове» Панчышына-Дарашэнкі час ад часу прыязджалі Адам і іншыя эмісары АУН, прывозілі інструкцыі, нелегальную ў СССР літаратуру, фотаапараты, радыёпрымачы і г. д. А наўзамен атрымлівалі фальшывыя звесткі пра савецкі ваенна-прамысловы комплекс, настроі грамадства і перспектывы падпольнай барацьбы супраць рэжыму.

У 1975 годзе Святаслаў Панчышын атрымаў ад кіраўніцтва АУН заданне распаўсюдзіць сетку і на Кіеў. Так у аперацыі «Бумеранг» з'явілася яшчэ адна дзейная асоба — журналіст Юрый Іванчанка (агент Мікалай), якога КГБ падставіў на ролю кіраўніка Кіеўскага апорнага пункта АУН. Маючы рэкамендацыю ад Панчышына як «свядомы ўкраінскі журналіст-патрыёт», Іванчанка наведаў Польшчу, дзе яго прымаў Адам.

Ён перадаў Іванчанку даручэнне наладзіць у сталіцы Украіны ▸


оп-3

УРСР
КОМІТЕТ ДЕРЖАВНОЇ БЕЗПЕКИ
при РАДІ МІНІСТРІВ УКРАЇНСЬКОЇ РСР

УССР
КОМИТЕТ ГОСУДАРСТВЕННОЙ БЕЗОПАСНОСТИ
при СОВЕТЕ МИНИСТРОВ УКРАИНСКОЙ ССР

11. апреля 1975 г. № 126 г. Киев.

Несекретно
~~Совершенно секретно~~
Экз.№ 1
24/2-3396; 02.09.13

ЛИЧНО

ЦЕНТРАЛЬНЫЙ КОМИТЕТ КОММУНИСТИЧЕСКОЙ ПАРТИИ УКРАИНЫ

товарищу ЩЕРБИЦКОМУ В.В.

СПЕЦИАЛЬНОЕ СООБЩЕНИЕ

КГБ при СМ УССР по делу "Бумеранг" ведется оперативная игра против ЗЧ ОУН от имени легендируемой в городе Львове националистической группы в составе агентов органов госбезопасности "Крылатого" и "Оксаны", о чем ЦК Коммунистической партии Украины доложено 24 марта 1974 года справкой № 2591.

С 21 по 30 марта 1975 г. на Украине находилась группа канадских туристов в количестве 162 человек, сформированная из числа школьников и преподавателей украинского происхождения, в числе которых находился ФИГОЛЬ Лев, 1958 года рождения, ученик 11 класса.

29 марта с.г. эмиссар ЗЧ ОУН ФИГОЛЬ во Львове на квартире агента "Оксаны" встретился с "Крылатым" и наряду с устной информацией передал агенту пару туфель, в которых были закамуфлированы: 10 микропленок с материалами IУ "съезда" ЗЧ ОУН, так называемое обращение У "съезда" ЗЧ ОУН к украинскому народу и другие антисовет-

Адзіная даступная крыніца матэрыялаў пра «Бумеранг» — строга сакрэтныя дакладныя запіскі КГБ кіраўніку кампартыі Украіны Шчарбіцкаму.

выпуск нелегальнай газеты пад назвай «Самостійна Україна». Для гэтага з-за мяжы з «турыстам» пераправілі размнажальную машыну «Рон-270» з усімі неабходнымі для друку прыладамі. Вядома, яе так ніколі і не пусцілі ў дзеянне. Эмісары дабіраліся ва Украіну толькі пару разоў на год, і праверыць факты распаўсюджвання ўлётак ці іншай дзейнасці яны не маглі, таму давяралі майстэрскім справаздачам, якія ім перадаваў Панчышын.

Акрамя Панчышына, у легендаваную Львоўскую групу ўваходзіла таксама агент Аксана, чыё сапраўднае імя пакуль расшыфраваць не ўдалося.

## Эфектыўна і дома, і ў гасцях

З дапамогай гэтых падстаўных нацыяналістаў — Панчышына, Іванчанкі і Аксаны — КГБ УССР вадзіў за нос замежных аунаўцаў 20 гадоў, да канца 1980-х. На працягу гэтага часу спецслужбы выманілі ў Польшчу і Украіну і перахапілі больш за 20 эмісараў АУН, якія былі грамадзянамі Вялікабрытаніі, Федэратыўнай Рэспублікі Германіі, Францыі і ЗША.

Напрыклад, 29 мая 1975-га з Панчышыным у Львове сустрэўся Леў Фігаль — школьнік-адзінаццацікласнік з Канады, які наведваў Украіну ў складзе турыстычнай дэлегацыі. Фігаль прывёз схаваныя ў пары туфляў 10 мікраплёнак з матэрыяламі V Вялікага збору АУН, 1 500 савецкіх рублёў (для параўнання: сярэдні заробак ва Украіне тады быў каля 150 рублёў), інструкцыі па новых спосабах сувязі групы Дарашэнкі з замежным кіраўніцтвам і інфармацыяй пра антысавецкія акцыі АУН за мяжой.

У прыватнасці, лідары АУН давалі заданне падрыхтаваць зварот да ўкраінскай эміграцыі ад імя «падполля ў Львове» ў падтрымку ЗЧ АУН і персанальна Яраслава Стэцько.

1 жніўня 1977-га з чарговай порцыяй інструкцый і грошай з Вялікабрытаніі прыбыў эмісар Андрэй Клімчук, студэнт 2-га курса педагагічнага каледжа. Пры арышце супрацоўнікі КГБ забралі ў яго дзве непраяўленыя фотаплёнкі і схаваныя ў туфлях 10 000 рублёў, а таксама літаратуру і інструкцыі для «ўкраінскіх падпольшчыкаў». Сярод іх, напрыклад, былі выдадзеныя на Захадзе дакументы Украінскай Хельсінкскай групы, артыкулы расійскіх, польскіх і іншых дысідэнтаў на тэму Украіны.

19 жніўня 1983 года МУС Польшчы арыштаваў у горадзе Бытам эмісара ЗЧ АУН Ірыну Зялёную. А за пяць гадоў у рукі польскай дзяржбяспекі трапіла кур'ерка з Брытаніі Люба Штокала, якая везла новыя інструкцыі для «АУН ва Украіне».

Агенты КГБ гралі ролі падпольшчыкаў АУН настолькі

ўпэўнена, што не цураліся сустракацца з вышэйшымі праваднікамі АУН на іх тэрыторыі. У ліпені – жніўні 1975 года агент Мікалай (Юрый Іванчанка) выязджаў у Канаду, дзе ў Манрэалі сустракаўся з кіраўніком службы бяспекі ЗЧ АУН у гэтай краіне — была і такая, украінскія нацыяналісты імкнуліся дзейнічаць сур'ёзна. Праўда, «агента» і легенду пра «падполле ва Украіне» «служба бяспекі» прыняла за чыстую манету.

Са словаў Іванчанкі, яго праінструктавалі, што задачай «падпольнай сеткі» на найбліжэйшыя 5–10 гадоў будзе падрыхтоўка нацыянальнай рэвалюцыі. З гэтай мэтай рэкамендавалі падбіраць новыя кадры для АУН, прапагандаваць ідэі арганізацыі праз распаўсюд улётак, ініцыяваць забастоўкі рабочых і калгаснікаў, пранікаць у савецкую армію, КГБ, партыйныя і дзяржаўныя органы. Немагчыма праверыць, ці гэта праўда, ці куратары Мікалая перабольшылі маштаб задач для стварэння большага эфекту.

Адпраўляючы «падпольшчыка» назад у СССР, кіраўнікі АУН у Канадзе выдалі яму мікрафотаапарат «Мінакс» і арганізацыйную літаратуру.







Школьнік-адзінаццацікласнік з Канады, які наведваў Украіну ў складзе турыстычнай дэлегацыі, прывёз **схаваныя ў пары туфляў грошы і пракламацыі.**

Яны і распавялі, як фабрыкавалася «падполле АУН ва Украіне». Аказалася, напрыклад, што Томаш Бялінскі (Адам, Стэфан, Яўген) быў пад каўпаком польскіх спецслужбаў яшчэ з 1967 года. Яго дзейнасць праходзіла па аператыўнай справе «Цэнтр».

Дзякуючы гульні «Бумеранг», чэкісты былі падрабязна праінфармаваныя аб планах і намерах АУН, перахоплівалі праграмныя дакументы і пракламацыі.

Вынікам прэс-канферэнцыі стала шырокая кампанія ў савецкіх СМІ. АУН называлі «агентурай заходніх разведак», «дыверсантамі», «экстрэмістамі» і «рэакцыянерамі». Ход аператыўнай камбінацыі для масавага чытача ўзнавілі ў прапагандысцкай брашуры «Халасты ход АУН» (1988).

### Халасты ход АУН

Гады ішлі, легендаванае КГБ падполле АУН ва Украіне спрытна імітавала бурную дзейнасць.

За паспяховую «барацьбу супраць рэжыму» Святаслава Панчышына ў 1978 годзе зрабілі кіраўніком усёй «сеткі АУН» ва Украіне. Панчышын і Іванчанка ўдастоіліся Залатога крыжа заслугі і срэбранага медаля імя Бандэры.

Томаш Бялінскі, які, не ведаючы таго, вербаваў у АУН агентаў КГБ, быў за гэта ўзняты да намесніка правадыра ЗЧ АУН Стэцько. Бялінскі так і памрэ ў 1983 годзе, не ведаючы пра ролю Панчышына.

Гарбачоўская перабудова, здавалася, адкрывала яшчэ большыя перспектывы для супрацьрэжымнай барацьбы. У другой палове 1980-х замежны цэнтр патрабаваў ад Панчышына і Іванчанкі інфармацыю пра аварыю на Чарнобыльскай АЭС і настроі Чарнавіла ды іншых вызваленых палітвязняў, каб прыцягнуць іх у свае шэрагі.

### Нечаканая развязка

Аднак нечакана «камінг-аўт» зрабіў сам КГБ. Як гром сярод яснага неба прагучала прэс-канферэнцыя, арганізаваная чэкістамі сумесна з Міністэрствам замежных спраў УССР. 14 верасня 1988-га ў Кастрычніцкім палацы ў самым цэнтры Кіева перад савецкімі і замежнымі журналістамі выступілі галоўныя фігуранты «Бумеранга»: агенты Святаслаў Панчышын, Юрый Іванчанка, кіраўнікі аперацыі палкоўнік Канстанцін Высоцкі (намеснік начальніка 5-га ўпраўлення КДБ УССР) і маёр Аляксандр Мінькевіч (супрацоўнік МУС ПНР), а таксама старшыня рэспубліканскага КГБ Мікалай Галушка.

**У Андрэя Клімчука, студэнта 2-га курса педагагічнага каледжа, супрацоўнікі КГБ забралі непраяўленыя фотаплёнкі і схаваныя ў туфлях 10 000 рублёў**

Прэс-канферэнцыя для сяброў і кіраўніцтва ЗЧ АУН стала шокам. Гэта ж не жарты: амаль 20 гадоў у шэрагах арганізацыі дзейнічалі двайныя агенты! Паводле задумы дзяржбяспекі, гэта павінна было пераканаць эміграцыю ў безвыніковасці спробаў звергнуць савецкі рэжым.

«Мы прыйшлі да высновы, што было б няправільна далей ствараць ілюзіі ў заходніх спецслужбаў, ▸

SHUTTERSTOCK. BYFOTOKON

**Дарогі гісторыі непрадказальныя**: у 1988-м у Кастрычніцкім палацы (зверху справа) прайшла прэс-канферэнцыя фігурантаў «Бумеранга». А ў 2014-м гэтае месца стане эпіцэнтрам «Рэвалюцыі годнасці». На фота: месца гібелі людзей пад агнём снайпераў.

▸ у тых жа цэнтраў АУН, што ў нас ёсць нейкая база для арганізаванай барацьбы супраць нашага ладу», — так патлумачыў матывы КГБ палкоўнік Высоцкі на прэс-канферэнцыі.



**Прэс-канферэнцыя падстаўных нацыяналістаў. Кіеў, 1988 год.** Фота, распаўсюджанае савецкімі інфармацыйнымі агенцтвамі. Злева сядзіць Святаслаў Панчышын.

Хоць, магчыма, прычына скканчэння аперацыі была іншая. Савецкія спецслужбы маглі ведаць, што кіраўніцтва ЗША разглядае варыянт спынення сакрэтных аперацый ЗША супраць СССР — у якасці сяброўскага жэсту на адрас рэфарматара Міхаіла Гарбачова. Раскрыццё «падполля АУН» яўна магло стаць дадатковым аргументам для такога кроку. Маўляў, толку ад іх дзейнасці і так ніякага. Сапраўды, прэзідэнт Джордж Буш неўзабаве такое рашэнне прыме і ўрадавае фінансаванне цэнтраў украінскай эміграцыі спыніць.

## Бумеранг вярнуўся

Між тым СССР заставалася існаваць усяго пару гадоў. А гібель яго прыйшла не ад рамантыкаў-эмігрантаў. Закрытая, несвабодная сістэма згніла знутры. Усёпранікальны КГБ быў няздольны даць рады гэтай хваробе. Урэшце, бумеранг вярнуўся і ўдарыў па тых, што так доўга ім карысталіся.

Святаслаў Панчышын у 1989 годзе пераехаў з Львова ў Кіеў, дзе яго ніхто не ведаў. Ён памёр у 1992 годзе. А Юрый Іванчанка, за аперацыю «Бумеранг» узнагароджаны ордэнам «Знак пашаны», жывы і здаровы. Ужо ў незалежнай Украіне ён уклаў кнігі пра Запарожскае казацтва, гетмана Івана Мазепу, мітрапаліта Пятра Магілу, аўтара слоў гімна Украіны Паўла Чубінскага. А яшчэ пераклаў на ўкраінскую мову кнігу Мікалая Куна «Легенды і міфы Старажытнай Грэцыі». ◆



**Юрый Іванчанка, за аперацыю «Бумеранг» узнагароджаны ордэнам «Знак пашаны»,** жывы і здаровы.

# «Хрэн табе ў вочы!»: дык хто ж напісаў «Пінскую шляхту»?

**Адказ шукае выкладчык Палескага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат фізіка-матэматычных навук з Пінска Аляксандр Ільін.**




**Пінская шляхта сярэдзіны XVIII стагоддзя.** Старонка метрычнай кнігі касцёла Пінскага кляштара францысканцаў, 1745 год.

Практычна безнадзейна змагацца з карпаратыўнай салідарнасцю літаратуразнаўцаў і гісторыкаў, калі паддаеш сумневу звесткі, ужо запісаныя ў школьныя падручнікі як безумоўная ісціна.

Аўтарам знакамітага вадэвіля «Пінская шляхта» лічыцца Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Удумлівыя літаратуразнаўцы, аднак, звяртаюць увагу вось на што.

1) П'еса моцна вылучаецца сярод іншых твораў Дуніна-Марцінкевіча сваімі арыгінальнымі мастацкімі прыёмамі, больш высокім мастацкім узроўнем, а таксама нечаканай і невытлумачальнай мовай твора – пінскай гаворкай, якая значна адрозніваецца ад літаратурнай беларускай мовы.

2) Шляхціц (герб «Лебедзь») Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, які велізарнымі намаганнямі дамогся пацвярджэння дваранства і ідэалізаваў у сваіх іншых творах шляхту, раптам рэзка яе выкрыў і высмеяў у знакамітай п'есе.

Сенсацыяй стаў артыкул прафесара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Ніны Мячкоўскай «Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч не быў аўтарам вадэвіля “Пінская шляхта”», апублікаваны ў 2000 годзе ў венскім часопісе *Wiener Slawistischer Almanac*. Мячкоўская паказала: напісаць такі таленавіты твор на літаратурна не распрацаванай мове мог толькі смелы чалавек з выключнымі здольнасцямі да моў, які доўга пражыў на Піншчыне і добра валодаў мясцовай гаворкай. Цяжка зразумець, з якога перапуду Дунін-Марцінкевіч браўся б за такую звышскладаную задачу — напісаць адзін твор на пінскай гаворцы.

На наш погляд, адзіным сур'ёзным недахопам публікацыі прафесара Мячкоўскай з'яўляецца тое, што ў канцы артыкула яна няпоўна абрысавала выніковы вобраз меркаванага аўтара, лічачы яго юрыстам, супрацоўнікам суда.

З артыкула паўстае зусім іншы вобраз аўтара вадэвіля:

1) таленавіты пісьменнік, які даволі доўга пражыў на Піншчыне і выкарыстоўваў пінскую гаворку ў жыцці;

2) дапытлівы і адукаваны чалавек са здольнасцямі да моў, які ведаў жыццё простых пінчукоў;

3) чалавек рускай культуры, які добра арыентаваўся ў мясцовых судовых справах.

Які чалавек тады мог бы адпавядаць такім крытэрыям? Напрыклад, мясцовы праваслаўны святар.

У 2005 годзе група навукоўцаў з БДУ ўступіла ў завочную палеміку з прафесарам Мячкоўскай. ▸

**«Пінская шляхта»** — сатырычны фарс-вадэвіль, у якім высмейваюцца пыха і абмежаванасць мястэчковай шляхты, хабарніцтва чыноўнікаў, бюракратыя ды абсурд расійскіх судоў. Напісаны ў 1860-я.
**Аўтарства традыцыйна прыпісваюць Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу, хоць сам ён ніколі не называў «Пінскую шляхту» ўласнай п'есай. Пасля смерці пісьменніка рукапіс на пінскай гаворцы знайшлі ў яго паперах, адсюль і з'явілася версія пра аўтарства.** Хоць рукапіс «Пінскай шляхты» сапраўды перапісаны рукой Дуніна-Марцінкевіча, аднак магчыма, што пісьменнік проста зрабіў для сябе копію ўпадабанага твора. Гэтаксама сярод яго папер быў знойдзены і рукапіс «Тараса на Парнасе», і Дуніна-Марцінкевіча таксама спярша лічылі аўтарам паэмы. На тое, што аўтарам «Пінскай шляхты» быў не Дунін-Марцінкевіч, указвае найперш мова твора: дыялекты тых мясцін, дзе бываў пісьменнік, цалкам адрозніваюцца ад дыялекту, на якім напісана «Пінская шляхта».
Першы раз «Пінскую шляхту» апублікавалі ў 1918 годзе ў мінскай газеце «Вольная Беларусь», аўтарамі перакладу сталі Янка Купала і Язэп Лёсік. У гэтым перакладзе «Пінская шляхта» і трапіла ў школьную праграму.

▶ Пераканаўчых контраргументаў у іх не знайшлося. Апаненты спрабавалі злавіць Мячкоўскую на дробных памылках. Гэта распаўсюджаная тактыка: знайсці дробную хібу і сканцэнтраваць на ёй усю ўвагу, каб падарваць давер да ўсяго артыкула і да яго аўтара. Таксама апаненты Мячкоўскай падкрэслівалі, што мовазнаўцу, нават добраму, не варта лезці ў літаратуразнаўства, якое трэба пакінуць прафесіяналам. Нават абвінавацілі заслужанага навукоўца-філолага ў плагіяце. Зразумець іх можна: у свой час яны самі ўшчыльную падышлі да ідэі, што Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч не з'яўляецца аўтарам вадэвіля, але не хапіла смеласці яе сфармуляваць і абнародаваць.

Артыкул прафесара Мячкоўскай даў і мне штуршок да вывучэння гісторыі стварэння «Пінскай шляхты».

У Пінску ў 60-я гады XIX стагоддзя ўзнік праваслаўны гісторыка-этнаграфічны гурток, яго ўзначаліў заўзяты барацьбіт з польскім уплывам, пінскі благачынны Васіль Грудніцкі. Членамі гуртка былі святары Платон Ціхановіч, Дзмітрый Булгакоўскі, Фелікс Дружылоўскі, Ян Акаронка і, магчыма, дырэктар гімназіі Стэфан Куклінскі, настаўнік Міхаіл Загароўскі, інспектары народных вучылішчаў Мікалай Акаронка і Яўстафій Тарановіч. Натуральна было шукаць аўтара «Пінскай шляхты» сярод членаў гуртка. Спачатку я звярнуў увагу на Платона Ціхановіча і Стэфана Куклінскага. Праўда, сур'ёзных аргументаў на карысць іх аўтарства не было, акрамя таго, што першы з іх напісаў першую палескую граматыку — на аснове гаворкі вёскі Лунін Пінскага павета (на жаль, яна засталася ў рукапісе, ён захоўваецца ў Літоўскім гістарычным архіве). А другі збіраў фальклор на Падляшшы.

Але ў 2010 годзе найбуйнейшы знаўца палескіх гаворак Фёдар Клімчук у часопісе «Гістарычная брама: Гісторыя і культура Палесся» апублікаваў артыкул «Пра мову п'есы "Пінская шляхта"», у якім робіць такія высновы:

1) Мова «Пінскай шляхты» — гэта стройная сістэма, а не якая-небудзь неўпарадкаваная «сумесь» ці стылізацыя.


MINOBLTURISM.GOV.BY

Дунін-Марцінкевіч быў з цэнтральнабеларускай шляхты і ўсё жыццё пражыў на Міншчыне. **Вельмі неверагодна, што ён адзіны са сваіх твораў напісаў на чыстым пінскім дыялекце.** Карціна Эдуарда Рымаровіча.


KUPALAUSKI.BY

**Віктар Манаеў у ролі Прыстава Кручкова** ў спектаклі «Пінская шляхта» тэатра імя Янкі Купалы.

**Гук умляўт** адсутнічае ў суседніх славянскіх мовах, але ён ёсць у нямецкай: **гэта сярэдні гук паміж «ю» і «і»**. У арыгінале п'есы ён абазначаны літарай «ю», часам спалучэннем «іо»: «*вюн*» — ён, «*вюна*» — яна, «*тюльку*» — толькі.

2) У мове «Пінскай шляхты» найбольш значныя два кампаненты: а) мясцовая берасцейска-пінская гаворка і б) старая ўсходнеславянская (старабеларуская і стараўкраінская) пісьмовая традыцыя.

3) Для мовы «Пінскай шляхты» характэрная такая рыса, як наяўнасць галоснага ўмляўта ў пэўнай пазіцыі.

4) Аўтарам «Пінскай шляхты» мог быць мясцовы, а мог быць і выхадзец з іншага рэгіёна. У другім выпадку ён доўга жыў на Піншчыне і засвоіў мясцовую гаворку. Другі варыянт больш верагодны.




Даследчык берасцейскіх і пінскіх дыялектаў **Фёдар Клімчук.**

**Карта мясцовасцяў, дзе ў гаворцы існаваў гук умляўт**. Яе склаў Фёдар Клімчук.

## Ключык да разгадкі дае рэдкі гук, які сустракаецца ў гаворцы персанажаў п'есы

Выяўленне Фёдарам Клімчуком у мове «Пінскай шляхты» ўмляўта дазволіла яму выказаць гіпотэзу: п'еса напісана на гаворцы вёскі Купяцічы, якая месціцца побач з Пінскам. Сяло славілася цудатворнай іконай Купяціцкай Божай Маці — святыняй Палесся. А мне ўдалося выявіць, што расійскі пісьменнік, палескі этнограф і фальклярыст Дзмітрый Булгакоўскі, укладальнік і аўтар знакамітага фальклорнага зборніка «Пінчукі», быў адзін час святаром вёскі Купяцічы! Цікава таксама, што Булгакоўскі ў сваёй фундаментальнай працы падкрэсліваў, што характэрнай рысай пінскай гаворкі з'яўляецца якраз «умляўт»!

Уражаны такой колькасцю супадзенняў, я напісаў новыя артыкулы пра магчымае аўтарства «Пінскай шляхты» ў «Краязнаўчай газеце» і ў часопісе ўкраінцаў Польшчы «Над Бугом і Нарвою». І на гэты раз адказ універсітэцкіх абаронцаў аўтарства Дуніна-Марцінкевіча меў «забойчы» аргумент: аказваецца, іх апанент, па прафесіі матэматык, мае не тую адукацыю і паходжанне, да таго ж часта друкуецца ў раённых і іншых дробных газетах.

На жаль, пакуль у мяне няма прамых доказаў таго, што Дзмітрый Булгакоўскі з'яўляецца аўтарам «Пінскай шляхты». Аднак ёсць некалькі дзясяткаў аргументаў на карысць гэтай версіі.

Прывядзём прыклады некаторых (на ўсе ў нас проста не хопіць месца). Спачатку яшчэ раз адзначым, што ў будучыні, з'ехаўшы з Купяцічаў і адмовіўшыся ад святарскага сану, Дзмітрый Булгакоўскі стаў даволі вядомым і пладавітым свецкім пісьменнікам і публіцыстам (у каталогу Расійскай нацыянальнай бібліятэкі яго творы складаюць 252 пазіцыі).

У сваіх творах пісьменнік апісваў штодзённасць розных слаёў. У аповесці «Блізняты» ён крытычна апісаў разгульнае жыццё маскоўскай арыстакратыі. У аповесці «У баку ад жыцця» выкрывае сучаснае яму духавенства, акцэнтуе яго заганы. Галоўная тэма публіцыстычных твораў Дзмітрыя Булгакоўскага — барацьба з п'янствам і, як вынік, змаганне за моцную сям'ю. Аўтар «Пінскай шляхты» таксама іранічна і насмешліва ставіўся да п'янства. А тэма шчаслівага кахання і сям'і — адна з галоўных у п'есе.

Дзмітрый Булгакоўскі нарадзіўся ў горадзе Ялец Арлоўскай губерні. У 1869 годзе ён скончыў Мінскую духоўную семінарыю і ўвосень таго ж года пасвечаны ў сан святара Морацкай царквы Мазырскага павета. У 1870 годзе пераведзены ў Пінск, дзе служыў святаром Свята-Фёдараўскай царквы. Адначасова малады святар выкладаў царкоўнаславянскую і рускую мовы ў Пінскім духоўным вучылішчы, пісаў падручнікі па рускай мове для пачатковых школ.

За 3–4 гады Дзмітрый Булгакоўскі аб'ездзіў усю Піншчыну. Вывучаючы яе, ён сабраў багаты фальклорны і этнаграфічны матэрыял, і ўжо да сакавіка ▶

Ой, так! Нэхай ганыт батько, нехай лает маты, а я люблю Грыцька и любити его вик буду... Шчо се за дур напав на батькоў? По пьяну завэлыса дай побылыса с собою за шляхецьтво, а мы с Грыцьком чрез то горуем да унываем. Его батько подаў на мого ў суд жалобу, и сигодня прыидет ў околыцю Найяснейшая Корона* на слидство. В ним цылое наше спасэнье... А вюн таки сырдиты, нэ допущай бог! Як наставыт одын вус угору, а другы вныз, як зыркнэ одным своим воком, а крыкнэ: по найяснэйшому указу! — то батьки злякаются і сладят нам высилье.

* Найяснейшай Каронай шляхта называла работнікаў суда, якіх прызначаў урад («карона»).

▶ 1874 года быў гатовы да публікацыі яго знакаміты фальклорны зборнік «Пінчукі». Дзмітрый Булгакоўскі пісаў у «Пінчуках»: «Мова песні, якая часта адгукаецца глыбокай рускай даўнінай, гэтак жа, як і жывая гаворка пінчука, маючы найвялікшае падабенства з маларасійскай гаворкай, заключае ў сабе масу такіх старажытнаславянскіх, царкоўнаславянскіх і старарускіх слоў, якія мы не знаходзім ні ў маларасійскай гаворцы, ні тым больш у беларускай; у фанетыцы мовы і ў граматыцы яе мы сустракаем такія элементы, якіх не існуе ў згаданых гаворках».

15 лютага 1874 года Дзмітрый Булгакоўскі памяняўся пасадай з настаяцелем Купяцікай царквы Феліксам Дружылоўскім.



З КНІГІ Г. ШАГЛОВА «ПЕЧАЛЬНИК О БЛАГЕ НАРОДНОМ»

**Дзмітрый Булгакоўскі.**

Служачы ў Купяцічах, пісьменнік удзельнічаў у некалькіх царкоўных цяжбах, перасварыўся з многімі мясцовымі праваслаўнымі святарамі (Міхалевічам, Дружылоўскім, Тарановічам, Акаронкам і інш.), якія паходзілі з пінскай шляхты. Праз гэта ён вымушаны быў пакінуць Піншчыну. Вось вам і асабістыя падставы не любіць пінскую шляхту: і яе дробязнасць, і прагнасць, і пыхлівасць, і страх, і рабалепства перад начальствам...



**Пінск.** Малюнак Юзафа Крашэўскага, сярэдзіна XIX стагоддзя.

Мае апаненты спрабуюць прывязаць месца дзеяння «Пінскай шляхты» да сяла Альпень Столінскага раёна, але ж насельніцтва яго размаўляе на зусім іншай гаворцы. Акрамя таго, яны забываюцца, што Марыся збіралася тапіцца ў Прыпяці, якая ад Альпеня далекавата. Для альпенскай дзяўчыны лагічным было б звяртаць свой погляд на недалёкую Гарынь.

Але як патлумачыць тое, што прозвішчы галоўных герояў альпенскія? У сучасным Альпені жывуць і Пратасавіцкія, і Ліпскія з прыдомкам Цюхаі, ды і прозвішча Альпенскі ў п'есе сустракаецца... Адказы на гэта пытанне могуць быць розныя і зоймуць цэлы артыкул. Магчыма, аўтар спецыяльна хацеў заблытаць тых, хто імкнуўся яго ідэнтыфікаваць. Або звесці асабістыя рахункі. Або проста выкарыстоўваў распаўсюджаныя ў рэгіёне прозвішчы (напрыклад, у пінскай гімназіі выкладаў настаўнік Альпенскі). І гэтак далей.

Застаецца шмат і іншых да канца не вырашаных пытанняў, звязаных з «Пінскай шляхтай», напрыклад час яе напісання. Вядомы гісторык Аляксандр Ельскі ў свой час указваў на 1866 год, не прыводзячы ніякіх дакументальных пацвярджэнняў. Але Дунін-Марцінкевіч наўрад ці мог напісаць у 1866 годзе не толькі «Пінскую шляхту», але і любы іншы твор. Не да літаратурнай творчасці яму было тады: толькі што выйшаў з турмы, якая пахіснула здароўе, сямейныя праблемы... Толькі ў 1867 годзе Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч трохі ачуняў: паслаў (не напісаў) ва ўрадавы «Віленскі веснік» даўно напісаную аповесць «Быліцы, аповед Навума Прыгаворкі», але перапісаную кірылічнымі літарамі. Мала таго, прапаноўваў газеце супрацоўніцтва. Гэта была не толькі спроба падзарабіць, але і сігнал уладам пра сваё вернападданіцтва. І яго можна зразумець: трэба было зняць з сябе паліцэйскі нагляд і ратаваць любую дачку Камілу, сасланую на 10 гадоў у Салікамск. Ці мог ён тады пісаць «Пінскую шляхту» з яе




**Вёска Купяцічы — старажытная.** Яна ўпершыню згадваецца аж у 1182 годзе — у сувязі з набыццём дзяўчынкай Ганнай цудатворнага крыжа з выявай Багародзіцы, якая стане для палешукоў абразом Божай Маці Купяціцкай. Доўгі час Купяцічы будуць цэнтрам веры: тут два стагоддзі існаваў манастыр, жыхары Купяціч ганарыліся сваім мінулым і спрадвечнай гаворкай.




**Гэтая цудоўная ікона «Звеставанне»** другой паловы XVIII стагоддзя вісела ў царкве вёскі Купяцічы Пінскага раёна і ў той час, калі была створаная «Пінская шляхта».

рэзкай крытыкай уладаў, тым больш судовых?

Па нашай версіі, «Пінская шляхта» напісана не раней за 1875 год, але, думаецца, і не пазней за 1879 год. Вядома, літаратуразнаўцы могуць запярэчыць, успомніўшы ліст Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча мовазнаўцу і этнографу Яну Карловічу, у якім беларускі класік пісаў пра тое, што нейкі шляхціц вязе ў Вільню для чытання рукапісы, у прыватнасці і «Пінскай шляхты» (пры гэтым пісьменнік не кажа пра знакамітую п'есу як пра ўласны твор!). На жаль, гэты ліст аўтарам не датаваны. Аднак на ім рукой Карловіча напісана, што ён адказаў на ліст 11 студзеня 1869 года. Але тут яўная памылка або апіска, бо існуе і іншы ліст Марцінкевіча Карловічу з такой жа пазнакай апошняга! Я спецыяльна паехаў у Львоў, дзе захоўваюцца абодва лісты. Па-першае, яны напісаныя на рознай паперы, па-другое, почырк Дуніна-Марцінкевіча ў іх значна адрозніваецца, яны яўна пісаліся не ў адзін год. Магчыма, Карловіч у канцы жыцця, перабіраючы свой архіў, паблытаў даты напісання лістоў і замест, напрыклад, 1879 года напісаў 1869.

Бо тое, што ліст з адзіным упамінаннем «Пінскай шляхты» датуецца прыблізна 1879 годам, відаць і з яго зместу. Дунін-Марцінкевіч звяртаецца да Карловіча як да вялікага аўтарытэта ў галіне народнай літаратуры. Пры гэтым да 1869 года ў Яна Карловіча выйшла ўсяго адна кніга, і тая па гісторыі Іспаніі. Затое да канца 70-х Карловіч выдае многія свае значныя навуковыя працы.

Прывядзём яшчэ адзін аргумент за тое, што «Пінская шляхта» напісана пасля 1875 года. Тыпалагічна камедыя Дуніна-Марцінкевіча блізкая да п'есы ўкраінца Марка Крапіўніцкага «Пашыліся ў дурні» 1875 года. Магчыма, менавіта п'еса Крапіўніцкага аказала ўплыў на аўтара «Пінскай шляхты».

Думаецца, што нас наперадзе чакаюць новыя сюрпрызы і адкрыцці ў разгадцы аўтарства «Пінскай шляхты». Магчыма, мая гіпотэза, што яе напісаў Булгакоўскі, і памылковая. Але я ўпэўнены, што аўтарам быў і не Дунін-Марцінкевіч. ◆

# Газета 1906 года, якой ніколі не існавала

**Колькі існуе гісторыя, столькі існуюць і гістарычныя містыфікацыі. На адну з такіх купіліся нават абазнаныя даследчыкі, успамінае гісторык Анатоль Сідарэвіч.**

Больш за 30 гадоў таму, у 1985 годзе, у рэдакцыю газеты «Літаратура і мастацтва» прыйшоў паважаны аўтар — Адам Мальдзіс. Ён прынёс артыкул «Тры знаходкі».

Пасля адной літаратурнай вечарыны, пісаў Мальдзіс, да яго падышоў мастак Мікола Купава і спытаўся: што вам вядома пра першую беларускую газету «Гоман»? Славуты гісторык літаратуры, натуральна, сказаў мастаку, што ён ведае рускамоўны часопіс «Гомон», які ў 1884 годзе выдавалі беларускія нарадавольцы, і газету «Гоман», што ў 1916–1918 гадах выходзіла ў Вільні. Сказаў гісторык мастаку і пра «Мужыцкую праўду», і пра «Свабоду», і пра «Нашу долю» з «Нашай нівай». Але Купава казаў, што гаворка ідзе менавіта пра газету «Гоман», якая выходзіла перад «Нашай доляй».

Неўзабаве Адам Восіпавіч атрымаў ад Купавы 12-ы нумар «Гомана», які выйшаў за тыдзень да выхаду 1-га нумара «Нашай долі» — 24 жніўня 1906 года. Пра існаванне гэтай газеты, удакладняў Мальдзіс, не ведалі (тут я не магу ўстрымацца, каб не працытаваць класічны радок) «ні крот Сцяпан Александровіч, ні кротус Генус Кісялёў».



Цэна асобнага нумэру 5 кап.

Год 1. Вильня 24 жніўня 1906 г. № 12

ГОМАН

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Цэна з перэсылкою и дастаўкою да хаты: на 1 год 3 руб., на 6 месяцоў—1 руб. 50 кап., на 3 мес. 75 кап., на 1 мес. 25 кап. Без дастаўки и перэсылки: на 1 год—2 р. 40 к., на 6 мес. 1 р., 20 к на 3 мес.—60 кап., на 1 мес. 20 к. За границаю на 1 год—4 руб., на 6 мес.—2 руб., на 3 мес. 1 руб. Перэмена адрэсу—20 кап.

Абъяўлення прымаюцца на паследняй страницы па 20 кап за линейку малыми литэрами. Рукописы и корэспонденции, прысыланые у рэдакцыю, мусяць быць чытэльна написаны з праудзивою фамильею и адрэсом таго, хто не прысылае. Можна также падписаць прозвищэ разомъ з фамильею, кали незахочце, каб была надрукавана ваша праудзивая фамилия. Адрэс и фамилия тольки для ведама рэдакции.

(Дума збярэцца ўжо скора)

*Вильня 23 листопада (ноября).*

Дзень сазыву новой Государственной
Думы ўсё болей и болей приближаецца. Кали
яна збярэцца — нима ведома, але гледзя-
чы на тое, што цяперь робицца вакруг нас,
як прыгатаўляюцца да выбороў усе, каму
ёсць карысць або патреба, каб новая Дума
была непадобна да першай, — можна смела
сказаць, што Дума збярэцца ўжо скора.
Прэдвыборная работа кипиць усюды.
Разъяснения Сэната адабрали право пада-
вания голасу на выборах ад многих тыся-
чоў людзей, найбольш людзей працуючых.
Сотни и тысячи их сядзиць па турмах або
ў далёкай Сыбиры. Карыстаюць з гэтаго
ўсё цёмные силы: чорные сотни растуць
силай, грашми ды гарэлкай збираюць яны
голосы за своих дэпутатоў — ворагоў свету
и свабоды народнай.
Видзим мы ўсё гэта и с трывогою по-
глядаем упярод, с трывогай кидаем пытан-
не: якая будзе новая Дума? Чым пасля та-
го, што пераджыў народ за гэты год, изноў
настане царство цемноты и сил цёмных
и злых? И трывога наша мае прычыну.
Газеты разнесли па ўсёй Расеи весць ня-
добрую: Столыпин, глаўны министр, кажуць,
заявиў, што Дума повинна быць паслушна
правительству, бо иначэй яе зноў разго-
няць. А якаяж корысць, з Думы, которая
будзе бояцца смела сказаць праўду, сказаць
чаго трэба народу? Чыж не для гэтаго
яна збираецца?
Чы тольки жадання пана Столыпина
споўняцца так лёгко?
— История кажэ нам, што гэта не
надта лёгкая рэч. Семдзесят шэсць лет та-
му назад ва Франции было нешта падобнае
датаго, што цяперь робицца ў нас. Фран-
цускае правительство распусцило тогды пар-
лямент (тое што Гасуд. Дума) па пяць га-
доў раней сроку и думало, што на новых
выборах народ выбярэ дэпутатоў, паслуш-

ФОТА ПАЎЛА КАРАЛЁВА

Так выглядаў **псеўда-«Гоман».**

Мальдзіс апавядаў, як аднаго разу Мікола Купава зайшоў да знаёмага мінскага мастака і «выпадкова ўбачыў рэдкасць, на якую ні гаспадар, ні яго жонка не звярталі асаблівай увагі». Мала таго, яны не маглі нават успомніць, адкуль і калі той нумар «Гомана» да іх трапіў.

Адам Мальдзіс рабіў дапушчэнне, што першапачаткова ў таго мастака і ягонай жонкі «быў не адзін нумар, а некалькі». І пісаў: «З трывогай думаеш, а што было б, калі гэтае загадкавае выданне не трапіла на вочы такому зацікаўленаму чалавеку, як М. Купава?!».

На заканчэнне А. Мальдзіс пісаў: «На гэты раз усё абышлося шчасліва. Знаходка трапіла ў надзейныя рукі. М. Купава сказаў, што перадасць яе ў аддзел рукапісаў Акадэмічнай бібліятэкі».

Адам Восіпавіч прынёс і той нумар невядомага раней «Гомана». Патрымаўшы яго ў руках, а таксама ведаючы, што аўтар артыкула нарадзіўся ў Астравецкім раёне, я сказаў:

— Пан, пэўна, мае добрыя адносіны з Астравецкай раённай друкарняй. І пану зрабілі добрую газетку.

Адам Восіпавіч злёгку пакрыўдзіўся: «Як вы можаце дапусціць такую думку?»

### Вердыкт крыміналістаў

«Я ж сказаў, што артыкул будзе надрукаваны, бо ў ім пішацца і пра дзве іншыя знаходкі, а шаноўнаму аўтару раіў звярнуцца ў Інстытут крыміналістыкі: там скажуць, калі надрукаваны гэты дзіўны “Гоман”, пра які не ведалі ні браты Луцкевічы, ні Вацлаў Ластоўскі, ні нават такі калекцыянер (а заадно і выкрадальнік рэдкасцяў), як Рамуальд Зямкевіч».

Мальдзіс зрабіў так, як і раіў Сідарэвіч. У 1985-м Акадэмічная бібліятэка паслала запыт у Навукова-даследчы інстытут судовай экспертызы Мінюста БССР. Той параўнаў шрыфты «Гомана» і ўзоры шрыфтоў з каталогаў 1920–1960-х гадоў. І выявіў: усе тэксты і загалоўкі набраныя шрыфтамі, якія распрацавалі ў 1948–1959 гадах. Адпаведна, газета ніяк не магла быць створана ў 1906-м.

Аўтары містыфікацыі «пракалоліся» не толькі на гэтым. Яны падалі яўна псеўданімнае прозвішча рэдактара-выдаўца фіктыўнага «Гомана» — З. Грымотны — замест прозвішча галоўнага рэдактара. Падпісваць газету псеўданімам рэдактарам ніякая ўлада ніколі не дазваляла. Гэтага ствральнікі, пэўна, не ведалі. Дарэчы, псеўданімам «З. Грымотны» ніхто з беларускіх дзеячаў не карыстаўся. У слоўніку беларускіх псеўданімаў, які ў 1983-м выпусціў Янка Саламевіч, такога няма.



ГРАМАДСКІ ВЭБ-АРХІЎ «ВЫТОКІ»

**Мастацкі асяродак «На Паддашку»** так называлі па назве майстэрні, дзе збіраліся мастакі-адраджэнцы. На фота — святкаванне 90-х угодкаў Максіма Багдановіча. Стаяць (злева направа): Уладзімір Крукоўскі, Мікола Селяшчук, Віктар Маркавец, Мікола Купава, Уладзімір Басалыга, Леанід Шчамялёў, Яўген Кулік, Аляксей Марачкін, Міхась Ткачоў, Уладзімір Караткевіч, Міхась Чарняўскі, Міхась Рагалевіч. Сядзяць: Валянціна Маркавец-Бартлава, Таццяна Гаранская, Антаніна Лапіцкая, Ірына Марачкіна, Андрэй Басалыга, Валянціна Басалыга, Валянціна Караткевіч, Святлана Чарняўская. Мінск, 1981 год.

Па-трэцяе, папера: яна яўна адрозніваецца ад той, на якой друкавалася «Наша ніва» і іншыя газеты пачатку стагоддзя.

Па-чацвёртае, сам змест: ствальнікі проста набралі матэрыялы «Нашай нівы» з розных нумароў.

Але хто ж прыдумаў такі «Гоман»?

### «Гэта не фальшыўка, а інтэлектуальны розыгрыш!»

«Асобнік “Гомана” мне падарыў нябожчык-мастак Віктар Маркавец, — кажа мастацтвазнавец **Сяргей Харэўскі**. — Маркавец расказваў пра гэта як пра жарт. Ідэя, казаў ён, узнікла ў коле Яўгена Куліка — выдатнага мастака і збіральніка. Мастак Пётра Драчоў працаваў у друкарні, меў доступ да друкарскага станка, да набору. Нехта з філолагаў дапамог зрабіць рэдактуру. І вось яны надрукавалі з дзясятак асобнікаў гэтага “Гомана”. Гэта было ў іхнім стылі: вырабіць жартоўны артэфакт, зрабіць інтэлектуальны розыгрыш, каб актуалізаваць беларушчыну. Пачатак 1980-х, тады ўсё адкрывалася, расло як на дражджах: Мальдзіс, Янушкевіч, 100 гадоў з дня нараджэння Купалы, Коласа, Цёткі... Усё гэта спарадзіла такую атмасферу ў мастацтве і ў кніжніцтве...

Час прабег, асноўныя фіґуранты на нябёсах... А свой асобнік я перадаў Сержуку Вітушку, які збіраў экспанаты для Віленскага беларускага музея», — кажа Харэўскі.

На дадзены момант вядомыя два асобнікі гэтага выдання. Адзін захоўваецца ў зборы Віленскага беларускага музея. У 2018 годзе ён выстаўляўся ў мінскім музеі Янкі Купалы на выставе «Крывіцкая Мекка». Другі ж знаходзіцца ў фондзе Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Акадэміі навук з пазнакай: «Гоман №12 — экзэмпляр-фальсіфікацыя». ◆

**Паўліна Скурко**

# «Яго дабро і яго ярмо лёгкія»



**Пра сямейную рэліквію расказвае пісьменніца Святлана Курс.**

У нашай сям'і вобмаль старых рэчаў. Абедзве лініі майго роду прынамсі з XVIII стагоддзя бязвылазна жылі ў Любанскім ды Слуцкім раёнах, гэта наша адвечнае котлішча. Менавіта на гэтую зямлю прыпала цяжкая доля — дзясяткі вёсак былі спаленыя, мноства людзей загінула, не ацалелі і хаты, пастаўленыя маімі дзядамі да вайны.

Ацалеў толькі ён — абраз.

## Вочы ў яго былі і галубіныя, і мядовыя

Толькі навучыўшыся хадзіць, я скміціла, як можна залазіць на высозны жалезны ложак з шышкамі на білах. Ложкі ў нашай старэнькай хаце былі творам мастацтва і сцяліліся штодня без усялякіх паблажак. Спачатку трэба было ўзбіць самаробную пярыну з гусінага пуху, каб яна стала пухкай, як свежы сумёт. На пярыну клалася прасціна, на прасціну — коўдра ў накоўдраніку, на коўдру — посцілка ў сем нітоў, стракатая, аж пярэсціла ўваччу. Потым узбіваліся гусіныя ж падушкі (ні ў якім разе не з сечанага пер'я — гэта ганьба для нявесцяга пасагу, дзесяцігоддзямі свякруха будзе дакараць, што за дзяўчынай далі сечаныя падушкі і пярыны!). Падушкі ставіліся на папа або трохкутнікам, на іх клаліся вышываныя пакрышкі, аздобленыя саматужнымі карункамі. Дол ложка ўпрыгожваўся крухмальным падузорнікам. Ясна, што такое хараство не магло не прыцягнуць увагу двухгадовай дзяўчынкі. Я цягнула ўслончык, узлазіла на яго, караскалася на ложак, качалася і скакала па пухкай пярыне, бэрсаючы хараство. Матка і баба ўздымалі енк. Не дапамагала. Урэшце мяне бралі на рукі і падносілі да карцінкі на покуці над ложкам. «Глядзі, унучачка, Бог бачыць, як ты па ложку скачаш, пакарае!»

Тады я стала лазіць на ложак ужо дзеля Бога. Менавіта ён быў маім першым каханнем. Бог. Ісус. Прыгожы дзядзя. Я часта размаўляла сама з сабой, абмяркоўваючы бачаных людзей. Да прыкладу, малога Храмцэвіча я ахрысціла «Не праколатыя дзіркі, а прарэзаныя дзіркі». Ва ўсіх людзей ноздры былі круглыя, а ў Храмцэвіча — вузкія, нібыта прарэзаныя нажом. «Як ён дыхае праз іх?» У старога суседа, Костуся Жура, даставалася ніжняя сківаца, і ён любіў мяне ёй палохаць. Мама і баба былі ніякія — гэта ж мама і баба. Бацька быў у войску, я бачыла толькі партрэт на сцяне, а гэта не лічыцца.

А вось Ён быў бездакорны. «Вочы ў яго як голуб і мёд», — расказвала я сама сабе. Колераў назваць не ўмела — толькі «красны» і белы. «Вочы ў яго галубіныя і мядовыя, добрыя, валасы і барада кручацца, а нос самы прыгожы на свеце», — расказвала я. Я не ўмела яшчэ назваць яго высокіх броваў, затуманенага твару, як не ўмела і прачытаць, што напісана ў кніжцы, якую ён паказваў мне, трымаючы ў сваіх пекных руках. Няшмат я зразумела, нават калі навучылася чытаць. Там стаяла нейкімі крукаватымі літарамі, непанятна:

*«Приидите ко Мне вси труждающиися и обремененнии, и Аз упокою вы возмите иго Мое на свех и на».*

Я не пыталася ні ў кога, што гэта азначае, бо баялася, што дарослыя здагадаюцца пра маё таемнае каханне, а нашто?

## Адкуль абраз?

Падросшы, я спытала бабу, адкуль Ён у нас. «Гэта ікона!» — сказала баба і распавяла мне Гісторыю. Адразу скажу, што я не да канца ёй веру, бо потым аказалася, што такія гісторыі пра ўратаваныя абразы расказваюць многія беларускія




жанчыны. Але — за што купіла, за тое і прадам.

«Былі калісь дзве вёскі, адна плахая, другая харошая. Плахая — гэта Загалле, да якога 9 км балотамі, харошая — нашы Баянічы. У нас жывуць харошыя людзі, не раўня «паганым загальцáм». Загальцы разбілі і паламалі сваю цэркаў, сцягнулі вяроўкамі красты і званы, от зачым яны паганыя, і ў іх ніколі няма дажджу на ўраджай, затое на сенакос ільε. І на Баянічы не ільε, і на Трайчаны не ільε, і на Жывунь з Падлугом не ільε, і на Цахвін не ільε, а гэтым то сена пагноіць, то поле пасушыць».

Некалі, дачуўшыся, што загальцы спаганілі сваю царкву, баба пайшла паглядзець. Драўляная царква стаяла пасярод цяністых, дравесных могілкаў, і пад нечай зараслай магілкаю, у сырой траве баба знайшла абраз. Прынесла ў хату ды схавала. У тыя часы, пры «Сталіне-грузіне, што абуў нас у рызіну», абразы на покуці маглі звезці куды Макар коз не ганяў.

Калі ж пачалася вайна і немцы, змагаючыся з партызанамі, пачалі паліць хаты і ганяць мясцовых жыхароў па балотах, баба бегла ў лес, схаваўшы абраз за пазуху. Толькі абраз і вузельчык з хлебам. З цяжкай ношкай па балотах не палазіш. У 1943-м знявечаная загальская царква згарэла дашчэнту. Баба кажа, што ўпалілі яе «паганыя загальскія парцізаны, каб ім немач». Не ведаю, ці так гэта, баба не любіла загальцоў і магла быць неаб'ектыўнай.

## У сырой траве баба знайшла ікону

### Загальская Свята-Георгіеўская царква

Праверыць бабіныя словы я ўзнамерылася толькі ў 2009-м, калі яна памерла. У тое лета былі страшныя буры, на баяніцкіх спрадвечных могілках, якія стаяць яшчэ ад шведскай вайны, паваляла дрэвы. Баба памерла ў кастрычніку, і ў маёй прымхлівай свядомасці гэтае пекнае, страшнае, бурлівае лета заўжды будзе згадвацца знакам на яе смерць.

Загалле згадваецца ў дакументах з 1796 года, калі сяло ўвайшло ў Ляскавіцкую воласць Мазырскага павета. У 1779 годзе была пабудаваная драўляная царква пад імем святога Георгія.

У 1933-м апошні святар Свята-Георгіеўскай царквы Андрэй Ладышэўскі быў арыштаваны за «контррэвалюцыйную дзейнасць» і асуджаны да 8 гадоў лагераў. Там ён і згінуў.

У 1935–1937 царкву зачынілі і разрабавалі, а ў вайну разбурылі. Гэта правераныя гістарычныя звесткі, тут баба не схлусіла.

### У дадатак да абраза дадалася цагліна — мой асабісты храм

Улетку 2017 года я ў адукацыйна-прыгодніцкіх мэтах павяла малых пляменнікаў на старыя закінутыя могілкі, дзе стаяла некалі Свята-Георгіеўская царква. Месца я ведала дакладна, бо ў 1975-м, калі мы пераехалі ў Загалле і самі сталі «паганымі загальцамі», я застала тры счарнелыя крыжы ў тры чалавечыя росты. Загальцы казалі, што яны стаялі на месцы магіл святароў, іх не кранулі ні вайна, ні бальшавікі. Потым, ужо пры мне, упалі і спарахнелі і вялізныя крыжы, і старэзныя бярозы ля іх. Але летам сямнаццатага года нас чакаў сюрпрыз: на месцы царквы і прычтавага дома зямля праваліласа — і мы пабачылі кут цаглянага падмурка. На кожнай цаглінцы быў выбіты надпіс «РОЗЕНБЕРГЪ. Бобруйскъ 1».

Гэта былі славутыя фігурныя цагліны бабруйскай цагельні Гірша Розенберга. У 1875 годзе купец 2-й гільдыі Гірш Ёселевіч Розенберг заснаваў на Бярэзінскім фарштаце ў Бабруйску невялікую цагельню. У 1880–1890 гадах, акурат як была рамантаваная і разбудаваная загальская царква, цагельня Розенберга выпускала да 500 тысяч цаглін на год. Кожная цаглінка была клеймаваная імем гаспадара.

Так у дадатак да абраза дадалася цагліна — і гэта мой асабісты храм. Абраз вісіць у малым пакоіку, куды я прыязджаю на лета, а цагліну мама загадала занесці назад: з могілак браць і страшна, і грэшна.

Я не разбіраюся ў іканапісе і не магу сказаць, ці праўду казала мая баба пра гэты абраз. Аднак мне падабаецца гэтая гісторыя. А надпіс я даўно расшыфравала. Цалкам гэта гучыць так:

«Прыйдзіце да Мяне, усе спрацаваныя і абцяжараныя, і Я супакою вас. Вазьміце ярмо Маё на сябе і навучыцеся ад Мяне, бо Я ціхі і пакорны сэрцам, і знойдзеце спакой для душаў вашых. Бо маё дабро і маё ярмо лёгкае». ◆

*Пролетарии всех стран, соединяйтесь!*



КРАСНАЯ ЗВЕЗДА

ЦЕНТРАЛЬНЫЙ ОРГАН НАРОДНОГО КОМИССАРИАТА ОБОРОНЫ СОЮЗА

№ 280 (5035) 28 ноября 1941 г., пятница

Завещание 28 павших героев

ОТ СОВЕ…

Утреннее…

Гвардейцы Панфилова в боях за Москву

ЗАПАДНЫЙ ФРОНТ, 26 ноября. (По телеграфу от наш. корр.). Десять дней, не стихая, идут жестокие бои на Западном фронте.

Особенно мужественно и умело сражаются с врагом наши гвардейцы. На могиле своего погибшего командира генерал-майора Панфилова бойцы гвардейской дивизии поклялись, что будут еще крепче бить врага. Они верны своему слову. За … дней боев они просле…

СЛАВА БЕССТРАШНЫМ ПАТРИОТАМ!

Подвиг, которым навеки прославили себя гвардейцы

*От специального корреспондента «Комсомольской правды»*

О 28 павших героях

УКАЗ ПРЕЗИДИУМА ВЕРХОВНОГО СОВЕТА СССР

О присвоении звания Героя Советского Союза начальствующему и рядовому составу Красной Армии

За образцовое выполнение боевых заданий Командования на фронте борьбы с немецкими захватчиками и проявленные при этом отвагу и геройство присвоить звание Героя Советского Союза с вручением ордена Ленина и медали «Золотая Звезда»:

1. Красноармейцу Ананьеву Николаю Яковлевичу.
2. Красноармейцу Безродному Григорию.
3. Красноармейцу Болотову Николаю Никаноровичу.
4. Красноармейцу Бондаренко Якову Александровичу.
5. Красноармейцу Васильеву Иллариону Романовичу.
6. Сержанту Добробабину Ивану Евстафьевичу.
7. Красноармейцу Дутову Петру Даниловичу.
8. Красноармейцу Емцову Петру Кузьмичу.
9. Красноармейцу Есибулатову Нарсутбаю.
10. Красноармейцу Келейникову Дмитрию Митрофановичу.
11. Красноармейцу Касаеву Аликбаю.
12. Политруку Клочкову Василию Георгиевичу.
13. Красноармейцу Кожебергенову Аскару.
14. Красноармейцу Конкину Григорию Ефимовичу.
15. Красноармейцу Крючкову Абраму Ивановичу.

# Подзвіг панфілаўцаў: як нарадзілася легенда

**Як выявіла ваенная пракуратура, 5 з 28 панфілаўцаў, узнагароджаных пасмяротна, аказаліся жывымі. Прытым адзін з іх здаўся ў палон і стаў начальнікам паліцыі на Харкаўшчыне, піша гісторык Васіль Герасімчык.**

У кастрычніку — снежні 1941 года пад Масквой Чырвоная Армія вяла цяжкія баі з сіламі вермахта. У баях удзельнічала 316-я стралковая дывізія генерал-маёра Івана Панфілава.

Калі 16 лістапада ў раёне раз'езда Дубасекава на Валакаламскай шашы нямецкія танкі прарвалі абарончыя пазіцыі, дывізія панесла вялікія страты. Найбольш пацярпела 4-я рота 2-га батальёна 1075-га палка пад кіраўніцтвам Паўла Гундзіловіча: са 140 чалавек у роце засталося каля 30.

Урэшце камандзір палка Ілля Капраў загадаў адступіць на падрыхтаваныя пазіцыі, чым ураваў рэшткі войскаў. Каб не дапусціць бязладнага адыходу салдат, былі выстаўлены загараджальны атрад. На новых пазіцыях полк Каправа быў умацаваны шасцю танкамі і выдатна сябе паказаў у далейшых баях.

Прасоўванне праціўніка было спынена, але коштам вялізных стратаў: полк Каправа, які налічваў каля 1550 чалавек, скараціўся да 120. А Каправа разам з палітруком Ахмеджанам Мухамедзьяравым знялі з пасадаў — за адступленне ім пагражаў трыбунал. Але галовы камандзіраў нечакана выратаваў «подзвіг 28 панфілаўцаў», пра які напісала газета «Красная звезда».

### «Знішчыўшы 800 салдат і афіцэраў і 18 танкаў праціўніка»

23–24 лістапада 1941 года ваенныя карэспандэнты Вячаслаў Чарнышоў з «Камсамольскай праўды» і Васіль Карацееў з «Красной звезды», будучы на фронце, выпадкова сустрэлі камісара 316-й дывізіі Сяргея Ягорава.

Ягораў расказаў пра цяжкія баі сваёй дывізіі і ўспомніў роту, што пацярпела найбольш (праўда, назваў яе не 4-й, а 5-й, так яно потым і пайшло ў друк). Сам Ягораў сведкам бою не быў і ведаў пра яго са слоў іншага палітрука, які таксама ў баі не ўдзельнічаў. Ён не ведаў ні прозвішчаў, ні колькасці загінулых, згадаў толькі пра спробу дваіх чырвонаармейцаў здацца, за што іх тут жа забілі свае.

Праверыць інфармацыю журналісты не змаглі, але звестак, атрыманых ад Ягорава, ім хапіла, каб падрыхтаваць адпаведныя матэрыялы. Была і нагода: прысваенне дывізіі імя Панфілава, які 18 лістапада быў забіты аскепкам нямецкага мінамётнага снарада.

26 лістапада ў «Камсамольскай праўдзе» з'явіўся артыкул «Слава бясстрашным патрыётам!». Журналіст Чарнышоў расказваў, як дзве групы чырвонаармейцаў, адной з якіх камандаваў палітрук Дзіеў (пазней высветлілася, што гэта мянушка, а сапраўднае прозвішча — Клачкоў), «увесь дзень, усю ноч і ўвесь наступны дзень» стрымлівалі «да 60 танкаў і некалькі батальёнаў пяхоты» (нямецкі пяхотны батальён — 800 чалавек). Урэшце вораг сканцэнтраваў 54 танкі супраць групы Дзіева, які прамовіў: «Ні кроку назад. Стаяць насмерць!» У баі, у якім уся група Дзіева загінула, было нібыта знішчана 18 танкаў. (Насамрэч, 17 танкаў знішчыў увесь 1075-ы полк за амаль тыдзень баёў.)

27 лістапада і ў «Красной звезде» выйшаў невялікі матэрыял Васіля Карацеева «Гвардзейцы Панфілава ў баях за Маскву». Карацееў прыпісаў палітруку Дзіеву словы «Нам загадана не адступаць». Увогуле ж, «яны загінулі ўсе да аднаго, але ворага не прапусцілі», знішчыўшы 800 салдат і афіцэраў і 18 танкаў праціўніка, напісаў журналіст.

### Трыццаць мінус два

Калі Карацееў здаў свой матэрыял, галоўны рэдактар «Красной звезды» Давід Ортэнберг, які задумаў зрабіць на яго аснове перадавы артыкул, пацікавіўся, колькі чалавек змагаліся супраць 54 нямецкіх танкаў. «Я адказаў, што прыкладна 30. Такім чынам і з'явілася колькасць 28 чалавек, паколькі з трыццаці двое аказаліся здраднікамі», — успамінаў Карацееў.



Узнагароджванне Залатой Зоркай **Іларыёна Васільева.**

Перадавы артыкул «Красной звезды» пра «несмяротны подзвіг» выйшаў 28 лістапада 1941 года, а падпісаны быў літаратурным сакратаром газеты Аляксандрам Крывіцкім. Называўся артыкул «Завяшчанне 28 паўшых герояў».

Крывіцкі апісаў бой 28 чалавек на чале з палітруком Дзіевым, параўнаўшы іх з расійскай гвардыяй часоў Сямігадовай вайны (1756–1763). Сцэна змагання з 50 нямецкімі танкамі пад словы «Ні кроку назад!» была дапоўнена не менш легендарным дэвізам часоў вайны з Напалеонам: «Гвардыя памірае, але не здаецца».

Крывіцкі пры гэтым адзначаў: «Мы не ведаем перадсмяротных думак герояў, але сваёй адвагай, сваёй бясстрашнасцю яны пакінулі завяшчанне нам, жывым».

### Спадабаўся самому Сталіну

Гэтая гісторыя так і засталася б адной з многіх, каб не хваля, якую яна неспадзявана ўзняла. Сотні лістоў у рэдакцыю «Красной звезды», але галоўнае — з Крамля патэлефанаваў старшыня Вярхоўнага Савета Міхаіл Калінін і папрасіў даведацца прозвішчы 28 гвардзейцаў: «Нельга, каб героі засталіся безыменнымі». Ортэнбергу паведамілі, што артыкул Крывіцкага спадабаўся самому Сталіну.

Таму ў студзені 1942 года, калі пераезд Дубасекава быў вызвалены, Крывіцкі па даручэнні Ортэнберга сустрэўся з камандзірам палка Каправым, камісарам Мухамедзьяравым і камандзірам роты Гундзіловічам. Крывіцкі «заявіў, што патрэбна, каб было 28 гвардзейцаў-панфілаўцаў, якія вялі бой з нямецкімі танкамі». Тады Гундзіловіч назваў іх «па памяці». Чым ён кіраваўся пры выбары прозвішчаў — невядома. У красавіку 1942 года Гундзіловіч загінуў.

22 студзеня 1942 года ў «Красной звезде» з'явіўся артыкул Крывіцкага «Пра 28 паўшых герояў». У ім была выкладзена версія подзвігу, якая стала кананічнай. Легендарнымі на доўгія гады сталі словы, укладзеныя ў вусны палітрука Клачкова: «Велика Россия, а отступать некуда. Позади Москва». Яны папулярызаваліся нягледзячы на тое, што ў 1948 годзе сам Аляксандр Крывіцкі прызнаўся, што «часткова адчуванні і дзеянні 28 герояў — гэта мая літаратурная выдумка. Я ні з кім з параненых ці тых, хто выжыў, не размаўляў».

### Мёртвыя аказаліся жывымі

Ніхто асабліва не разбіраўся ў дэталях. Па гарачых слядах герояў вырашылі пасмяротна ўшанаваць, а іх подзвіг папулярызаваць як прыклад для іншых. У красавіку 1942 года Ілля Капраў атрымаў са штаба 8-й дывізіі гатовыя ўзнагародныя лісты і агульны спіс 28 гвардзейцаў на прысваенне звання Герояў Савецкага Саюза. У маі дакументы былі падпісаныя вайсковым камандаваннем. Аднак тады ж нечакана выявілася, што адзін з 28 панфілаўцаў — жывы. Гэта быў казах Данііл Кужэбергенаў, якому Крывіцкі прыпісаў адзін з наймацнейшых момантаў у гераічным баі.

Нягледзячы на гэта, узнагародным лістам усё ж далі ход, толькі замест Данііла ў іх з'явіўся іншы Кужэбергенаў — Аскар, які быў залічаны ў полк толькі ў студзені 1942 года, праз некалькі месяцаў пасля бою пад Дубасекавым. Паколькі да таго часу ён паспеў загінуць, то абвяржэння з ягонага боку чакаць не даводзілася. 21 ліпеня 1942 года з'явіўся загад пра пасмяротнае прысваенне 28 панфілаўцам звання Герояў Савецкага Саюза. ▸



Вайсковая пракуратура выявіла, што «подзвіг 28 панфілаўцаў з'яўляецца выдумкай карэспандэнта Карацеева, рэдактара "Красной звезды" Ортэнберга, а асабліва літаратурнага сакратара газеты Крывіцкага». **На фота: пісьменнік Канстанцін Сіманаў, Давід Ортэнберг і Васіль Карацееў.**

Але прыкрыя для савецкіх ідэолагаў нечаканасці на гэтым не скончыліся. Ужо пасля публікацыі загаду высветлілася, што Кужэбергенаў быў не адзіным, хто выжыў. Жывымі аказаліся таксама Іларыён Васільеў (памёр у 1969-м) і Рыгор Шамякін (памёр у 1973-м), якія звярнуліся па свае ўзнагароды. Не загінулі з ліку панфілаўцаў таксама Іван Шадрын (памёр у 1985-м) і Дзмітрый Цімафееў (памёр у 1950-м), якія трапілі ў нямецкі палон і выйшлі з яго пры канцы вайны.

### Асаблівы выпадак Дабрабабіна

У нямецкі палон трапілі не толькі гэтыя двое панфілаўцаў. У лістападзе 1947 года ў Харкаве быў арыштаваны Іван Дабрабабін, які таксама фігураваў у панфілаўскім спісе.

Пракуратура высветліла, што пасля бітвы пад Масквой ён апынуўся за лініяй фронту. Дабраўся да роднага сяла Перакоп Харкаўскай вобласці, дзе пайшоў у паліцыю і даслужыўся аж да яе начальніка. Пры адступленні немцаў у жніўні 1943 года ён збег у Адэскую вобласць, пры вызваленні быў прызваны ў Чырвоную Армію. А пасля дэмабілізацыі восенню 1945 года пасяліўся ў Кіргізіі.

У чэрвені 1949 года Дабрабабін быў асуджаны вайсковым трыбуналам да 15 гадоў лагераў і пазбаўлены ўсіх узнагарод. У 1955-м тэрмін зняволення Дабрабабіну быў зменшаны да сямі гадоў, пасля чаго яго ўвогуле вызвалілі. У познесавецкія часы Дабрабабін рабіў спробы рэабілітавацца, але беспаспяхова.

Пракуратура палічыла, што ён пакінуў баявыя пазіцыі панфілаўцаў яшчэ падчас ранішніх налётаў нямецкай авіяцыі, некалькі сутак вандраваў па навакольных вёсках, пакуль не здаўся ў палон. У асноўных падзеях бою 16 лістапада Дабрабабін увогуле не ўдзельнічаў.

### Пракуратура разабралася яшчэ ў 1948-м

Тое, што подзвіг 28 герояў-панфілаўцаў — прыдумка, фэйк, кажучы сучаснай мовай, — сёння факт даведзены. Яшчэ ў 1942 годзе,

### Камандзірам роты панфілаўцаў быў беларус — сапраўдны герой

Камандзірам роты, у якой служылі «28 панфілаўцаў», быў беларус Павел Гундзіловіч (1902–1942) з вёскі Літвяны (сёння — Уздзенскі раён Мінскай вобласці).
З 1927 па 1938 год ён служыў на Далёкім Усходзе. Пасля яго арыштавалі за «прычыненне шкоды дзяржаўнай маёмасці», яму пагражаў расстрэл. Аднак у 1940 годзе яго справу спынілі. Пасля вызвалення Павел Гундзіловіч перабраўся ў Казахстан, дзе кіраваў адным з саўгасаў.
У жніўні 1941 года ён быў накіраваны ў 316-ю стралковую дывізію генерала Івана Панфілава, дзе ўзначаліў 4-ю роту. У баях 14–16 кастрычніка ў раёне вёскі Фядосьіна пад Масквой рота Гундзіловіча спыніла прасоўванне праціўніка. За гэтыя баі 17 студзеня 1942 года Гундзіловіч быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі. У лютым 1942 года капітан Гундзіловіч, які ўзначаліў 2-гі батальён 23-га гвардзейскага стралковага палка, вызначыўся ў чарговы раз — у баі за сяло Барадзіно, дзе былі адбітыя наступленні дзвюх танкавых груп праціўніка. Гундзіловіч быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга, але яго ўжо не атрымаў.
10 красавіка 1942 года ў зямлянку, дзе разам з камандзірам батальёна сабраліся яшчэ 10 чалавек, трапіў артылерыйскі снарад.
Парэшткі Гундзіловіча былі перапахаваныя ў брацкай магіле ў пасёлку Першамайскі Холмскага раёна Наўгародскай вобласці Расіі. Пасмяротна ён быў прадстаўлены да звання Героя Савецкага Саюза, але яно яму так і не было прысвоена.
Імя Паўла Гундзіловіча амаль невядомае на радзіме. У 2018 годзе невялікім тыражом выйшла кніга Яўгена Уласевіча «Гвардыі камбат. Гундзіловіч Павел Міхайлавіч (1902–1942)».



калі ў легендзе сталі праяўляцца першыя несупадзенні, адмыслова прызначанаму камісару Мініну было даручана заняцца зборам звестак пра бой каля раз'езда Дубасекава. Па выніках расследавання ён паведаміў: «Пра подзвіг 28-мі ні ў ходзе баёў, ні непасрэдна пасля бою ніхто не ведаў, і сярод масаў яны не папулярызаваліся».

## «Подзвігу 28-мі» не было, але факт цяжкіх баёў 316-й стралковай дывізіі супраць нацысцкіх танкаў у лістападзе 1941 — несумненны

10 мая 1948 года па выніках праверкі, праведзенай пасля арышту Дабрабабіна, галоўны вайсковы пракурор СССР генерал-лейтэнант Мікалай Афанасьеў падпісаў даведку з наступнай высновай: «Матэрыяламі расследавання выяўлена, што подзвіг 28 гвардзейцаў-панфілаўцаў, асветлены ў друку, з'яўляецца выдумкай карэспандэнта Карацеева, рэдактара "Красной звезды" Ортэнберга, а асабліва літаратурнага сакратара газеты Крывіцкага».

Тое самае амаль даслоўна ўжо пры канцы існавання СССР, у 1989 годзе, пасля дадатковай праверкі паўтарыў у сваім дакладзе тагачасны галоўны вайсковы пракурор Аляксандр Катусеў.

### «Гэта наша духоўная матрыца»

Нягледзячы на тое, што ўсе абставіны справы ўжо цалкам высветлены, міф дагэтуль існуе. У ідэалогіі сучаснай Расіі, ва ўмовах новай халоднай вайны, перамога ў Вялікай Айчыннай вайне — адзін з нарожных камянёў, на якіх узводзіцца гонар за краіну і нацыю.

### Вытрымкі з артыкула Аляксандра Крывіцкага, на якім доўгія гады грунтавалася кананічная версія міфа пра 28 герояў-панфілаўцаў

...Атака автоматчиков отбита. Более семидесяти вражеских трупов валяются недалеко от окопа. Лица уставших бойцов задымлены порохом, люди счастливы, что достойно померились силами с врагом, но не знают они еще своей судьбы, не ведают, что главное — впереди.

Танки! Двадцать бронированных чудовищ движутся к рубежу, обороняемому двадцатью восемью гвардейцами. Бойцы переглянулись. Предстоял слишком неравный бой...

К окопу добрался политрук роты Клочков...

В тот день Клочков первый заметил направление движения танковой колонны и поспешил в окоп.

— Ну, что, друзья, — сказал политрук бойцам. — Двадцать танков. Меньше чем по одному на брата. Это не так много!

Люди улыбнулись...

Был еще и двадцать девятый. Он оказался трусом и предателем. Он один потянул руки вверх, когда из прорвавшегося к самому окопу танка фашистский ефрейтор закричал: «Сдавайсь!» Он стоял жалкий, дрожащий, отвратительный в своей рабьей трусости. Перед кем падаешь на колени, тварь? Немедленно прогремел залп. Несколько гвардейцев одновременно, не сговариваясь, без команды выстрелили в изменника. Это сама родина покарала отступника.

Бой длился более четырех часов... Уже четырнадцать танков недвижно застыли на поле боя. Но уже убит сержант Добробабин, убит боец Шемякин, истекает кровью Петренко, лежа на соломе, покрывающей дно окопа, мертвы Конкин, Шадрин, Тимофеев и Трофимов. В этот миг в сумеречной дымке показался второй эшелон танков. Среди них — несколько тяжелых. Тридцать новых машин насчитал Клочков...

Воспаленными от напряжения глазами Клочков посмотрел на товарищей.

— Тридцать танков, друзья, — сказал он бойцам — придется всем нам умереть, наверно. Велика Россия, а отступать некуда. Позади Москва...

Тридцать минут идет бой, и нет уже боеприпасов у смельчаков. Один за другим они выходят из строя... Прямо под дуло вражеского пулемета идет, скрестив на груди руки Кужебергенов и падает замертво. Подбито и горит около десятка танков...

Убит Клочков. Нет, он еще дышит. Рядом с ним, окровавленным и умирающим, голова к голове, лежит раненый Натаров. Мимо них с лязгом и грохотом движутся танки врага, а Клочков шепчет своему товарищу: «Помираем, брат… Когда-нибудь вспомнят нас… Если жив будешь, скажи нашим...».

Он не кончил фразы и застыл. Так умер Клочков, чья жизнь была отдана мужественному деянию на поле брани.

Все это рассказал Натаров, лежавший уже на смертном одре...

Пра гэта адкрытым тэкстам гаварыў міністр культуры Расіі Уладзімір Мядзінскі: «Расія — краіна герояў. Наш гістарычны лёс вызначыў асаблівы рускі тып стойкасці. Найвышэйшая яе праява — ахвярнасць. І 28 панфілаўцаў, і Зоя Касмадзям'янская, і Матросаў, і маладагвардзейцы, і далей — усё гэта святыя пакутнікі па-за рэлігійным кантэкстам. Гэта наша духоўная матрыца. На прыкладах і імёнах гэтых грамадзянскіх святых трымаецца нацыянальная ідэнтычнасць, па вялікім рахунку — грамадзянскае і гістарычнае адзінства краіны».

Таму і міфы, з той вайной звязаныя, не толькі не знікаюць, але набываюць новае дыханне. Пра што сведчыць, у прыватнасці, папулярнасць расійскага фільма «Дваццаць восем панфілаўцаў» (2016). Фільм атрымаў цёплыя водгукі гледачоў. І, што паказальна, грошы на здымкі збіралі краўдфандынгам (гэта значыць, кожны ахвочы мог ахвяраваць).

28 панфілаўцаў — прыклад таго, як літаратурная выдумка можа паспяхова падмяняць сабой сапраўдныя подзвігі. Наўрад ці гэта справядліва. ◆



# Беларускі пітны мёд: *старадаўні і слаўны*

**«А, знаю-знаю! Медавуха» — колькі разоў сутыкаўся з гэтай рэакцыяй абывацеля, калі пачынаў частаваць пітным мёдам! Кіньце ж вы, людцы, так абражаць гэты годны напой! Ён атрымліваецца з мёду шляхам браджэння, і прыгатаваць яго складаней, чым добрае віно. Дык чым розніцца мёд ад медавухі? Расказвае доктар гісторыі Алесь Белы.**

### Драўляныя бочкі з мёдам закопвалі ў зямлю на 20 гадоў

Славуты антраполаг Клод Леві-Строс лічыў, што выраб ферментаванага мёду быў адным з самых важных маркёраў пераходу чалавека ад «прыроднага стану» да культуры. Антрапалогія датуе вынаходніцтва гэтага напою сама меней 7–6 тысячагоддзямі да н. э., або 8–9 тысячамі гадоў таму. Старажытныя людзі здабывалі мёд дзікіх пчолаў, які падчас дажджоў мог намакаць і пачынаў брадзіць. Пакаштаваўшы такі напой і зразумеўшы ягонае нязвыклае ап'яняльнае дзеянне, нашы продкі пачалі выраблягь яго ўжо мэтаскіравана.

Старажытныя індаеўрапейцы лічылі, што ў замагільным свеце існуюць мядовыя рэкі, і звязвалі мядовы напой з ідэяй неўміручасці. Наступны па ўзросце напой, піва, мабыць, маладзейшы за мёд на 2–3 тысячы гадоў, бо падрыхтоўка любога прыдатнага для ферментацыі збожжавага прадукту (напрыклад, ячменнага соладу) — гэта ўжо досыць складаны працэс, які не мог быць вынайдзены выпадкова. Тэхналогія вырабу мёду, відаць, была аналагічнай ва ўсіх індаеўрапейцаў. Адным са слядоў гэтай еднасці сёння бачацца назвы пітнога мёду ў германскіх мовах: *mead* па-англійску і *met* па-нямецку, зусім падобна на славянскія словы, хаця назвы самога пчалінага мёду ў германскіх мовах зусім іншыя: *honey* і *honig*.

**Толькі не кажыце «медавуха»!**

Традыцыйныя мяды старажытных славянаў былі «стаўленымі» — ферментаванымі натуральным шляхам (без тэрмаапрацоўкі) у драўляных бочках, закапаных у зямлю на 10–20 і болей гадоў. На той час, калі не было ані віна, ані гарэлкі, мёд быў для нашых продкаў самым урачыстым, сакральным напоем. Толькі на пачатку II тысячагоддзя нашай эры, ужо з прыходам хрысціянства, мяды пачалі варыць, што значна паскорыла вытворчасць і бактэрыяльную трываласць мёду. Паступовы заняпад медаварства пачаўся ад канца XV стагоддзя, са з'яўленнем гарэлкі. Да сярэдзіны XIX стагоддзя многія нашы даіндустрыяльныя бровары былі адначасова і медаварнямі.

## Мёд уражваў першабытнага чалавека

Першыя сведчанні пра спажыванне мёду людзьмі сустракаюцца яшчэ ў наскальных малюнках. Найсмачнейшы прадукт, які прырода дае ў гатовым выглядзе, выклікаў амаль рэлігійныя пачуцці. Невыпадкова мёд згадваецца ва ўсіх эпасах і святых кнігах чалавецтва. Яго прыносілі ў ахвяру багам, а ў легендах пра рай абавязкова цячэ мядовая рака.

У Беларусі спосаб здабыцця мёду мала змяняўся стагоддзямі. Спачатку чалавек шукаў у пушчы дуплы з дзікімі пчоламі і проста выдзіраў з іх мядовыя соты. З часам людзі пачалі «курыраваць» знойдзеных пчол, баронячы іх і салодкі прадукт ад канкурэнтаў: мядзведзяў і аднапляменнікаў. З часам, каб павялічыць прадукцыйнасць (бо мёд спатрэбіўся не толькі для ўласных патрэб, а і на падаткі феадалу ды дзяржаве), пачалі высякаць у тоўстых дрэвах штучныя пчаліныя дуплы. У нашых продкаў «мёдаздабыча» была пастаўленая на шырокую нагу: у пушчах ВКЛ было каля мільёна борцяў.

Бортніцтва рэгламентавалася Статутам ВКЛ, пчолаў, што «бароняць вуллі свае», згадваў у прадмове да сваёй Бібліі Францыск Скарына.

Калі пушчы высеклі і не так проста стала ў любым зручным месцы знайсці тоўстае дрэва пад борць, людзі пачалі вырабляць калоды — штучныя мабільныя борці. Імі карысталіся да вынаходніцтва рамкавага вулля ў XIX стагоддзі.

Самае істотнае адрозненне борці ад вулля — зменныя рамкі, якія ёсць у апошнім. З іх дапамогай можна стымуляваць пчаліную сям'ю назбіраць максімум мёду за сезон — каб і сабе хапіла на зіму, і пчаляру засталося.

Яшчэ ў пачатку XX стагоддзя пчолы былі арганічнай часткай беларускай сялянскай гаспадаркі — згадайце раздзел «Падгляд пчол» у «Новай зямлі» Якуба Коласа, адзін з самых радасных і светлых. Попыт нараджаў цікавасць: адсюль і публікацыі пра пчалярства ў «Нашай Ніве» пачатку XX стагоддзя, і нават асобны часопіс «Беларуская борць», які ў 1930-я выдаваўся ў Вільні.



**Саламяныя вуллі** існуюць са старажытнасці і служаць па паўстагоддзя. Вытворцы пітнога мёду выкарыстоўваюць на этыкетках выявы такіх вулляў, каб паказаць натуральнасць і традыцыйнасць свайго прадукту.

Пасля прыходу новай піваварнай індустрыі медаварні апынуліся на ўзбочыне гісторыі, і да пачатку XX стагоддзя большасць з іх занялала. Савецкі чалавек ужо не разумеў сэнсу старажытнай прыказкі «І я там быў, мёд-піва піў». Калі казаць пра Беларусь, дык на захадзе краіны, якая час паміж Першай і Другой сусветнымі войнамі правяла ў складзе Польшчы, агонія мёду працягнулася на два дзесяцігоддзі даўжэй.

## Заняпад медаварства пачаўся са з'яўленнем гарэлкі

### На што крыўдуюць медавары

Працэс вырабу пітнога мёду са звычайнага ў гістарычных крыніцах называўся *сычэннем*, ад слова *сытá*. Так называлі мёд (звычайна ў сотах), разведзены вадой і правараны, але не паддадзены ферментацыі.

Сыта захоўвала прыкметы колішняй сакральнасці. Яе спажывалі ў час посту, з яе гатавалі на Дзяды абрадавую страву — канун, на Божае нараджэнне (Каляды) выкарыстоўвалі як закрасу да куцці, кашы, кісялю. Даўняе, відаць яшчэ дахрысціянскае, права дазваляла гараджанам утвараць адмысловыя мядовыя брацтвы, якія *сыцілі* мяды ў складчыну, за што мелі заплаціць пэўны падатак. Нават рамесніцкія цэхі былі адным з відаў мядовых брацтваў: да цэхавых святаў у гонар святога патрона або агульнаканфесійных рамеснікі абавязкова *сыцілі* мяды, прычым воск, які заставаўся ад правараных ▶

З'езд еўрапейскіх манархаў у Луцку ў 1430 годзе, скліканы для каранацыі Вітаўта (яна так і не адбылася), цягнуўся амаль сем тыдняў. З'ехалася на яго пад 15 тысяч чалавек. За гэты час яны з'елі процьму ўсякай ежы, у тым ліку многія тысячы запечаных авечак, казуляў, 700 тураў і тысячу аленяў. І выпілі 700 бочак хмельнага мёду.



**Шляхціц канца XVIII стагоддзя з чаркай мёду.** Рысунак польскага мастака Аляксандра Арлоўскага (1777–1832).

Шуміць-гудзе, па дубраве ідзе
Святы вечар.
Пчаляная матка дзетачак вядзе,
Да й навучае, да й рассылае:
— Ляціце, дзеткі, у Іванаў востраў.
Насіце, дзеткі, мяды крутыя,
Мяды крутыя, воскі жаўтыя.
З мёду будзем сыту сыціці,
А з воску будзем свечкі сукаці,
Свечкі сукаці, у цэркаўку стаўляці.

*Даўняя калядная песня*

▶ сотаў, належала ахвяраваць царкве або касцёлу — на свечкі. Так у зменены выглядзе працягвалася старадаўняя традыцыя сакральнасці пітнога мёду, гарантамі якой некалі былі жрацы, а пазней — хрысціянскія святары.

Некалі супольныя для ўсёй культурнай прасторы Рэчы Паспалітай тэхніка і тэрміналогія медаварства найлепш захаваліся ў Польшчы. У прыватнасці, адтуль мы ведаем класіфікацыю мядоў паводле канцэнтрацыі ўласна мёду ў зыходным сусле. Чым яна вышэйшая, тым мацнейшы напой можна атрымаць і тым большага часу браджэння і даспявання ён патрабуе. Найлепшыя мяды — паўтаракі, сусла для якіх утвараецца з адной часткі мёду, разбаўленага толькі паловай часткі вады. Двайнякі — з адной часткі мёду і такой жа колькасці вады.

Гэтыя два гатункі пітнога мёду некалі называлі «каралеўскімі». Двайняк трэба было вытрымліваць у піўніцы ад 1,5 да 4-х гадоў. Паўтарак — ад 8 да 10. Таму дазволіць сабе такія мяды маглі толькі каралі ды магнаты.

Значна больш даступнымі былі трайнякі (1 частка мёду на 2 вады) ды чварнякі (1 на 3). Апошнія патрабавалі толькі 6–8 месяцаў даспявання: звараныя ў жніўні з мёду новага сезону, ужо вясной наступнага года яны былі даступныя спажыўцу. Такія мяды піла не толькі звычайная шляхта, але і мяшчане ды нават сяляне.

Нягледзячы на вельмі салодкі мядовы смак зыходнага сусла, добра выбраджаныя, прафільтраваныя і вытрыманыя мяды нагадваюць смакам хутчэй якасныя сухія віны — і дасягнуць такой якасці не прасцей, чым зрабіць добрае віно. Менавіта таму медавары моцна крыўдуюць, калі іх прадукт сёння называюць «медавухай» —

## Мёд бралі ў паходы, найбольш цаніўся ліпавы



**Пітны мёд найсмачнейшы, калі піць яго з гліняных кубкаў.** Яшчэ лепш, калі кубкі пастаянна падаграюцца.



ФОТА ДЗЯНІСА ФАМІНА

**Мёд-дубняк настойвалі ў дубовых бочках.** Іх бралі з сабой у ваенныя паходы, таму гэты мёд называўся «абозным». **Цяпер дубняк гатуюць з дадаваннем дубовай шчапы.**

### Абозны мёд

Адзін з відаў пітнога мёду, характэрны для Вялікага Княства Літоўскага, згадвае ў паэме «Пан Тадэвуш» Адам Міцкевіч. Гэта так званы дубняк — пітны мёд, які вытрымлівалі ў дубовых бочках. Сімвалічная моц дубу быццам бы перадавалася гэтаму напою, рабіла яго ўвасабленнем надзейнасці, трываласці, даўгалецця.

У шляхецкай мемуарнай літаратуры канца XIX стагоддзя можна сустрэць параўнанне традыцыйнага патрыятычнага духу, які панаваў у некаторых шляхецкіх фаміліях, са «сталетнім дубняком». Наўрад ці пітны мёд мог выстаяць так доўга, не страціўшы моцы і смаку, але ў сімвалічнай карціне свету «100 гадоў» азначала не столькі рэальны прамежак часу, колькі проста — «вельмі доўга», сягаючы далей за аператыўную памяць аднаго пакалення, у часы ранняй маладосці мемуарыста.

На смак дубняк даволі даўкі, з выразным водарам мёду і адчувальнай нотай зёлак. Як і большасці традыцыйных напояў, дубняку ў даўніну прыпісвалі надзвычайныя лекавыя ўласцівасці, асабліва падчас ваенных паходаў. Мёд, які бралі на вайну, часцей за ўсё быў менавіта дубняком. Таму яго яшчэ называлі «абозным» мёдам.

гэтая назва ўжываецца да значна прасцейшых у вытворчасці напояў, якія атрымліваюцца не ферментацыяй, а змешваннем гатовай гарэлкі (а часцей брагі) з мёдам, вадой і іншымі дадаткамі. У XIX стагоддзі сыравінай для медавухі часта служыў нават не мёд, а патака. Таннасць гэтых мутных слабаалкагольных напояў, якія нагадвалі сучасныя беларускія «алкагольныя збітні», была адным з фактараў, якія спрыялі выцясненню з рынку сапраўднага, высакароднага пітнога мёду.

### Сакрэты прыгатавання

На заканчэнне хочацца даць слова нефармальнаму лідару беларускіх медавараў Дзянісу Фаміну для перадачы азоў тэхналогіі мёдаварэння, якая ў сваёй аснове не змяняецца ўжо больш як 8 000 гадоў:

— Сусла гатуецца змешваннем мёду з вадой, звычайна да цукрыстасці 20–30%, і кіпяціцца — лепш з хмелем. Затым сусла трэба астудзіць і насыціць кіслародам, неабходным для дзейнасці дражджэй. Гэтага можна дамагчыся, пераліваючы сусла ў бутлю тонкім струменьчыкам. Затым уносіцца дражджавая культура і ставіцца гідразатвор. Далей усё як у хатнім вінаробстве. Пасля 2–3 месяцаў браджэння і асвятлення пітны мёд здымаецца з ападку (часам гэтая працэдура праводзіцца некалькі разоў).

Цэнтр сучаснага беларускага медаварства — гістарычная Ігуменшчына. Герб Чэрвеня, гістарычнага Ігумена, падкрэслівае важнасць збору мёду і медаварства для гэтага рэгіёна.

**«Мяды ігуменскія настолькі добрыя, што іх можна параўнаць з вядомымі старажытнымі літоўскімі і польскімі.** Асаблівасць іх у тым, што гатуюцца яны з рабіны», — пісаў этнограф Павел Шпілеўскі.



## Мёд, Ягайла і каралева Ядвіга

Самым славутым мёдам на нашых прасторах да сярэдзіны XIX стагоддзя лічыўся «ковенскі ліпец» — мёд, які варылі ў Коўне (так беларусы раней называлі Каўнас) з ліпавага мёду. Навагрядскі адвакат Ігнацый Яцкоўскі ў аповесці «Літоўскія прыгоды» занатаваў байку пра тое, як каралева Ядвіга неўзабаве пасля хросту Літвы ўпершыню пабывала ў Вільні і пакаштавала там гэты напой.

*«Калі каралева Ядвіга пакаштавала тае поліўкі, дык пачалі пазіраць: каралева — на печыва, а кароль Ягайла, шчаслівы, што справіў жонцы такую прыемнасць, — на каралеву. А потым азваўся да яе напалову жартам, напалову трыумфуючы:*
*— А што, каханая, няма ў нас такіх прысмакаў у Кракаве?*
*А яна з захапленнем усклікнула:*
*— Ой, ба! Ба! Каб жа мы гэта мелі!».*

У нашых суседзяў літоўцаў у міжваенны перыяд пітны мёд не быў у вялікай пашане. Але былая слава *ковенскага ліпца* абавязвала, і ўжо пасля вайны, дакладней пасля смерці Сталіна, энтузіяст адраджэння высакароднага напою Аляксандрас Сінкявічус дамогся заснавання ў 1959 годзе ў горадзе Стаклішкі прадпрыемства *Lietuviškas midus* — «Літоўскі мёд». Досыць хутка яго прадукцыя пачала ўспрымацца як візітоўка літоўскай нацыянальнай кухні. У Польшчы мяды дагэтуль *сыцяць* шматлікія вытворцы — і прафесіяналы, і аматары, — штогод праходзяць конкурсы на найлепшы гатунак. А ад 2008 года польскія мяды як тып напою зарэгістраваныя Еўрапейскай камісіяй як «традыцыйны спецыялітэт гарантаванай якасці». Канечне, у агульным аб'ёме спажывання алкагольных напояў мяды і ў Польшчы, і ў Літве займаюць усяго некалькі працэнтаў рынку. Аднак гэта знакава важная ніша — прадукты, праз якія можна дакрануцца да сапраўднай нацыянальнай гісторыі. Медавары-практыкі, а таксама многія пакаленні мемуарыстаў, гісторыкаў, тэхнолагаў, якія зафіксавалі і перадалі наступным пакаленням тэхналогію і тэрміналогію, задавальняюць патрэбу людзей у нескажоным аднаўленні ідэнтычнасці. І ў сучаснай Беларусі ёсць дзясяткі энтузіястаў самага старажытнага з алкагольных напояў. Нягледзячы на тое, што ніякага легальнага статусу пітны мёд у Беларусі не мае, энтузіясты нават стварылі сваю нефармальную гільдыю, у якой бяруць удзел да паўсотні чалавек. Амаль усе яны — пчаляры, якія шукаюць альтэрнатыўных спосабаў выкарыстання мёду са сваіх вулляў. Яны праводзяць неафіцыйныя конкурсы, семінары, дэгустацыі і мараць хаця б пра такі статус, якога нядаўна дамагліся іх украінскія калегі: цяпер закон дазваляе тым варыць і прадаваць на месцы да 700 літраў пітнога мёду штогод.



**Каралева Ядвіга ўпершыню спрабуе ковенскі ліпец.** Ілюстрацыя Алесі Галота да «Літоўскіх прыгодаў» Ігнацыя Яцкоўскага.

## Пакідаў галаву лёгкай, адно што ногі трохі запляталіся

Вядомы беларускі гісторык і пісьменнік Адам Ганоры Кіркор, у 1874 годзе апісваючы часы свайго юнацтва, сумнай памяці 1838 год, калі ў Вільні быў схоплены і пакараны смерцю апошні рэвалюцыйны рамантык таго пакалення Шымон Канарскі, паміж справай накідаў і гэтую оду дубняку:
«Панна Ганна зірнула на Насцю, тая выбегла і ў імгненне вока вярнулася з іншым падносам, на якім былі срэбныя кілішкі і 3 бутэльчыны, нейкія старыя, брудныя, нязграбныя, пакрытыя пылам і цвіллю.
— Дарагі наш кароль, — прамовіла панна Ганна да Шымана Канарскага, — я Вам не дам заморскага віна, але пачастую Вас дубнячком літоўскім, а далібог старым! Сама хадзіла да Кацэненленбогена гэта добры чалавек, і знаёмыя мы не ад сёння, — ну то даў мне гэтую бутэльчыну 28-гадовую, бо пастаўленая, калі ён ажаніўся, а вось гэтыя трохі старэйшыя, бо іх яшчэ бацька ягоны паставіў, калі ён нарадзіўся, а стары кажа, што мае зараз пад пяцьдзясят, але дзе там! Ілжэ, мае болей. Дубняк сапраўды быў дасканалы, густы як аліва, а такі мяккі, так весяліў і разагравaў, пакідаючы галаву лёгкай, адно што ногі трохі запляталіся. Па якой гадзіне ежы заставалася яшчэ шмат, а дубнячку — ані кроплі».
Кацэненленбогены — дынастыя віленскіх медавараў XIX стагоддзя яўрэйскага паходжання.



Гісторык Адам Кіркор быў знаўцам пітнога мёду.



Адно з пасяджэнняў **нефармальнай гільдыі беларускіх медавараў**. Справа — Дзяніс Фамін, злева — аўтар артыкула Алесь Белы.

Затым мёд змешваюць з настоямі зёлак і ягад, з сокамі ці мядовым алкагольным паўфабрыкатам з іншых відаў мёду (нашы продкі дадавалі ягадныя сокі, розныя мясцовыя зёлкі і імпартныя спецыі: цынамон, імбір, ядловец, мяту, лімонную ды апельсінавую цэдру). Далей гэтая сумесь адпраўляецца на вытрымку. Класічна — у дубовых бочках. У нас пакуль не заўжды ёсць прыдатныя, але можна вытрымліваць у металічных і пластыкавых ёмістасцях, дадаючы абпаленую дубовую шчапу. Вытрымка складае год і больш. Мне спачатку гэта здавалася залішнім, але калі я пакаштаваў уласны напой гадавой вытрымкі, то быў уражаны розніцай з маладым. Хаця калі шчыра, то вытрымліваць належны тэрмін удаецца не заўжды. Сябры і калегі папросту могуць выпрасіць раней.

У пітным мёдзе, напоі жывога браджэння, біяхімічныя працэсы ідуць бесперапынна, увесь час змяняючы прадукт. Майстэрства медавара ў тым, каб вырашыць, які гатунак мёду выкарыстаць, калі працэс браджэння перапыніць і што дадаць у мёд.

Максімальная колькасць мёду, зваранага ў складчыну з сябрамі, складала каля 400 літраў. З гэтай варкай звязаныя розныя ўспаміны. Каб працадзіць хмель, прыйшлося цішком сцягнуць у жонкі нейлонавыя калготкі. Хлопцы доўга потым мне гэта ўзгадвалі. Таксама здарыўся няшчасны выпадак — падчас пералівання гарачага сусла адзін з нашых таварышаў атрымаў апёк. З тых часоў нашы намаганні накіраваныя на захаванне тэхнікі бяспекі. Але той мёд быў самым лепшым на маёй памяці. ◆

Пітны мёд пасля ферментацыі абавязкова павінен даволі доўга вылежацца, выстаяцца — у драўляных бочках, у слоіках... Але як доўга? Залежыць ад узроўню тэхналагічнай культуры, але таксама і ад прынятага ў грамадстве рытму жыцця. Як «дэградуюць» мінімальныя патрабаванні з цягам часу, бачна вось з такога шэрагу прыкладаў. У сярэдзіне XIX стагоддзя польскі медавар Віктар Шаняўскі сцвярджаў, што сапраўдны мёд мусіць мець вытрымку сама меней 50 гадоў. Іншы ягоны калега ў 1875 годзе пагаджаўся ўжо на 12 гадоў. У часы Польскай Народнай Рэспублікі прафесар Тэафіл Цясельскі патрабаваў, каб пітныя мяды вытрымлівалі не менш за 5 гадоў. У нашыя часы польскія мяды вытрымліваюць у сярэднім каля 3-х гадоў.



Асацыяцыя вытворцаў і перапрацоўшчыкаў прадуктаў пчалярства "Медавікі"

**«Медавікі» — гэта беларуская асацыяцыя пчаляроў і перапрацоўшчыкаў мёду ды іншых прадуктаў пчалярства.**

**Наша задача — забяспечыць рынак краіны якасным тутэйшым прадуктам.**

**medaviki.by**




## Шчыры пчаляр

Наша кампанія — гэта каманда пчаляроў-прафесіяналаў!
Мы ставім перад сабой высакародную мэту — данесці да спажыўцоў выключна якасны мёд.
Мёд, фасаваны пад гандлёвай маркай «Шчыры пчаляр», вырабляецца толькі ў экалагічна чыстых месцах.
У краме **мёдтут.бел** — інвентар і пчолапакеты.

**Кантакты:**
krainka.by
+375 29 3144019
miodtutbel@gmail.com

## Мядовая сям'я

У фермерскай гаспадарцы «Мядовая сям'я» каля 800 пчоласем'яў, а гэта больш за 25 мільёнаў пчол!
Ад вясны да восені пчальнікі перавозяць па лясах і палях, арыентуючыся на красаванне траў і дрэў. Рукі чалавека не кранаюцца мёду. Яго кранаюцца толькі пчолы.
Галоўная мэта «Мядовай сям'і» — зрабіць мёд даступнейшым для людзей, палепшыць здароўе насельніцтва. Бо мёд, па сутнасці, гэта згустак карыснай прыроднай энергіі, які пчолы збіраюць і назапашваюць з кветак усё лета. А мы можам выкарыстоўваць увесь год.
Наш мёд прадаецца пад брэндам «Мядовая сям'я».
Не так даўно сумесна з Максам Мірным мы распрацавалі адмысловую «Актыўную» лінейку мёду — «Мірны мёд», для людзей, захопленых спортам, якія вядуць актыўны лад жыцця.
Наш мёд не ўтрымлівае штучнага цукру, антыбіётыкаў і іншых шкодных рэчываў.




**Кантакты:**
honeyfamily.by
mirnyimed.by
+375 33 6650020
Bortnik_niva@mail.ru

## «Мядовы шлях»



Гэта сямейная беларуская кампанія, якая знаходзіцца ў Парэччы на Гродзеншчыне. Кампанія стваралася з думкай аб вытворчасці выключных прадуктаў. Прадуктаў на аснове натуральных кампанентаў. Прадуктаў, якія мы атрымліваем на шчодрых беларускіх палях і ў лясах. Прадуктаў, у якіх мы спрабуем перадаць найлепшыя якасці і гаючыя ўласцівасці прыроды, выкарыстоўваючы пры гэтым сучаснае абсталяванне і новыя тэхналогіі.
Мы першыя ў Беларусі вырабілі натуральны ўзбіты мёд з рознымі смакамі: какавы і фундука, малінаў, чарніцаў, куркумы і імбіру, журавінаў... Ёсць лугавы, верасовы, грэцкі мёд, з пылком з кветак, з імбірам і пропалісам. Ніякіх фарбавальнікаў, толькі натуральныя напаўняльнікі і мёд!

**Кантакты:**
honeyway.by
+375 152 993277
mail@honeyway.by

# Полацк крымінальны XVII стагоддзя



## П'яныя танцы мінскіх хуліганаў у полацкай карчме ды іншыя гісторыі

**Пра запойную гулянку з трагічным фіналам, падман купцоў і карупцыю ў асяроддзі полацкага кіраўніцтва сабраў матэрыялы кандыдат гістарычных навук Дзяніс Лісейчыкаў.**

Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–1667 гадоў была асабліва спусташальнай для Полацкай зямлі. Тысячы жыхароў былі забітыя альбо вывезеныя ў палон. У выніку вайны Полацкае ваяводства страціла вялікую тэрыторыю на поўначы з гарадамі Веліж, Невель і Себеж, якія былі вернуты толькі ў 1678 годзе.

Пісьменнік і філосаф, манах Богаяўленскага манастыра Сімяон Сітняновіч-Пятроўскі якраз у час той вайны выехаў у Маскву, дзе стаў настаўнікам і выхавальнікам царскіх дзяцей. Ён напісаў і выдаў цэлы шэраг знакавых кніг і ўвайшоў у гісторыю пад іменем **Сімяона Полацкага.**

## Гарадскім пісарам працаваў брат Сімяона Полацкага Лукаш

Мала хто ведае, што ягоны **брат Лукаш** застаўся на радзіме. З бліскучай адукацыяй і выдатнымі каліграфічнымі навыкамі, малодшы Сітняновіч быў ідэальнай кандыдатурай на пасаду гарадскога пісара. Актавыя кнігі Полацкага магістрата, спісаныя сціслым почыркам пана Лукаша, якраз і расказваюць, як адраджалася мірнае жыццё і з якімі праблемамі сутыкаўся горад. То тут, то там уздымалі галаву бандыты, махляры і зладзеі.

Вось дзве яркія крымінальныя гісторыі, занатаваныя рукой полацкага месцкага пісара Лукаша Сітняновіча-Пятроўскага ў **1676 годзе**.

### Страляніна ў карчме

17 мая 1676 года ў шынок палачаніна Апанаса Клыпы завіталі чацвёра дзецюкоў на добрым падпітку. Гуляла чэлядзь шляхціца, мінскага чашніка Паўла Свірскага. *«Пан Тышка, Бадзяноўскі, Гаткоўскі і чацвёрты фурманчык на імя Юрка»*, — занатуе пазней полацкі месцкі пісар. Вопытны карчмар адразу адчуў, што з гэтай чацвёркай будзе клопату. Разыгралася класічная схема паводзін «праблемнай» кампаніі ў грамадскім месцы.

Для пачатку чэлядзь пана Свірскага загадала даць сабе два гарцы піва (амаль 6 літраў). Проста напіваца ў цішыні сумна — прымусілі граць на скрыпцы яўрэя Зэліка. Пасля куфля карчомнага пітва ў мужчынскім коле захацелася жаночай кампаніі і танцаў. Месцкі пісар амаль даслоўна натаваў дыялогі, якія адбываліся ў Клыпавай карчме:

«Звярнуліся да Клыпы такімі словамі:
— Ёсць у цябе дачка, якую завуць Тэадора, скажы ёй прыйсці да нас, каб з намі танчыла.
— Мае панове! Хоць і маю дачку, але не для танцаў, адно каб мне даглядала гаспадарку. Да таго ж у мяне дачка недарослых гадоў. А таму прашу вашамосцяў прыняць гэта як належнае».

Са стрыманым гаспадаром вырашылі не цырымоніцца. Яго скруцілі, схапілі за доўгую бараду і ўжо занеслі шаблю, каб яе адсекчы. Аднак Апанас Клыпа вылузнуўся з п'яных лап і разам з жонкай і дачкой зачыніўся ў склепе. Цяпер канфлікт раскручваўся без яго ўдзелу.

Да танцаў прыцягнулі Клыпавага сваяка-падлетка Тэадора Якімовіча, які разносіў куфлі з півам. Каб не цвяліць дурняў, той быў вымушаны скакаць пад Зэлікаву скрыпку. Далей — болей. Фурманчыка Юрку паслалі ў дом полацкага бурмістра Цімафея Спіхальскага па пісталеты. У чаканні зброі пачалі дашуквацца па пакоях шынкарскай дачкі. Ламалі дзверы, раўлі страшныя пагрозы на адрас гаспадара.

Хто яшчэ заставаўся ў карчме, кінуліся прэч. Апанас Клыпа спрабаваў утаймаваць банду цераз дзверы склепа. Паспрабаваў выйсці са сховішча, але, ацаніўшы абстаноўку, кінуўся хавацца ў адзін з пакойчыкаў вокнамі ў двор. Толькі паспеў зачыніцца, як грымнуў стрэл. Фурманчык Юрка прынёс пісталеты.

Пераляканы Клыпа выглянуў у акно. На падворку стаяла самотная постаць студэнта полацкага езуіцкага калегіума Андрэя Юдкевіча.

— А хто ж з гэтага дому праз фортку на вуліцу страляў? — спытаў студэнт, паказваючы рану пад самым поясам з левага боку.
— Гэта мы стралялі! — адказала чэлядзь пана Свірскага.
— Злыя, бязбожныя людзі! Вы загубілі і падстрэлілі бязвіннага чалавека!
Вымавіўшы гэта, ён выйшаў за вароты, хістаючыся, як паранены, так што людзі ледзь завялі яго ў пакой».

Разумеючы, што справы дрэнь, чэлядзь пана Свірскага разбеглася, не заплаціўшы за піва і за нанесеную шкоду.

Студэнт Юдкевіч ад атрыманай раны памёр. ▶



НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ АРХІЎ БЕЛАРУСІ

**Аўтограф Лукаша Сітняновіча-Пятроўскага.**




**Селядцовае ўзбярэжжа ў Рызе** — месца выгрузкі і сартавання селядцоў. 1650 год. Копія канца XVIII стагоддзя пэндзля Іагана-Крыштафа Броцэ.

Для вызначэння аб'ёмаў гандлю выкарыстоўвалася нямецкая марская адзінка — **лашт**. Рыжскі лашт у 1676 годзе складаў прыблізна 2 тоны.

### Стругі, селядцы і немцы

Самыя цесныя гандлёвыя сувязі Полацк меў з Рыгай. Менавіта праз Рыгу па Дзвіне палачане прывозілі ў свой горад шырокі асартымент еўрапейскіх тавараў. Самі ж яны везлі ў Еўропу збожжа, драўніну і вырабы мясцовых рамеснікаў. Свет няблізкі. Найлепей было кіравацца ў сплаў адразу пасля вясновага крыгаходу, па высокай вадзе. У іншы час водны рух інтэнсіўнасцю не вылучаўся.

Прадметам асаблівага гонару полацкіх купцоў былі ўласныя *стругі* — вялікія грузавыя лодкі з ветразем і стырном, якое ў народзе называлі *рычаг*. Бяднейшыя гандляры наймалі стругі ў багацейшых, і гэта быў яшчэ адзін прыбытковы артыкул мясцовага бізнэсу. Нясвоечасовая пастаўка транспарту была таксама добрым сродкам змагання з канкурэнтамі. Менавіта з гэтага ў 1676 годзе пачаліся няшчасці полацкага купца Івана Людскевіча.

Пасля сыходу вялікай вады, у маі, ён скардзіўся на несумленнага «транспартніка» Савасцея Сцебута:

> «Ён, пан Сцебут, зафрахтаваўшы мне і майму сваяку пад наш тавар свой новы струг для рыжскага сплаву і ўзяўшы ў нас за гэты фрахт 50 коп літоўскіх грошаў, невядома з якой прычыны гэтага новага струга не паставіў, а даў стары, кепскі струг, небяспечны, паламаны і вельмі ненадзейны. Хоць я яго не прыняў, мы да Рыгі са сваім таварам спазніліся, праз што панеслі немалую шкоду».

Улюбёным прадуктам полацкага імпарту была марская рыба. Мора вабіла палачан заўсёды, прыгадаем хоць бы выяву трохмачтавага карабля на гарадскім гербе — па Дзвіне такія дакладна не хадзілі. Сёння адным з самых пазнавальных балтыйскіх брэндаў з'яўляюцца *рыжскія шпроты*. У XVII стагоддзі старонкі актавых кніг Полацкага магістрата стракацелі згадкамі пра тлустых *рыжскіх селядцоў*. Дзвінскія стругі развозілі рыбу ад Дрысы да Віцебска. Танна, смачна і можна есці ў пост. Селядзец з'яўляўся адной з абавязковых страў на куццю і быў ці не адзіным імпартным таварам на сталах прыгонных сялян. Прыбытак прыносіў нават салёны лёк з бочак.

Найбагацейшыя полацкія купцы займаліся аптовымі пастаўкамі *рыжскіх селядцоў* і іх перапродажам. Справа была вельмі прыбытковай — тавар ніколі не залежваўся. Таму не дзіва, што аперацыямі з балтыйскай рыбай займаліся нават ураднікі мясцовага магістрата.

Купца Івана Людскевіча, якога ў маі падмануў несумленны ўладальнік стругаў, у верасні чакаў новы ўдар. Разам з кампаньёнам, лаўнікам полацкага магістрата Аляксандрам Шыкуцкім, ён у роспачы скардзіўся:

> «Мы, будучы ў Рызе, купілі ў рыжскага купца лашт селядцоў паводле рэкамендацый і гарантый паважаных купцоў пана Гансгуза і пана Гіндрыха Гентфельта. Названыя паны, добра ведаючы гэтага купца, запэўнілі нас і паручыліся за селядзец і за поўныя бочкі. Пачуўшы ад іх запэўніванні і звыкла даючы веры купецкаму слову, мы не праверылі ніводнай бочкі. Мусілі быць свежыя і поўныя бочкі без ніякага падману. Прыбыўшы ў Полацк, прадалі шэсць бочак полацкім мяшчанам



**Пячатка з гербам Полацка канца XV – пачатку XVI стагоддзяў.** Уплыў Рыгі адчуваецца па прысутнасці выявы рымска-каталіцкага біскупа, якая знікне з герба ў сярэдзіне XVI стагоддзя. Прамалёўка з кнігі Эдмундаса Рымшы «Пячаткі гарадоў Вялікага Княства Літоўскага» (Варшава, 2007).

## Бочку шчыльна набівалі драўлянымі абручамі, зверху клалі пласт селядцоў і ўсё гэта залівалі расолам. Разлік рабіўся на тое, што полацкі купец-аптавік кожную бочку правяраць не будзе

і купцам Яну Гурскаму і Піліпу Азаровічу. Гэтыя людзі запатрабавалі, каб мы агледзелі тавар. Калі ж агледзелі, то ў Яна Гурскага ў адной бочцы ўсярэдзіне знайшлі чатыры абручы, прыкладзеныя селядцом і запакаваныя, а іншыя бочкі таксама няпоўныя, ды яшчэ і гнілыя. Гэтыя селядцы купцы павярталі нам назад».

У склад магістрата ўваходзілі *бурмістры*, *райцы* і *лаўнікі*. Бурмістры кіравалі пасяджэннямі магістрата, райцы з'яўляліся іх дарадцамі, лаўнікі выконвалі даручэнні бурмістраў і лаўнікаў — праводзілі следчыя дзеянні, агляд месцаў злачынства, ацэнку маёмасці... Дзейных бурмістраў у горадзе адначасова было двое: ад «рымскага» (каталіцкага) і «грэцкага» (уніяцкага, радзей — праваслаўнага) бакоў. У XVII стагоддзі ў Полацку дзейнічалі 3 сесіі магістрата, якія засядалі па чарзе і мяняліся штогод 1 студзеня. Дзейныя ўраднікі называліся *гадавымі*, а тыя, якія чакалі сваёй сесіі, — *негадавымі*. У 1676 годзе гадавая сесія полацкага магістрата складалася з 2 бурмістраў, 2 райцаў і 4 лаўнікаў. Такім чынам, з улікам негадавых ураднікаў падчас апісаных падзей у горадзе адначасова жылі 6 бурмістраў, 6 райцаў і 12 лаўнікаў.

Што за абручы? Як гэта — прыкладзеныя? Аказваецца, Людскевіч зрабіўся ахвярай старой нямецкай схемы падману. Яшчэ ў пасланні полацкага намесніка князя Грыгорыя рыжскім ратманам за 1420 год адзначалася:

> «Скардзіўся нам наш палачанін Якаў на вашы немцы, на Івана і на Ерамея, што ж купіў у іх селядцы, іно ў тых селядцоў адна бочка ліха, з дзярэўем».

Бочку шчыльна набівалі драўлянымі абручамі, зверху клалі пласт селядцоў і ўсё гэта залівалі расолам. Разлік рабіўся на тое, што полацкі купец-аптавік кожную бочку правяраць не будзе. Выгада відавочная.

Іван Людскевіч аказаўся на мяжы фінансавага краху.

Падрабязней пра гэтыя і мноства іншых гісторый можна будзе даведацца з актавай кнігі Полацкага магістрата 1676 года, якая рыхтуецца да выдання беларускімі гісторыкамі ў 2019 годзе. ◆

Аўтар выказвае шчырую падзяку Максіму Макараву, Рэйнісу Норкарклсу, Сяргею Палехаву, Віталю Сідаровічу.




### «Палеская Біблія» Фёдара Клімчука

Фёдар Данілавіч Клімчук (1935–2018) — мовазнавец, гісторык, найлепшы знаўца мовы і традыцыйнай культуры Берасцейшчыны і Піншчыны. Ён запісаў гаворкі соцень населеных пунктаў Брэсцкай вобласці, а таксама пераклаў на дыялект свайго роднага сяла Сыманавічы Новы запавет і творы Гамера, Льва Талстога і Мікалая Гогаля.

Да апошніх хвілін жыцця Клімчук гатовы быў размаўляць гадзінамі пра свае Сыманавічы і іх гаворку. Ён казаў: «Я памятаю моўную псіхалогію сваёй вёскі: па-руску можаш размаўляць недзе там, у горадзе, але з маці — барані Божа! Гэта лічылася грахом. Абавязкова на сваёй. Толькі пры такім стаўленні, лічу, яе можна захаваць і надалей. Памруць гаворкі — мова стане мёртвай». І сам рабіў усё для таго, каб гэтага не здарылася.

Пераклад Новага запавету на сіманавіцкі дыялект — праца Фёдара Клімчука, якой ён займаўся 15 гадоў. Яна была скончана яшчэ ў 1995 годзе, аднак у кніжным варыянце ў 2010 годзе пабачыла свет толькі першая частка перакладу. І Фёдар Данілавіч марыў, каб увесь Новы запавет па-сыманаўску выйшаў пад адной вокладкай.

Цяпер ягоная мара здзейснілася — пераклад упершыню выйшаў цалкам! Праект здзейсніўся дзякуючы культурніцкай арганізацыі «Tradycyja» пад кіраўніцтвам Сяргея Доўгушава. Грошы збіраліся на краўдфандынгавай платформе Ulej.by.

Кнігу можна набыць у мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72) альбо замовіць праз e-mail: **tradycyja.by@gmail.com**.

# Як адзначала зімовыя святы эліта Рэчы Паспалітай



## Забавы «за караля Саса»

**Большасць традыцый зімовых святаў, якія мы ведаем і любім, прыйшлі ў наш рэгіён не так даўно. Магнаты Вялікага Княства святкавалі зусім іначай. Як? Расказвае гісторык Кірыл Карлюк.**

Людзі рэдка рэфлексуюць над тымі святочнымі звычаямі, да якіх прызвычаіліся з малых гадоў. Але многія з іх з'явіліся на нашых землях нядаўна. Напрыклад, ёлку сталі ставіць на Беларусі толькі ў XIX стагоддзі пад нямецкім уплывам. Прыкладна да гэтага самага часу належаць вобраз святога Мікалая і традыцыя дарыць дзецям падарункі — таксама не без нямецкага следу.

Трохі раней, у XVIII стагоддзі, ледзь не ў кожным буйным касцёле Рэчы Паспалітай з'явіліся яслі для Нованароджанага Хрыста. Іх дапаўнялі фігуркі людзей і звяроў. Некаторыя кляштары нават «спаборнічалі» за самыя цікавыя канструкцыі яселек. Як згадвае мемуарыст «Саскай эпохі» Енджэй Кітовіч, яслям маглі надаваць механічную рухомасць, а манахі ці касцельныя служкі часам ладзілі каля іх тэматычныя пантамімы.

### Рыба — пані поснага стала

Традыцыйнае меню вігіліі сфармавалася на мяжы XVIII і XIX стагоддзяў. У гэты ж час у нашым рэгіёне з'явілася традыцыя дзяліцца аплаткамі. Посны ж стол пры двары магнатаў не вылучаўся сціпласцю і стрыманасцю. Найчасцей аскеза не была самамэтай, а суровыя царкоўныя абмежаванні заўжды



**Выезд з замка.** Карціна Яна Хельмінскага, 1884 год. Сані — не толькі практычны зімовы транспарт, а часам і вясёлая забава. Мастак паказаў групу арыстакратаў у касцюмах сярэдзіны XVIII стагоддзя. Багатыя пазалочаныя сані аздобленыя геральдычнымі матывамі і барочнымі пу́ці. Ад Каляд да Вялікага посту шляхціцы наведвалі суседзяў і сяброў, гасцявалі па некалькіх дзён. Такую гасціну называлі «ку́ліг».

можна было абысці альтэрнатыўным наборам прадуктаў і кухарскім майстэрствам. Багацце стала ад таго не дужа цярпела.

Паколькі пост цягнуўся доўга, то кухары вынайшлі бясконцае мноства рыбных страў у самых розных тэхніках. Некаторыя стравы з рыбы гатаваліся такім спосабам, каб выглядам, а часам і смакам нагадваць мяса. Так, папулярнымі былі рыбныя каўбасы і паштэты. Да рыбных страў дадаваліся поліўкі, рыс, розныя крупы і міндаль, тушаная капуста з міжземнаморскімі каштанамі, тушаны пастарнак. Часам пяклі адмысловы вігілійны хлеб. Як іранічна пісаў польскі паэт Каспер Мяскоўскі ў XVII стагоддзі:

> Што гатуе? Вугры, селядзец,
> шчупакі ў солі,
> Бялугу, ласось, карпа, брухам
> на пост згодна волі.

Стравы рабілі з шэрагу гатункаў рыб. Падчас вігіліі 1695 года кароль Ян III Сабескі разам з сям'ёй ладзіў шыкоўны абед у варшаўскім палацы Марывіль. Толькі за адзін (!) стол, за якім сядзеў Яго Вялікасць, падаваліся ласось, карпы і шчупакі розных памераў, акунь, ляшчы, ліні, салёная рыба, штокфіш (сушаная траска), селядцы і сцерлядзь...

Хаця некаторая рыба імпартавалася, нямала прэснаводнай гадавалася ў заможных гаспадарках кляштараў і фальваркаў. Праўда, справа гэта была не танная.

### Святочны стол

У святочныя дні 25–31 снежня накрывалі багаты стол. На ім з'яўляліся каплуны (пеўні) і шмат дзікай птушкі: цецерукі, фазаны і качкі. У меню была і гусь, якую елі не толькі перад адвентам (лічылася, што самая смачная гусяціна пасля дня святога Марціна 11 лістапада). На самых буйных прыёмах у Радзівілаў ці Сапегаў маглі падаць сотні каплуноў, дзясяткі дзікоў і бочак віна. На стале былі заморскія цытрусавыя і салодкія дэсерты з цукру (які ў той час выраблялі толькі з трыснягу і быў вельмі дарагі).

Смакі таго часу былі надзвычай складанымі і выразнымі. Кухмістры любілі спалучаць розныя прыправы: вострыя, кіслыя і салодкія. Звыклы смак страў адцянялі экзатычнымі соусамі са спецыямі, разынкамі, карыцай, імберцам.

Стравы мелі самыя неймаверныя формы. Гэта было звязана з панаваннем стылю барока, які самым непасрэдным чынам паўплываў і на кулінарнае мастацтва. Візуальная гульня і ілюзія былі галоўнымі матывамі. Страва магла нагадваць сыр ці каўбасу, а насамрэч была прыгатавана з гароднiны ці фруктаў. Можна правесці паралель з актуальнымі трэндамі ў сучасных рэстаранах ф'южн і малекулярнай кухні.

Вядомыя рэцэпты такіх страў. Многія з іх паходзяць з *Compendium Ferculorum* (1682) Станіслава Чарнецкага: сядло аленя з мядовай выпечкай, міндальная поліўка, булён па-польску. Дзясяткі рэцэптаў захаваў і невядомы кухмістр нясвіжскіх Радзівілаў у сваім змястоўным рукапісе «Вельмі добрая мода смажання розных канфектаў...» 1686 года. Напрыклад, аўтар дае такі рэцэпт размарынавай поліўкі, якая аздабляла многія стравы тагачаснай кухні: «прасеяць муку, дадаць ялавічны булён, дробна нарэзаны размарын і мускатныя кветкі, прыправіць».

### Віншаванка ад Пане Каханку

Традыцыя святочных віншаванняў у лістах прыйшла ў Рэч Паспалітую ў канцы XVII стагоддзя.



MODA BAYDZO DOBRA ZMAZENIA
ROZNYCH KONFEKTOW Y INNYCH SLODKOSCI

IMBIRY PIECZONY

CYTRYNOWE albo Porzeczkowe
Bulki albo strucle

**Першая старонка рукапісу «Вельмі добрая мода смажання розных канфектаў...»**, 1686 год. Рукапіс з рэцэптамі старадаўняй літоўскай кухні, напісаны невядомым кухмістрам з Вялікага Княства Літоўскага, паходзіць з нясвіжскага архіва Радзівілаў.

Літоўская арыстакратыя мела цесныя сямейныя, сяброўскія і палітычныя стасункі з прадстаўнікамі самых розных фамілій, уладанні якіх былі раскіданыя па вялікіх абшарах. Некаторыя ўвогуле знаходзіліся працяглы час за мяжой. Тады на дапамогу прыходзіла прыватная карэспандэнцыя.

Такія лісты не толькі выказвалі фармальную пашану, але былі і сімвалам саюзаў паміж магнацкімі сем'ямі. Звычайнай нагодай для такіх віншаванняў былі менавіта Каляды. У снежні 1761 года інфлянцкі кашталян і каралеўскі камергер Юзаф Ежы Гільзэн даслаў кіеўскаму біскупу Юзафу Анджэю Залускаму віншаванні «з надыходзячымі ўрачыстасцямі Божага Нараджэння і Новага года... ласкава жадаючы, каб пан дабрадзей заўжды быў здаровы і вясёлы».

Да нас дайшоў і цікавы ліст тады яшчэ маленькага хлопчыка Караля Станіслава Радзівіла, якога пазней празвалі «Пане Каханку», зрабіўшы героем мноства анекдотаў. Адна з баек кажа, нібы князь авалодваў граматай, страляючы з пісталета па літарах на драўлянай дошцы ў двары замка. Як бы там ні было, у сем год князь ужо пісаў сваёй бабулі ліст «з нагоды віншавання з Нараджэннем Панскім і годам, які пачынаецца, пацалаваўшы ногі Вашасці бабкі і дабрадзейкі...»

## Барока: страва магла нагадваць сыр ці каўбасу, а насамрэч была прыгатавана з гародніны

Калі абставіны дазвалялі, віншавалі і вусна. Так, 1 студзеня 1752 года пасля набажэнства ў касцёле князь Міхал Казімір Радзівіл, па мянушцы Рыбанька, бацька вышэйзгаданага Караля Станіслава, разам з усёй сям'ёй наведаў цешчу, княгіню Тэафілію Таіду Вішнявецкую, «якую мы віншавалі не толькі з Новым годам, але і з днём нараджэння: пачынае яна сёння 71-ы год. Усім сэрцам зычу, каб жыла і ў добрым здароўі лічыла сотню год». У наступным, 1753-м, годзе Рыбанька віншаваў любімую цешчу і сваячніц з сям'і Мыцельскіх падчас вігіліі і еў з імі куццю.



**Нацюрморт са шчупакамі.** Карціна невядомага нямецкага мастака, XVIII стагоддзе. Шчупакі звычайна панавалі на сармацкім стале падчас посту.

### Каляды за мяжой

Многія калядныя традыцыі прыйшлі да нас з-за мяжы. Падчас сваіх падарожжаў шляхта назірала калядныя звычаі Заходняй Еўропы. Так, у 1694 годзе наваградскі харужы Самуэль Казімір Швыкоўскі, які суправаджаў дачку Яна III Сабескага ў падарожжы да яе будучага мужа, баварскага курфюрста, апісвае, як святкуюць Раство ў нямецкім Білефельдзе.

У 1722 годзе ўжо знаёмы нам нясвіжскі князь Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька святкаваў Каляды ў бліскучым Парыжы. Як ён занатаваў у сваім дыярыушы, 24 снежня «мы справілі куццю, якая ў гэтым краі адпраўляецца са значна большай пампезнасцю, чым у нас, а раніцай я быў у царкве Сен-Сюльпіс». Навагодняя ноч таксама ўразіла князя:

«Вечарам тут заўжды падсвечваюць крамы ля Пале-Раяль. Іх тут некалькі соцень, але так светла, што каб згубіў шпільку, то знайшоў бы. Прыязджае ўсё панства, і гэта такое пекнае відовішча. Ёсць асаблівы звычай: каб пастух прасіў найпаважнейшую пані пра каляду, што называюць *étrenne*, — тая мусіць дазволіць пацалаваць у шчаку. Трывае гэтая ілюмінацыя ўсю ноч».

Нездарма, відаць, літоўскія магнаты так любілі феерверкі, ілюмінацыі і салюты — апошнія ладзілі асабліва часта і з розных нагодаў (падрабязней у артыкуле Міколы Волкава ў № 4 «Нашай гісторыі» за 2018 год).

### «Разгулялася вясёлая кампанейка»

У залежнасці ад абставінаў, здароўя і настрою калядныя святкаванні маглі быць шумнымі, з мноствам гасцей або наадварот — ціхімі, у сямейным коле і ў малой кампаніі.

Так, у 1745 годзе Міхал Казімір Радзівіл «першы дзень святаў весела правёў у добрай кампаніі», гэтак жа было пасля святочнага набажэнства

і ў 1749 годзе. Але ўжо ў наступным годзе восенню смерць старэйшага сына Януша Тадэвуша азмрочыла Каляды: святкавалі ў цеснай кампаніі блізкіх сваякоў, *en famille*.

Вігілію і Божае Нараджэнне 1693 года ў ціхай кампаніі сустракаў і кароль Ян III Сабескі — з-за цяжкой хваробы. Пасля добрага абеду ці вячэры такія святочныя дні можна было правесці за прыемнай свецкай размовай... ці з вераю ва ўласную фартуну за адной з модных забавак — гульнёй у карты. Што кароль звычайна і рабіў у кампаніі жонкі, сыноў, французскага пасла і некаторых абраных гасцей.



**Свецкая размова ў калядную ноч.** Гравюра Даніэля Хадавецкага, нямецкага мастака з польскімі і французскімі каранямі, 1776 год. Сярод серыі яго гравюр нямала прысвечана Калядам. Многія з яго твораў надзвычай вострыя і іранічныя.

## У калядны вечар 1750 года ў Нясвіжы паказвалі камедыю «Забавы фартуны», дзеянне якой пераносіла гледачоў у Егіпет

Настрой паляпшала музыка. Пры двары ў першыя дні 1694 года для караля і каралевы гралі ўлюбёныя бандурысты, а потым і еўрапейскія музыкі. Хто ведае, можа, таму і хвораму каралю ў тыя дні палепшала, як паведамляе нам у сваім дзённіку літвін Казімір Сарнецкі, рэзідэнт нясвіжскага князя пры каралеўскім двары.

Самыя заможныя маглі дазволіць сабе тэатр. Яго палюбілі дзякуючы прыкладу раскошных дрэздэнскага і варшаўскага двароў каралёў Аўгуста II і Аўгуста III. Да Каляд свае спектаклі часта прымяркоўвала княгіня Францішка Уршуля Радзівіл, жонка Міхала Казіміра Рыбанькі. Напрыклад, у снежні 1749 года, які выдаўся надзвычай вясёлым для нясвіжскіх гаспадароў, былі паказаныя аж дзве камедыі княгіні. А 24 снежня 1750 года адбылася прэм'ера яе камедыі «Забавы фартуны», дзеянне якой пераносіла гледачоў з халодных заснежаных беларускіх лясоў і палёў наўпрост у Егіпет.

А да музыкі і спектакля, вядома, можна зладзіць і баль. Так і адбылося ў 1749 годзе ў Нясвіжы: як пісаў Рыбанька, «па набажэнстве вечарам была камедыя, потым танец, па вячэры разгулялася вясёлая кампанейка, падпіў сабе...» Традыцыя наведваць суседзяў з вясёлым візітам атрымала назву «кýліг».

А як жа без палявання? Снежань якраз пасаваў для гэтых забаў. Міхал Казімір Радзівіл любіў паляваць у ваколіцах Міра і Нясвіжа, але больш за ўсё — у Рудніцкай пушчы. Правесці снежаньскі дзень у актыўным адпачынку, палюючы на мядзведзя, лася ці дзіка, любілі самыя розныя літоўскія магнаты.

Заканчваліся Каляды святам Трох Каралёў. У Саскія часы ў Варшаве з'явілася завядзёнка пячы пірог, у якім быў схаваны адзін вялікі міндаль. Кавалачак пірага падаваўся ўвечары да ўлюбёнага напою — кавы. Той, каму трапляўся міндаль, мусіў у запусты зладзіць баль. А калі той у сваім кавалку адшукала маладая паненка, то лічылася, што ў гэтым годзе яна абавязкова выйдзе замуж. ◆

# Ён першым увёў 8-гадзінны працоўны дзень


Антоній Ігнацьевіч Стульгінскі.

**Антоній Стульгінскі — дырэктар, які зрабіў славутай Добрушскую папяровую фабрыку. Пра яго піша гісторык Вітольд Ханецкі.**

Род Стульгінскіх герба «Любіч» здаўна жыў на Ковеншчыне, ды і па ўсёй Літве. У XVII–XVIII стагоддзях прадстаўнікі роду валодалі маёнткамі Майраны, Багузішкі, Жэміголле, Жылаб і Мончы (інакш — Стульгі, Стульгішкі). Такіх родаў былі сотні. Стульгінскія ж вызначыліся найперш дзвюма асобамі. Гэта Аляксандр Стульгінскі (Аляксандрас Стульгінскіс), другі прэзідэнт Літоўскай Рэспублікі, і наш герой, Антоній.


**Люцыя з Гадлеўскіх Стульгінская** (першая жонка) з сынам Уладзімірам, 1878 год.

Антоній-Караль Стульгінскі нарадзіўся 27 красавіка 1851 года (па старым стылі 15 красавіка) у горадзе Цельшы ў Літве. Яго бацькі Ігнацій-Ксаверый і Карнэлія з Люткевічаў выхоўвалі дзяцей у павазе да старых традыцый Рэчы Паспалітай.

Акрамя Антонія-Караля, у іх было яшчэ двое малодшых дзяцей — Тадэвуш-Мар'ян і Войцех-Сільван. Вядома, што Антоній скончыў гімназію ў Шаўлях (цяпер Шаўляй на поўначы Літвы). У 1863 годзе ягоны бацька, чыноўнік канцылярыі старшыні павятовага дваранскага сходу, узяў удзел у паўстанні Каліноўскага, быў асуджаны і высланы ў Сібір.

У такой сітуацыі маладыя Стульгінскія маглі разлічваць толькі на ўласныя сілы і розум. Антоній вучыўся ў пецярбургскім Тэхналагічным інстытуце на хімічным факультэце і скончыў яго ў 1873 годзе. Удзельнічаў у будаўніцтве Бабінскай папяровай фабрыкі, а з 1875 года заняў сціплую пасаду тэхнолага на Краснасельскай папяровай фабрыцы пад Пецярбургам.

Падчас аднаго з візітаў на радзіму ён пазнаёміўся з зямлячкай Люцыяй-Вольгай Гадлеўскай, з якой неўзабаве і ажаніўся. Праз год — у 1877-м — у іх нарадзіўся першы сын, якога назвалі Уладзімірам-Фердынандам.

### Адмовіць Паскевічу асабіста

Усё часцей Антоній прыходзіў дадому расчараваны. Вось ужо трэці год ён працаваў немаведама кім: не падабаліся яму ні асяроддзе, ні ўмовы. У студэнцкія часы ён марыў зусім пра іншае. Чалавек энергічны, удумлівы і вельмі амбітны, Антоній заўжды хацеў арганізаваць штосьці сваё, стварыць ад самага пачатку альбо паўдзельнічаць у нейкім вялікім праекце. І лёс, відавочна, быў на ягоным баку. Нечакана Стульгінскі атрымаў тэлеграму: «Прашу неадкладна прыбыць у Пецярбург. Палац князя Івана Паскевіча прапануе цудоўнае месца. Горача раю прыняць». Тэлеграма была падпісана старым прафесарам Тэхналагічнага інстытута Зарыбіным.

Прачытаўшы тэлеграму, Антоній з раздражненнем кінуў яе на стол. Не мог дараваць спадчыннай крыўды: некалькі яго сваякоў моцна пацярпелі праз генерала-фельдмаршала Івана Паскевіча, якога многія на беларуска-літоўскіх і польскіх землях лічылі катам. Цяжка было забыцца і на тое, што родны бацька і цесць, імкнучыся


ФОТА СЯРГЕЯ ГУДЗІЛІНА

**Дамы для рабочых** Добрушскай фабрыкі, якія збудаваў Стульгінскі.

да вызвалення свайго краю, трапілі ў Сібір.

Але спрацавала мудрая правакацыя жонкі, якая спакойна заўважыла:

— Так ці інакш, тут ці ў іншым месцы, але ты працуеш у расіян.

— Але не ў Паскевіча! — запярэчыў Антон.

— Мусіш ехаць, — настойвала яна, — хаця б з павагі да свайго прафесара. А прыедзеш — будзеш мець сатысфакцыю адмовіць Паскевічу асабіста!

І ўжо праз дзень Стульгінскі ўпэўнена крочыў праз амфіладу салонаў Паскевічавага палаца на Няве. Настроены на барацьбу...

Зірнуўшы на Фёдара Паскевіча, Антоній прамовіў сам сабе: «Нягоднік і сын нягодніка, зараз ён пакажа сваё сапраўднае аблічча!» Але быў збянтэжаны прыязным, нават рахманым тонам малодшага Паскевіча. Не так ён уяўляў сабе сына «людажэра» — той аказаўся антыподам бацькі, тактоўным і высокаадукаваным, і прыязна ставіўся да простых людзей. З успамінаў вядома, што большасць работнікаў яго фабрыкі складалі каталікі — беларусы і палякі: Паскевіч наймаў іх на знак прымірэння за крыўды бацькі. Яго жонка Ірына заснoўвала прытулкі для бедных, сірот, падтрымлівала адукацыйныя ўстановы, а пасля рэвалюцыі засталася ў Гомелі, жыла ў доме мясцовых жыхароў — і бальшавікі яе не чапалі, бо ў княгіні хапала абаронцаў.

У пачатку сустрэчы тон Стульгінскага яшчэ быў ▶

## Хроніка фабрыкі:

**1870** — Князь Фёдар Іванавіч Паскевіч засноўвае Добрушскую папяровую фабрыку

**1878** — Дырэктарам прызначаецца Антоній Стульгінскі

**1879–1880** — Пабудова чыгуначнай лініі Гомель – Добруш для патрэб фабрыкі

**1882** — Адкрыццё першай у Беларусі фабрычнай лабараторыі

**1882 і 1896** — Перамога на Усерасійскіх выставах папяровай вытворчасці

**1885** — Адкрыццё пачатковай школы і рамесніцкай вучэльні для дзяцей фабрычных работнікаў

**1889** — Увод у дзеянне Добрушскай электрастанцыі, першай на Беларусі, а таксама адной з першых цэнтральных тэлефонных станцый

**1894** — Увядзенне на фабрыцы 8-гадзіннага працоўнага дня, упершыню ў Расійскай імперыі

**1895, 1900, 1907** — Мадэрнізацыя вытворчасці, што вывела Добрушскую фабрыку ў лідары папяровай прамысловасці Расійскай імперыі

**1895–1900** — Заснаванне фабрычнай бальніцы, аптэкі, духавога аркестра і хору

**1901** — Увядзенне трохзменнага працоўнага графіка

**1904** — Увядзенне абавязковага страхавання фабрычных рабочых



**На тэрасе дома ў Добрушы** (злева направа): Эмілія з Нагурскіх Стульгінская (другая жонка), Генрык Стульгінскі (сын), жонка Генрыка Зоф'я з Кушалеўскіх, Антоній Стульгінскі.

напружаны і востры, але Паскевіч здолеў прывесці пераканаўчыя довады, чаму Антонію варта было б узначаліць папяровую фабрыку ў Добрушы. Так і пачаўся новы этап яго жыцця.



**Магіла Антонія Стульгінскага** на беразе ракі Іпуць у Добрушы, 1916 год.

## Святы для рабочых

Стульгінскі з імпэтам узяўся за справу. У Добрушы ён яўна быў на сваім месцы: за першыя пяць гадоў фабрыка дабілася ашаламляльных поспехаў і стала найбуйнейшай у імперыі. Калі Антоній толькі пачынаў працаваць у Добрушы, на фабрыцы была адна паравая машына, але ўжо ў 1915-м мелася найноўшае тэхнічнае абсталяванне і працавала амаль 1 500 чалавек, забяспечаных неверагоднымі для таго часу сацыяльнымі выгодамі. У штаце пры фабрыцы працавалі фельчар, доктар і правізар. Была арганізавана бальніца і аптэка. Паслугамі доктара і лекамі з фабрычнай аптэкі бясплатна карысталіся, акрамя рабочых фабрыкі, іх сем'і. Жыллёвае пытанне таксама не стаяла. Пры фабрыцы працаваў уласны прадуктовы склад, адкуль працаўнікі куплялі прадукты на 15–20 % танней, чым у краме. Усе работнікі былі застрахаваныя ад няшчасных выпадкаў. Пасля адпрацоўкі на фабрыцы пяцігадовага стажу кожны супрацоўнік пры звальненні меў права на выхадную дапамогу. А пры ўвядзенні на фабрыцы 8-гадзіннага працоўнага дня ўсе работнікі захавалі свае заробкі, якія атрымлівалі за 12-гадзінную працу.



**Генрык Стульгінскі.**

У 1905 годзе ў гонар увядзення 8-гадзіннага працоўнага дня і для заахвочвання студэнтаў Паскевічы выдзелілі сродкі ды заснавалі ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце, дзе некалі вучыўся дырэктар фабрыкі Стульгінскі, стыпендыю яго імя.

У сямейным жыцці, праўда, хапала ўсялякага. У красавіку 1880-га ў Стульгінскіх нарадзіўся другі сын, якога назвалі Генрык-Ігнацій. Але менш чым праз год пасля гэтага Люцыя памерла. Антоній застаўся адзін з двума малымі. Пад уплывам сваякоў і сяброў наважыўся на другі шлюб.

Сасваталі яму Эмілію Нагурскую, дзяўчыну з заможнай сям'і і далёкую сваячку першай жонкі. Гэты шлюб па разліку аказаўся вельмі шчаслівы. Эмілія любіла пасынкаў, але ўласных дзяцей з Антоніем Стульгінскім у яе не было.

Тым часам дзякуючы сваёй працавітасці Антоній Стульгінскі зрабіўся вельмі заможным чалавекам. У 1883 годзе ён набыў вялікі маёнтак Малыя Дэмбы з 500 дзесяцінамі зямлі ля Мінска-Мазавецкага, за 60 кіламетраў ад Варшавы. Але жыў у Добрушы. Па словах людзей, якія бывалі ў Стульгінскіх, атмасфера ў доме была светлай. Хоць сам Антоній-Караль меў даволі круты нораў, але заўжды быў гатовы пажартаваць і распавесці вясёлую гісторыю, на любы выпадак у яго знаходзіліся смешныя прымаўкі. У доме ніколі не пераводзіліся госці і візіцёры, сваякі і сябры. На Божае Нараджэнне работнікі фабрыкі прыносілі Стульгінскім вялікую яліну, але свята праходзіла ў вузкім коле самых блізкіх. Затое на Новы год у калідоры граў фабрычны аркестр, за святочным сталом сярод сваякоў і сяброў гаспадара сядзелі дробныя кіраўнікі і прадстаўнікі рабочага калектыву, а пасля вячэры пачыналася раздача святочных падарункаў. Стульгінскі непрыкметна падаваў знак музыкам, і пад вальс «Над мудрым Дунаем» пачыналіся танцы... На наступны дзень ладзілася свята для дзяцей працаўнікоў фабрыкі, а іх было нямала.

Апошні баль адбыўся на мяжы 1914–1915 гадоў. А 19 чэрвеня

1915-га Антоній Стульгінскі пакінуў гэты свет: як сведчыць акт аб смерці, ён памёр ад стэнакардыі. Яшчэ праз два гады, у бурлівым 1917-м, склеп з яго целам быў ускрыты, труна пашкоджана. Шукалі золата...

### Змыла паводкаю

Упершыню пра гэтага выдатнага чалавека беларусам распавёў гісторык Андрэй Кіштымаў. Але многае, у прыватнасці акалічнасці асабістага жыцця бізнэсоўца, застаецца і дагэтуль невядомым. Заслону таямніцы прыадчыняюць архіўныя дакументы, успаміны сучаснікаў, а таксама аўтабіяграфічная кніга ўнучкі, Зоф'і Стульгінскай, пад назвай «Грушы на вярбе». Безумоўна, цікава паглядзець на постаць Стульгінскага і ягонай сям'і не толькі праз сухія лічбы яго прадпрымальніцкага таленту.

Старэйшы сын Стульгінскага, Уладзімір, стаў інжынерам-чыгуначнікам і правёў каля васьмі гадоў на будоўлях дарог у самых аддаленых правінцыйных раёнах Расіі. Пазней ён працаваў у пецярбургскай кампаніі свайго цесця Калянкоўскага,

## У 1917-м склеп з яго целам быў ускрыты, труна пашкоджана: шукалі золата

знакамітага бізнэсмена-фабрыканта, які паходзіў з беларускіх зямель. Рэвалюцыю сустрэў у Фінляндыі, адкуль у 1919 годзе з'ехаў з сям'ёй у Польшчу. Жыў у горадзе Быдгашч. Там ён стварыў невялічкую фірму, заснаваў аўтамабільны клуб, займаўся грамадскай дзейнасцю пад кіраўніцтвам нашага слыннага земляка Эдварда Вайніловіча. У Быдгашчы і памёр ад інсульту ў 1936 годзе. У яго засталася дачка Зоф'я, вядомая ў Польшчы журналістка і пісьменніца.

Генрык Стульгінскі, малодшы сын Антонія, пайшоў па слядах бацькі. Сухаваты, рэзкі, ён займаўся справамі Добрушскай фабрыкі, стаў намеснікам Антонія Стульгінскага, а пасля яго смерці — дырэктарам. Ён быў настолькі практычны, што нават падчас рэвалюцыі здолеў захаваць свае капіталы, што дазволіла яму пасля ўкласці грошы ў розныя праекты ў Польшчы. Жыў у бацькавым маёнтку Малыя Дэмбы, дзе і памёр у 1950 годзе.

Да нашых дзён магіла Стульгінскага ў Добрушы не захавалася: у 20-я гады мінулага стагоддзя яе змыла паводка Іпуці. ◆

ФОТА СЯРГЕЯ ГУДЗІЛІНА




Добрушская папяровая фабрыка.

# Шашлыкі, сквар і бойкі да смерці: як беларусы адбудоўвалі Ташкент

**Паўстагоддзя таму Ташкент перажыў катастрафічны землятрус, але за паўтара года быў цалкам адноўлены. На адбудову горада за 4 000 км выправіліся і беларусы. Але ў Азіі многае здалося для іх чужым і дзікім, піша гісторык Павел Булаты.**




SPUTNIK, ЮРЫЙ IВАНОЎ

Як беларускія будаўнікі **ехалі ў Ташкент.**

У красавіку 1966 года ў Ташкенце праходзіла дэкада беларускай літаратуры і мастацтва ва Узбекістане. Беларусы прывезлі артыстаў. На 26 красавіка планавалася ўрачыстае закрыццё мерапрыемства. Аднак а 5.23 раніцы ў сталіцы Узбекскай ССР адбыўся разбуральны землятрус. За 1 хвіліну 2 млн м$^2$ жылля было разбурана, больш за 300 тысяч чалавек засталіся без прытулку.

У прэсе БССР ташкенцкія навіны не мелі шырокага асвятлення: лейтматывам красавіцкіх нумароў была падрыхтоўка рэспублікі да майскіх святаў, пасяўная і выбары 12 чэрвеня ў Вярхоўны Савет СССР 7-га склікання... Передавы артыкул «Звязды» на наступны дзень пасля землятрусу быў прысвечаны якраз... урачыстаму закрыццю дэкады беларускай культуры. Прытым што ў той абстаноўцы наўрад ці магло адбыцца нейкае закрыццё: найхутчэй, у газеце змясцілі шаблонную, загадзя падрыхтаваную інфармацыю. Ніякіх нечаканасцей тады не прадугледжвалася. Але праігнараваць звесткі пра разбуральныя падзеі не маглі — у тым жа нумары надрукавалі зводкі ТАСС пад агульным загалоўкам «Пасля землетрасення ў Ташкенце».

### Ва Узбекістан — пабачыць свет

Адной з асаблівасцей Савецкага Саюза былі грандыёзныя «ўдарныя камсамольскія будоўлі». Калі ў сталінскія часы дзяржава выкарыстоўвала бясплатную працу вязняў ГУЛАГа, то пасля ўлады звозілі моладзь з розных рэспублік працаваць разам.

Для юнакоў у гэтым была і рамантыка, і магчымасць зарабіць.

Сярод такіх праектаў было і аднаўленне Ташкента пасля красавіцкага землятрусу. З Беларусі туды выехалі каля 300 будаўнікоў і інжынерна-тэхнічных работнікаў.

— Была ў нашым будаўнічым інтэрнаце вечарына. Быў там і камсарг. Ужо добра так разгуляўшыся, кажа: маўляў, паехалі, хлопцы, у Ташкент — дый паехалі. Мы казалі: добра, едзем! Праз колькі дзён вылоўлівае і кажа: «Пайшлі афармляцца ў Ташкент». Во халера! Думаў на жарт усё, а тут на табе! І не адмовішся, трэба ехаць, — распавядзе **Мікалай Фёдаравіч Аляксеенка**, беларускі прафесійны будаўнік, які ў 23 гады выправіўся ў Ташкент. — Мы якраз скончылі будаваць Палац спорту на Нямізе, здалі на майскія. А потым усё, заробку не было. Добра плацілі на будоўлях вялікіх, але хто возьме. На цаліну ўжо не вазілі, на Поўнач ехаць — ды ну яе... Адмарозіш усё там сабе! А тут — Ташкент, і зарабіць рубель можна.

Ва Узбекістан тады паехала вясковая моладзь, што была на заробках у горадзе. У Мінску будаўнік зарабляў 70–100 рублёў, у Ташкенце — да 208-мі.

— Я ўжо гадоў сем як у Мінску жыў, уцёк з вёскі, бо што там? Работы не было ну ніякай! Конюхам хіба да смерці рабі. Галеча была.




**Узбекі п'юць чай**, 1966 год.

АЪЗОЛИК ВЗНОСЛАРИ ТЎЛАШ
УПЛАТА ЧЛЕНСКИХ ВЗНОСОВ 1967 г.

| Ой / Месяц | Ойлик иш хақи / Месячный заработок | Аъзолик взноси / Членский взнос | Секретарининг имзоси / Подпись секретаря |
|---|---|---|---|
| Январь | 180 | 2.70 | |
| Февраль | 176 | 1.60 | |
| Март | 156 | 2.40 | |
| Апрель | 192 | 2.90 | |
| Май | 181 | 2.71 | |
| Июнь | 142 | 1.40 | |
| Июль | 208 | 4.08 | |
| Август | 7[illegible] | 0.35 | |
| Сентябрь | 105 | 1.05 | |
| Октябрь | 98 | 0.50 | |
| Ноябрь | 101 | 1.01 | |
| Декабрь | 106 | 1.06 | |

**У Ташкенце Мікалай Аляксеенка атрымаў новы камсамольскі білет** (у старым якраз скончыліся старонкі). Так беларус займеў дакумент з надпісамі на ўзбекскай мове.

А ў Мінску што бачылі? Інтэрнат адзін. З адной палучкі порткі купіш, а на пінжак другую чакай. У Ташкент ехалі хто зарабіць, а хто думаў там і застацца. Ну і свет паглядзець!

## Цяжкая дарога

Як беларусы дабіраліся да Ташкента? Бо ці мала — 4 000 кіламетраў.

— Выехалі з Мінска ў чэрвені. Дзён з дзевяць ехалі. Спачатку даехалі да Масквы, там доўга стаялі, нечым грузіліся. Потым да Куйбышава, лёгка было. А вось за ім пачалося: лета, спёка, а мы праз стэп ды пустыню. Цягнік гружаны — людзьмі на тры паліцы, матэрыялам, — ледзь пхнецца. Награваецца ўсё, акно не адкрыць — буры пяском засыпаюць. Смажыць. Дзе на якіх станцыях спыняліся, абедалі гарачым, пілі. Едзем, бачым: лужа нейкая. Кажуць, мора Аральскае.

Як жылі беларусы ў Ташкенце?

— Жылі мы ў асобным гарадку, адразу каля будоўлі. Стаялі там домікі невялічкія, сціплыя, на чалавек 15. Усё, што трэба, было на месцы — дзе паесці, дзе памыцца. Умовы былі суровыя, але ж жыць можна.

Пры ўваходзе ў гарадок вялікая шыльда паведамляла, што тут жывуць будаўнікі з БССР. Вянчаў яе герб рэспублікі. Усе будаўнікі жылі ў асобных нацыянальных гарадках.

Што насілі беларускія будаўнікі? Калі вопратка звычайная — узор савецкай масавай лёгкай прамысловасці, — то абутак адметны. Сандалі і лёгкія тапкі — адзіны зручны абутак у ташкенцкіх умовах.

## «Цэгла награвалася — не ўзяць»

Што для беларусаў было дзіўным ва Узбекістане?

Па-першае, клімат.

«Спёка была невыносная! Працаваць было цяжка, так прыпякала. Цяжка было не толькі людзям, але і тэхніцы, матэрыялу. Цэгла награвалася — не ўзяць! Для яе будавалі спецыяльныя ванны, апускалі туды, каб астывала. ▶



**З-за спецыфічнай ежы і нізкаякаснай вады** будаўнік Мікалай Аляксеенка вярнуўся ў Беларусь з язвай страўніка.

▶ А калі што жалезнае ўпусціш — ключ ці абцугі, — без рукавіц не падымеш з пяску».

Па-другое, рацыён.

«Мы млеем ад спёкі, а мясцовым хоць бы што! Сядзяць старыя ўзбекі ў халатах сваіх, чай гарачы п'юць. Во дзіва было спачатку! Потым зразумелі, чаму так рабілі. Так лягчэй».

Па-трэцяе, прырода.

«Калі было ўжо ну зусім горача, тады не працавалі ўдзень. Усе выходзілі ў 3-ю змену, ноччу працавалі. Аднаго разу, як толькі прыехалі і было спякотна, вырашылі, як у нас гэта робіцца, паехаць на рэчку. Прыехалі, ідзём купацца, заходзім у ваду, а вада — халодная ж халодная! Як у студні! Узбекі рагочуць з нас».

Па-чацвёртае, гандаль.

«Яны ўсё і ўсюды прадаюць. Прадае ўзбек нешта ў краме, дзяржаўны тавар хавае — свой піхае. Дываны, плоў, віно — усё сваё. Мае халадзільнік у краме, туды паставіць сваё дамашняе віно, а завадское кісне на сонцы. Каб у нас так хто зрабіў, умомант закрылі б і ў Сібір саслалі б! І кірмашы на кожным кроку. Сядзіць адзін, прадае смецце рознае. Вушы ад вушанкі адрэзаныя. За рубель. Мы ўзялі на смех купілі і спыталі: хто іх у цябе купіць, навошта сядзіш? Кажа нам: вы ж узялі. Мы тыя вушы выкінулі — ён падабраў, ізноў прадае! Во дзе народ!»

Неразуменне ў беларусаў выклікала тое, што многія ўзбекі не пераймаліся аднаўленнем сталіцы. Жыццё ішло сваім ходам. «Мы прыехалі адбудоўваць, працуем у тры змены, а ўзбекі што? У ларку сядзіць здаровы лоб і газеты прадае, ну! А той шашлык смажыць! Бачылі старых, то тыя няхай, нямоглыя, чай п'юць цэлы дзень, спяваюць нешта. Але ж і маладыя з імі! Араць на іх можна, а яны чай!»

Беларусы ў Чыланзарскім раёне Ташкента пабудавалі 9 жылых пяціпавярховых дамоў і школу. Беларускія дамы мелі адмысловае аздабленне — нацыянальны арнамент. Прыкметна, што ён не падобны да таго арнаменту, які месціўся на сцягу БССР і па якім у СССР традыцыйна ідэнтыфікавалі Беларусь. Таксама на доме змяшчаецца надпіс «Ташкентцам на счастье от белорусского народа» і год пабудовы — 1967.

Да 10-й гадавіны землятрусу ў Ташкенце ўсталявалі мемарыял «Мужнасць». На барэльефе адлюстраваныя работы па аднаўленні горада. Так ташкенцы адзначылі працу тых, хто прыйшоў ім на дапамагу. У тым ліку ўшанавалі і беларускіх будаўнікоў. ◆

## Траіх беларусаў зарэзалі

«Рабіла ў нас у гарадку адна ўзбечка, падлогу мыла. Ды расказвала, што яе яшчэ ў 14 гадоў мужу прадалі за калым. Яна і не ведала каму, пакуль не прыехаў па яе. І казала, што і тады, як мы там былі, такое ў іх было. У горадзе то ўжо не, а дзе ў кішлаках — звычайная справа! Нашы дзяўчаты, як даведаліся пра іх традыцыі, то з узбекамі і не хадзілі асабліва. Пакуль мы там былі, узбекі нашых траіх хлопцаў зарэзалі, пасля танцаў дачапіліся».




**Манумент «Мужнасць».**

# «А ў калгасе добра жыць: АДЗІН РОБІЦЬ, СЕМ ЛЯЖЫЦЬ»

НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ БЕЛАРУСІ. ФОТА ЛЬВА ДАШКЕВІЧА

## Хутаранцы, скрышаныя калектывізацыяй

**Неяк ва ўніверсітэце давялося пачуць: «А калгасы ўсё ж сыгралі аб'яднаўчую ролю. Інакш сяляне дагэтуль бы жылі па хутарах». І памяць панесла мяне да маіх продкаў, хутаранцаў… Успамінае педагог з Магілёва Міхась Булавацкі.**

У пачатку XX стагоддзя генерал Іосіф Жылінскі (па-нашаму Юзаф), знакаміты геадэзіст і меліяратар, які валодаў значнай часткай Палесся — ад Пінска да Глуска, — пачаў асушваць усходнюю частку сваіх земляў з мэтай іх далейшага продажу. Сам ён жыў у Санкт-Пецярбургу, але меў маёнтак у Пінску і «дварэц» каля Глуска Пагарэлага (зараз там вёска Дварэц). Заглядваў ён у свой «дварэц» нячаста, і кожны ягоны прыезд быў значнай падзеяй для мясцовых паноў. Пан Парэбскі з Барысаўшчыны, пан Земскі з Радуціч, пан Карытнянскі з Карытнага, пан Дараган з Дараганава, пан Зубаў з Глушы ды іншыя навакольныя паны, святары і служылыя людзі з'язджаліся ў гэты час у «дварэц», каб паслухаць чалавека, які шмат паездзіў па Расіі і Еўропе, асушваючы балоты і парадкуючы зямлю.

Аднойчы Жылінскі прыехаў з каморнікам, які пачаў адмерваць і адзначаць для продажу зямельныя надзелы («наразаць рэзы», як тады казалі) паміж Глускам і Асіповічамі, цяпер — паўночная частка Глускага раёна Магілёўскай вобласці.

Больш за сорак гадоў, якія мінулі пасля адмены прыгоннага права ў Расіі, прывялі да таго, што вольныя людзі пачалі паціху разжывацца і ўжо мелі грошы для набыцця зямлі.

### Восы, Масты і Тоўсты Лес

Для зручнасці Жылінскі пачаў пракладаць дарогу ад Яўсеевіч да Дараганава праз Земшчыну, а лес, які па дарозе і паўз яе павінен быць высечаны, прадаў нейкаму купцу. Купец разгарнуў працу хутка і шырока, наймаў людзей для нарыхтоўкі і вывазу лесу і дроў. Прывёз спецыялістаў, у Сімонавічах збудавалі пілараму, дзе пілавалі бярвёны на брусы і дошкі, нарыхтоўвалі палазы для саней, дугі, абады і спіцы для калёсаў. У Ясянцах выпальвалі вугаль, у смалакурнях здабывалі смалу, у дзягцярнях — шкіпінар і дзёгаць. Усё гэта актыўна прадавалі, тым болей што чакалася масавае перамяшчэнне людзей на новыя, пакуль неабжытыя месцы.

Купец меў немалы набытак і добра аплачваў працу. Нарыхтоўшчык лесу за дзень працы атрымліваў 20 капеек, а конь, які вывозіў лес, — 30 капеек, ►

таму ездавы з канём зарабляў па 50 капеек у дзень — па тых часах немалыя грошы.

На будаўніцтве дарогі і на меліярацыйных работах Жылінскі аплачваў па 20 капеек за 6 метраў выкапанай канавы. Керамічныя дрэнажныя трубкі прывозілі з Галандыі.

Дровы вазамі («казакамі» — так называлася мера дроў на адзін воз) вазілі ў Бабруйск і ў Асіповічы. Вяртаючыся з Бабруйска, ездавы, мінуўшы Глушу, звычайна дазваляў сабе спыніцца ў карчме, каб выпіць стопку і заесці баранькай з таранькай, што каштавала паўтары капейкі. Пасёлак так і сталі называць — Карчма. І хоць у 60-я гады яго перайменавалі ў Дачнае, мясцовыя людзі працягвалі называць яго Карчмой.

Заробак у пана і ў купца выдавалі штотыдзень. Можна было атрымаць яго манетамі або паперкамі. Мужыкі выбіралі паперкі, бо манеты часта выслізгвалі з дзіравых кішэняў і губляліся.

Рэз з лесам прадаваўся за 120 рублёў, а той, які быў ужо ачышчаны, — за 95. Хто набываў рэз з лесам, шмат выйграваў, бо прадаваў лес купцу, і зямля тады атрымлівалася амаль задарма.



**Цярэнта, Анця, Пятро.**



**Пятро Булавацкі**, турэмнае фота.

Ды і сабе чалавек пакідаў лесу на будаўніцтва хаты ды іншых пабудоў, яго не трэ' было купляць. Але 120 рублёў не ў кожнага знаходзіліся. З цяжкасцю нашкрабалі 95 і куплялі голую зямлю. А тады ўзнікала праблема: дзе ўзяць лесу на хату? Выйсце было простае: хадзілі красці лес у больш удачлівага суседа, з-за чаго ўзнікалі бойкі. Але ўсё ж такі паступова на рэзах выраслі хутары.

## Мужыкі выбіралі заробак папяровымі грашыма, бо манеты часта губляліся

Людзі засялялі купленыя ці арандаваныя землі, будавалі дамы, гаспадарчыя збудаванні, раскарчоўвалі месца пад поле, засявалі яго спачатку просам (на раскарчаваных землях яно расло найлепш), жытам, бульбай, прыдумлялі назвы прыкметным мясцінам. Так з'явілася назва Восы, бо тут было шмат асіных гнёздаў. Назва Масты ўзнікла там, дзе дарогу перасякалі дзве канавы, праз якія пракладзеныя масткі. А Тоўсты Лес — гэта ўчастак з магутнымі старымі дрэвамі, які ніхто не купіў, бо давялося б доўга мучыцца, каб яго расчысціць. Людзі працавалі цяжка і многа, але з ахвотай, бо радаваліся, што нарэшце маюць свой уласны кавалак зямлі. І верылі, што іх дзеці і ўнукі будуць на гэтай зямлі гаспадарыць.

### Хутаранцы Булавацкія

Мой дзед па мячы Іван Булавацкі з Рудні набыў рэз зямлі з лесам за 120 рублёў. А за дзве вярсты ад хутара Івана Булавацкага паставілі хутары браты Навум і Рыгор Булавацкія з Амінавіч, што за Асіповічамі. Яны не мелі сродкаў, каб купіць зямлю ў Жылінскага, таму ўзялі надзелы зямлі ў пана Земскага ў арэнду. У Земскага зямлі было няшмат, і прадаваць яе ён не хацеў.

Іван і Навум з Рыгорам пазнаёміліся, падзівіліся супадзенню прозвішчаў, не надта распаўсюджаных, пашукалі супольныя карані, не знайшлі і супакоіліся ў сяброўстве. Пазней Іванаў Пятро пакахаў Навумаву Анцю, хутка і вяселле згулялі.

А пра супадзенне прозвішчаў маіх дзядоў па мячы і па кудзелі засталася цікавая сямейная легенда. Нібыта гэта дзве галінкі роду знакамітага ў XVIII стагоддзі амінаўскага каваля Булавы. Легенда змешчана ў кнізе «Гісторыя Завалочыцкага лясніцтва» майго брата Мікалая Булавацкага, якога лес уратаваў ад гібелі падчас вайны. І ён аддаў яму доўг, больш за 50 год працуючы ў лясной гаспадарцы. Будучы 35 гадоў ляснічым, Мікалай назбіраў ад людзей цікавых звестак пра тое, што адбывалася на землях лясніцтва раней. Пераважна на падставе ягонай кнігі створаны і гэты тэкст.

### Міжчассе

Надышоў 1917 год. Хутаранцы не ведалі, што там адбывалася ў вялікіх гарадах, але заўважылі, што некуды пазнікалі паны і ніхто ўжо не патрабаваў арэнднай платы. Панскія лясы раптам сталі нічыйнымі, ніхто не забараняў там рэзаць лес, і людзі актыўна

## Хату перавезлі, а ён выкапаў на сваёй зямлі зямлянку

Некаторыя хутаранцы змагаліся за сваю зямлю да апошняга. Самым актыўным «пратэстантам» быў Тодар Елін. Ягоную хату перавезлі на новае месца і нават склалі, але ён не паехаў туды жыць. Выкапаў на сваёй зямлі зямлянку і жыў у ёй, і толькі жонка з дзецьмі жылі ў хаце. Так і жыў Тодар тры гады. Толькі ў 1942 годзе ён перасяліўся ў хату, бо ўжо ішла вайна. Падумаў, што немцы яго могуць палічыць за партызана і заб'юць. Але пажыў Елін у сваёй хаце толькі год.


НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ БЕЛАРУСІ

Беларуская вёска вачыма фатографа Льва Дашкевіча. 1923 год.

карысталіся такой вольніцай. На кожным хутары паўставалі прыбудовы да хат, стопкі, хлявы, гумны, азяроды. Хутаранцы багацелі, абзаводзіліся крамнай мэбляй у хаты, атынкоўвалі сцены і вешалі на іх дываны. Мусіць, тады якраз і з'явілася прымаўка: хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар. Праўда, праз некалькі год адно слова ў прымаўцы змянілася.

Вольніца скончылася ў 1924 годзе, калі дэкрэтам новай улады была ўведзена дзяржаўная ахова лясоў і планавае вядзенне лясной гаспадаркі.

### Пералом

У 30-я гады пачалася калектывізацыя. Людзей, хто ўмеў і хто не ўмеў гаспадарыць, аб'ядноўвалі ў калгасы. Але як стварыць калгас на хутарах?

Недзе ў годзе 1938-м было выдзелена месца пад вёску, і хутаранцам загадалі перавозіць хаты ды перасяляцца самім. Пад гэтае перасяленне выдзяляўся дзяржаўны крэдыт. Вёску назвалі Восы, бо так называлася мясціна, выдзеленая для перасялення.

Увогуле, людзі тады не замарочваліся прыдумляннем назваў, немудрагелістыя найменні ўзнікалі самі па сабе. Невялічкі пасёлак, які адпаведным чынам стварауся за пару кіламетраў ад Восаў, назвы не меў. І калі ў жыхара пасёлка пыталіся «Дзе жывеш?», адказ часцей быў такі: «Ай, там, каля Восы». Каля Восы, каля Восы — так і сталі называць пасёлак: Калявосы.

Пятро Булавацкі адразу паверыў у ідэю калгаса, яму яна здавалася выдатным крокам у развіцці сельскай гаспадаркі. Гуртам справа ўсё ж робіцца хутчэй. Як кажуць, было б нас сямёра — зрабілі б учора. Але такіх, як ён, было мала, большасць хутаранцаў не спяшаліся перасяляцца. Ды спяшалася дзяржава. Да тых, хто доўга раздумваў, прыязджалі людзі, раскідалі хату і дапамагалі перавезці, а складаў на новым месцы гаспадар ужо сам. Тым, хто перасяляўся хутчэй, выдзялялі сядзібы большай плошчы.

### Калгас «Чырвоны колас» і вёска «Оси-Телега»

Восенню таго ж года ў Восы прыехаў упаўнаважаны з райцэнтра — ствараць калгас. Калгас ён назваў «Чырвоны колас». Нехта паспрабаваў запярэчыць, што колас не бывае чырвоным, але ўпаўнаважаны недачуў. Недачуў ён і назвы вёсак, якія аб'ядноўваліся ў калгас. Запісаў праз злучок: Восы-Калёсы. Так дзве вёскі займелі дзіўную агульную назву. Пазней выкарыстоўвалі звычайна другую частку назвы для абедзвюх вёсак: Калёсы. А вяскоўцаў пачалі зваць калясянцамі.

Вялікая праблема ўзнікла пры перадачы гэтай назвы на рускай мове. Перакладчыкі ведалі, што восы — гэта «осы», а калёсы — «телега». Але «Осы-Телега» выглядала зусім парадаксальна. Таму памянялі адну літару. Дзе-нідзе ў дакументах можна сустрэць назву вёскі «Оси-Телега». Гэта пра калгас «Чырвоны колас». Старшынёй калгаса абралі Арцёма Жлобіча, разумнага і працавітага мужыка, але непісьменнага. Ён падпісваўся двума крыжыкамі.

### Каб пракармiцца, трэ' было красці

Вёскі пачалі прывыкаць да новага калгаснага жыцця. Але прывыкалася цяжка. Як гэта: вось тая карова была маёй, а цяпер яна ўсіхная? Хто ж яе дагледзіць так, як я? На сваім кані еду — берагаю

**Людзі працавалі цяжка, але з ахвотай, бо радаваліся свайму кавалку зямлі**

яго, а на чужым — лупцую пугай, не шкадуючы. Ну і што, што яны абодва калгасныя? Людзі не маглі разабрацца: калгаснае — гэта маё ці чужое? Працую на калгас — гэта на сябе ці на нейкага пана? Выходзіла, што на пана раней было выгадней працаваць, пан шчадрэй плаціў. І руплівасць на калгаснай працы была невялікая. З'явілася новая прымаўка: «У калгасе добра жыць, адзін робіць, сем ляжыць. А як сонца прыпячэ, дык і гэты ўцячэ». Гэтую прыпеўку прыдумалі не ў «Чырвоным коласе», але трапныя словы распаўсюджваюцца хутка. ▸



**Міколка і Марыйка Булавацкія.** Фота зроблена неўзабаве пасля арышту іх бацькі. Страх і сум чытаецца ў дзіцячых позірках.

Плата за калгасныя працадні была невялічкая, таму, каб пракарміцца, трэ' было красці. А красці ў калгасе — гэта ж не ў сябе. «Хто ў калгасе не злодзей, той дома не гаспадар». «Калгаснае» і «маё» неяк не аб'ядноўваліся. Але іншага жыцця ўжо не было...

## Калгас назвалі «Чырвоны колас». Нехта запярэчыў, што колас не бывае чырвоным, але ўпаўнаважаны недачуў

### «Сексот»

На пачатку 1941 года ў Восах з'явіўся новы жыхар. Барыс П. ажаніўся з жанчынай з Восаў, і спачатку яны жылі ў ягоным доме ў Дрочаве. Але пасля таго, як у Дрочаве арыштавалі некалькі чалавек, Барыс пераехаў з сям'ёй у Асіповічы. Прайшлі арышты ў Асіповічах, і П. пераехаў у Восы, дзе стаяла хата яго жонкі.

Вяскоўцы сустрэлі новага жыхара насцярожана. Па-першае, за ім ішла слава «сексота» (ад слоў «секретный сотрудник»; у пасляваенны час слова «сексот» між намі, дзецьмі, было самай вялікай абразай, хаця сэнсу слова мы не разумелі). Нібыта гэта па ягоных заявах арыштоўваліся людзі. Па-другое, ён быў камуністам, а людзі ведалі, што калгасы стваралі камуністы, і не вельмі прыязна ставіліся да партыйных.

Трэ' было выбіраць новага старшыню. Непісьменнасць Жлобіча стварала немалыя праблемы. А Барыс П. скончыў сямігодку і быў, такім чынам, самым адукаваным у Восах. Адпаведна, ён меў намер заняць пасаду старшыні. Але калгаснікі схіляліся да кандыдатуры Пятра Рыбака, які меў некалькі класаў адукацыі і быў добрым гаспадаром, а галоўнае — добра знаёмым у Восах чалавекам.

Вясной Пятро Булавацкі, на той час загадчык фермы, Андрэй Рыбак (бацька Пятра) і Барыс П. павезлі ў Асіповічы прадаваць на рынку калгасную прадукцыю: масла, смятану, тварог, драўляныя вырабы (дугі, тапарышчы, касільны) і металічныя (сярпы, косы). Металічныя рэчы вырабляў каваль Васіль Булавацкі, брат Пятра.

Усё прадалі, утаргавалі ўдала і па вяртанні вырашылі адзначыць удачу. Сабраліся ў хаце Васіля, дзе быў і ягоны малатабоец Алесь Герман. За чаркай разгаварыліся пра сваё жыццё.

— Вось як выходзіць, — сказаў Васіль. — Раней, як жылі аднаасобна, год папрацуеш — на два гады хапае. А зараз у калгасе год працуеш — праз паўгода есці няма чаго.



**Алесь Герман**, турэмнае фота.

## «Хто ў калгасе не злодзей, той дома не гаспадар»

Ніхто не запярэчыў, бо тое было праўдай. Пачалі шукаць, хто вінаваты. Дайшлі да Сталіна.

— А што Сталін! — заўважыў адзін. — І яго з работы могуць зняць.

Пабалбаталі і разышліся. А праз колькі дзён у Восы прыехала чорная машына. Забралі чатырох. Акрамя Барыса П.

Але стаць старшынёй «Чырвонага коласа» яму ўсё ж не было наканавана: праз два месяцы пачалася вайна...

### Фінал

У вайну Восы і Калявосы, як і шмат іншых навакольных вёсак, фашысты спалілі разам з людзьмі, якія не паспелі ўцячы ў лес. Пасля вайны вёскі адбудаваныя. Наваствораны калгас назвалі ўжо «Ленінскі шлях». Але ішлі тыя вёскі па «ленінскім шляху» менш за 30 год. У канцы 60-х улады прызналі іх «неперспектыўнымі», а людзі пачалі адтуль раз'язджацца ў «перспектыўныя» вёскі ці ў гарады. У 1975 годзе Восы-Калёсы пакінуў апошні жыхар.

Цяпер там ні хутароў, ні калгасаў. Лес паступова вяртае сабе сваё.

Андрэй Рыбак і Алесь Герман з ГУЛАГа не вярнуліся. А бацька і ягоны брат яшчэ здолелі пабачыць радзіму. Бацька паспеў даць жыццё мне. На большае ягоных сілаў не хапіла... ◆

# ГЕНЕРАЛ ЛЯЧЫЦКІ: раман з удавой поштмайстра ды іншыя падрабязнасці

У артыкуле **Віталя Чырвінскага** пра героя Першай сусветнай вайны Платона Лячыцкага («Стаць генералам, калі ты сын вясковага бацюшкі», «Наша гісторыя» №4) нічога не сказана пра маладое жыццё Лячыцкага. А было яно вось якое.

Святарская дынастыя Лячыцкіх каранямі сягае ва ўніяцкія часы. Дзед генерала, Стэфан Лячыцкі, у 1838 годзе быў святаром грэка-каталіцкага прыхода ў сяле Яршэвічы Вілейскага павета (цяпер Валожынскі раён Мінскай вобласці). Пасля ліквідацыі уніі ў 1839 годзе ягоны прыход аўтаматычна стаў праваслаўным. Але сын Стэфана Аляксей, бацька будучага генерала, нарадзіўся ў 1835 годзе і быў ахрышчаны яшчэ ўніятам.

Аляксей Лячыцкі, скончыўшы Літоўскую духоўную семінарыю ў Вільні, ажаніўся з дачкой святара Свята-Сімяонаўскай царквы ў Камянцы Брэсцкага павета. Праз два гады ён стаў вікарным святаром, дапамагаючы свайму цесцю. 18 сакавіка 1856 года нарадзіўся Платон, якому было суджана стаць славутым военачальнікам. Так што месца нараджэння генерала Лячыцкага вядомае — гэта мястэчка Камянец-Літоўскі, сёння Камянец у Брэсцкай вобласці.

У 1863 годзе Аляксей Лячыцкі атрымаў новы прыход непадалёк, у сяле Такары. Сёння гэтае паселішча падзеленае беларуска-польскай мяжой. З Такароў Платон пайшоў у вялікі свет — паступіў у духоўнае вучылішча, а пасля ў Літоўскую духоўную семінарыю. Пасля пачалася вайсковая кар'ера.

Бацька Лячыцкага працягваў служыць у Такарах і жыў там аж да першай Першай сусветнай вайны. У 1881 годзе айцу Аляксею давялося хрысціць чалавека, які стаў першым кіраўніком Акадэміі навук Беларусі — Усевалада Ігнатоўскага. Ягоны бацька, Макар Ігнатоўскі, у той час працаваў у Такарах настаўнікам у народным вучылішчы.

А вось памерці ў Такарах бацьку генерала было не суджана. У летапісе Такарской царквы, складзеным ужо за польскім часам, годам ягонай смерці пазначаны 1914-ы, а месцам — горад Орша.




Але падаецца, што з датай дапушчана памылка. Хутчэй за ўсё, айцец Аляксей апынуўся ў Оршы як бежанец. Але бежанства пачалося толькі летам 1915 года. Да таго ж у 1916 годзе — унікальны выпадак! — за ваенныя заслугі Платона Лячыцкага і ягонага бацьку ўзнагародзілі ордэнам Святога Уладзіміра 4-й ступені. Значыць, прынамсі ў 1916 годзе Аляксей Лячыцкі быў яшчэ жывы. Магчыма, пра гэта будзе знойдзена больш дакладная інфармацыя.

Я ж хачу пры нагодзе звярнуць увагу яшчэ на адзін цікавы сюжэт, звязаны з самім генералам Платонам Лячыцкім. У 1916 годзе на старонках віленскай газеты «Гоман» (№ 37) з'явілася невялікая нататка-ўспамін пра Платона Лячыцкага, падпісаная крыптанімам «E. Z.». Аўтар дзяліўся ўспамінамі пра некаторыя пікантныя моманты з прыватнага жыцця будучага генерала, якія адбываліся прыблізна ў 1888 годзе («28 гадоў таму»), калі Лячыцкі служыў у Пінску «паручнікам і ад'ютантам у адным крапасным батальёне».

Невядомы піша, што 32-гадовы Лячыцкі «адкрыта жыў з удавой аднаго палкоўніка, каторай для пракармлення чысленнай сям'і не хватала палкоўніцкай пенсіі, і яна служыла на пошце. Без мала ўсе свае заробкі Лячыцкі аддаваў ёй, пакідаючы для сябе толькі малую частку. Многа разоў хацеў ён ажаніцца з пані Р., але яна на тое не прыставала, каб не звязваць яго, дый бацька Лячыцкага, сельскі бацюшка, гразіўся пракляць сына, уважаючы, што гэта будзе грэх і абіда як для маладога афіцэра, так і для свяшчэнніцкага стану».

Урэшце Лячыцкі сам папрасіўся ў начальства перавесці яго на Далёкі Усход, які акурат у той час рабіўся перспектыўным кірункам для вайсковай кар'еры. Едучы на новае месца службы, «затрымаўшыся ў Маскве, каб закупіць некаторыя патрэбныя для новага палка рэчы, ён папаў у рукі прафесіянальных ігракоў, лепей сказаць шулераў, каторыя яго і абыгралі да апошняй капейкі. Ён прайграў не толькі свае "прагоны", але і казённыя грошы, дадзеныя яму дзеля куплі рэчаў для палка». І толькі стары бацька выратаваў будучага генерала ад ганьбы і суда, сабраўшы патрэбную суму ў сваіх парафіян і знаёмых.

Цяжка сказаць, колькі ва ўсім гэтым праўды. Крыптонім «E. Z.», якім падпісаны артыкул, наводзіць на думку, што яго аўтарам мог быць маёр германскай разведкі, цэнзар газеты «Гоман» Эдмунд Зуземіль, які тады ажыццяўляў нагляд над усім беларускім рухам. Да Першай сусветнай ён жыў у Пінску, а таму, сапраўды, мог ведаць падрабязнасці маладога жыцця Платона Лячыцкага. Праўда, у 1888 годзе Зуземілю было ўсяго сем, таму да яго гэтыя гісторыі маглі дайсці толькі ў пераказе. Калі, натуральна, ён увогуле іх не прыдумаў, каб стварыць у вачах чытачоў непрыглядны вобраз расійскага военачальніка («Гоман» выдаваўся ў акупаванай немцамі Вільні).

Але мусім паспрабаваць пашукаць зачэпкі. А яны ёсць. У 1880-я ў Пінскай паштова-тэлеграфнай канторы працавала адзіная жанчына — Вольга Страхава, муж якой, Міхаіл Страхаў, начальнік Пінскай тэлеграфнай станцыі, памёр у 1884 годзе. Яна і магла б быць той самай жанчынай, з якой сышоўся Платон Лячыцкі. Яна працавала ў Пінску і ў 1890-я, значыць, у Сібір ён яе не ўзяў. Увогуле, пакуль невядома, ці стварыў Лячыцкі сям'ю. Магчыма, адгукнуцца нашчадкі?

**Аляксандр Ільін, Пінск**

Аўтар дзякуе за доступ да летапісу Такарской царквы гісторыку з Беласточчыны Дарафею Фіёніку.

* * *

«Наша гісторыя» атрымала яшчэ адзін водгук на артыкул Віталя Чырвінскага. **Андрэй Чувак** паводле Памятных кніжак Гродзенскай губерні выявіў, што маці генерала звалі Сафія, паходзіла яна з сям'і Паўлоўскіх. Акрамя таго, чытач звярнуў увагу, што сярод выпускнікоў Літоўскай духоўнай семінарыі 1849 года ёсць Аляксей Лячыцкі, а ў 1873-м годзе з 1 класа семінарыі быў адлічаны Лячыцкі Платон: «как не явившийся в течение целого учебного года». Ці не з гэтага года пачалося яго захапленне ваеннай справай?



**Кожны народ мае непаўторную гісторыю. Але харваты — адны з самых непаўторных нават у нашай частцы Еўропы з яе складанай гісторыяй. Як так склалася, што харваты развілі такі моцны патрыятызм, не маючы ўласнай дзяржавы? Чаму харваты так варагавалі з сербамі? І як так склалася, што такая малая краіна такая моцная ў футболе? Расказвае кандыдат гістарычных навук Варвара Кухарэнка.**

Супольнасць, што з гонарам называе сябе харватамі, склалася зусім нядаўна, менш за стагоддзе таму. Асноўныя яе часткі: Харватыя, Славонія і Далмацыя — доўгі час вырашалі розныя праблемы, мелі розныя мэты, змагаліся з рознымі ворагамі і нават размаўлялі на розных дыялектах. Харвацкая нацыя канчаткова сфарміравалася толькі ў 1920–1930-я гады. Вялізнае

# Майстры нагамёту

**Харваты, якія 900 гадоў пражылі без уласнай дзяржавы, здабылі незалежнасць у крывавых муках, але цяпер знайшлі мірны спосаб самасцвярджэння ў футболе**

SHUTTERSTOCK, BY MIKE ORLOV

псіхалагічнае значэнне ў гэтым мела расчараванне сербскімі ўладамі Першай Югаславіі. Не пра такую дзяржаву марылі харваты, і вельмі хутка славянскае братэрства перарасло ў славянскае суперніцтва, а пасля і разню.

### Праклён харватаў

Самы папулярны гістарычны міф харватаў — «Праклён караля Званіміра». Кароль Званімір у 1089 годзе, падчас збораў у крыжовы паход, быў забіты сваімі прыдворнымі. Існуе паданне, што, паміраючы, ён пракляў харватаў, каб у іх больш ніколі не было ўладароў харвацкага паходжання. Легенда гэта, напэўна, засталася б каштоўным помнікам народнай творчасці (гэта, дарэчы, рэдкі прыклад міфа, створанага не ў перыяд рамантызму, а яшчэ ў Сярэднявеччы, у XIV стагоддзі). Але ў 1989 годзе яе ўзгадалі харвацкія палітыкі на чале з прэзідэнтам Франьё Туджманам. Яны заявілі, што Званімір пракляў харватаў не назаўсёды, а толькі на 900 гадоў, якія якраз скончыліся, і вось цяпер народ можа нарэшце займець уласную дзяржаву.

### Рэшткі рэштак аў

Шмат харвацкіх міфаў звязана з барацьбой супраць Асманскай імперыі. У харватаў ёсць свая трагічная параза, аналаг Косава поля ў сербаў — бітва на Крбаўскім полі 9 верасня 1493 года. У бітве загінула шмат прадстаўнікоў шляхты, мясцовай эліты. З гэтай катастрафічнай паразы пачынаецца 200-гадовая вайна з туркамі (да Карлавіцкай дамовы 1699 года), пасля якой ад Харватыі засталіся *ostaci ostataka* («рэшткі рэштакаў»).

### Кароткая гісторыя харвацкіх зямель

Землі Каралеўства Харватыі, Славоніі і Далмацыі з 1102 года знаходзіліся ў дынастычнай уніі з Венгерскім каралеўствам. Унія захоўвалася да 1526 года (за гэты час Венгера-Харвацкім каралеўствам кіравалі некалькі дынастый, у тым ліку Ягелоны).
Хутка і венгерскія, і харвацкія землі — Славонія, Харватыя і часткі Далмацыі, якія не былі пад кіраўніцтвам Венецыі і не былі захоплены асманамі, — увайшлі ў імперыю Габсбургаў.
Чацвёрты харвацкі рэгіён, Істрыя, у гэты час быў падзелены: усходняя частка належала Габсбургам, заходняя — Венецыі. Менавіта пры Габсбургах істрыйскія землі, заселеныя ў раннім Сярэднявеччы славянамі (харватамі і славенцамі), нарэшце ўз'ядналіся з астатнімі харвацкімі тэрыторыямі.
У апошні, аўстра-венгерскі, перыяд існавання імперыі Габсбургаў харвацкія этнічныя землі адміністрацыйна належалі розным часткам: Славонія і Харватыя знаходзіліся ў Транслейтаніі (венгерская частка імперыі), а Істрыя і Далмацыя ў Цыслейтаніі (аўстрыйская частка).
Усе рэгіёны Харватыі канчаткова ўз'ядналіся пасля Другой сусветнай вайны.



**Царква Святога Марка ў Заграбе** была збудаваная ў XIII стагоддзі ў тыповым для Харватыі стылі. Візітоўкай Заграба стаў яе непаўторны дах з гербамі, прыдуманы падчас рэстаўрацыі XIX стагоддзя.

ФОТА ВАРВАРЫ КУХАРЭНКА

Харваты ніколі не былі праваслаўнымі, бо прымалі хрысціянства ад Рыма, а не ад Візантыі, як, напрыклад, сербы. Хрысціянства прыходзіла да іх у некалькі этапаў (VII–IX стагоддзі), гэта не быў разавы акт, як, напрыклад, у Кіеўскай Русі ці Балгарыі. Каталіцызм стаў важнай часткай самасвядомасці харватаў і меў вялізнае палітычнае значэнне. «Мы каталікі, а сербы праваслаўныя» — з гэтым да XX стагоддзя рос кожны харват.

▶ Турэцкая агрэсія перавярнула і этнічную мапу Балкан. У выніку на этнічных харвацкіх землях з'явіўся моцны сербскі праваслаўны складнік. Адны сербы апынуліся на харвацкай тэрыторыі, бо ўцякалі ад туркаў, іншыя наймаліся ў якасці вояроў у Ваенную Кра́іну («Ваенную Граніцу»). Кра́іна, ці Граніца — шырокі і працяглы пояс гарнізонаў ад Адрыятыкі да Трансільваніі для абароны ад асманаў у XVI стагоддзі. Кіраванне гэтымі землямі ажыццяўлялася з Вены, а засяляліся яны мігрантамі з зямель, захопленых Асманскай імперыяй, пераважна праваслаўнымі сербамі і валахамі (продкамі румынаў). Адначасова частка харватаў пад ціскам туркаў мусіла перасяліцца ў цэнтральнаеўрапейскія землі: у Аўстрыю (градзішчанскія харваты), Венгрыю, Чэхію, Славакію.

За 1940–1990-я колькасць сербаў у Харватыі моцна зменшылася. Калі чытаеш пра зверствы 40-х, проста жахаешся: і як такое маглі рабіць хрысціяне, блізкія па мове народы? Як хутка прыгнёт, несправядлівасць, залежнасць спараджаюць крыўды і помсту.

Дакладных дадзеных па стратах пасля Другой сусветнай вайны няма. Даказаныя страты сербскага насельніцтва ў Харватыі (без Босніі і Герцагавіны) — 131 тысяча. Харватаў у той жа час паменшала на 106 тысяч. Прытым падчас існавання «Цітаўскай» Югаславіі сербы масава перасяляліся на харвацкія землі, таму іх колькасць не толькі аднавілася, але да распаду Югаславіі значна перавышала ранейшы адсотак сербаў у Харватыі.

А вось чысткі 1990-х і выкліканыя імі міграцыі сербаў значна паўплывалі на сітуацыю: у 1991-м сербы складалі 12,2% у Харватыі, а ў 2001-м — 4,5%. Колькасць іх зменшылася на 400 тысяч.

Шлях да незалежнай харвацкай дзяржавы быў доўгім. Харватыя была самастойнай толькі да 1102 года, калі мясцовая шляхта, страціўшы свайго караля, падпарадкавалася венгерскаму каралю Каламану. Ад гэтага часу яна звязала сябе асабістай уніяй з дынастыяй Арпадаў, потым Анжуйцаў, Ягелонаў, якія кіравалі Венгерскім каралеўствам. У 1526 годзе харваты былі аднымі з галоўных прыхільнікаў запрашэння Фердынанда Габсбурга на венгерска-харвацкі трон.



**«Каменная кветка» —** цэнтр мемарыяла ў Ясенавацы, жудасным лагеры часоў Незалежнай дзяржавы Харватыя, сатэліта нацысцкай Германіі.

THEBOHEMIANBLOG.COM

**Харвацкая валюта называецца куна,** ад старадаўняга славянскага менавага тавару — шкурак куніцы.





**Помнік харвацкаму «Фіяту»**, які спрабаваў спыніць сербскія танкі. Арт-інсталяцыя, Осіек, усходняя Харватыя.

SHUTTERSTOCK, BY HIERONIMUS

Увесь час суіснавання з венграмі і аўстрыйцамі ў адной дзяржаве яны павінны былі ўхіляцца то ад германізацыі, то ад мадзьярызацыі. Увесь час абіралі той бок, ад якога сыходзіла меншая пагроза.

### Якую вайну харваты лічаць Айчыннай

І падчас Першай, і падчас Другой сусветнай харваты аказваліся сярод тых, хто прайграў. Але, нягледзячы на геапалітычныя памылкі, харваты выйшлі з двух сусветных канфліктаў не толькі не згубіўшы землі, але нават вярнуўшы сабе Істрыю, Рыеку і Задар, якія ў міжваенны перыяд (па ўмовах Рапальскай дамовы 1920 года) належалі Італіі. Перамовы былі доўгімі, размежаванне скончылася ў 1954 годзе, а італьянцы канчаткова вызналі гэтыя змены толькі ў 1970-я. Таму межы краіны ў перыяд «Цітаўскай» Югаславіі харватаў задавальнялі, галоўнай задачай было захаваць іх пры распадзе дзяржавы. Па выніках Айчыннай вайны 1991–1995 гадоў (так яе называюць у Харватыі) гэта ўдалося. На шчасце харватаў, сітуацыю рэгулявалі пры дапамозе заходніх партнёраў, а не традыцыйнага саюзніка Сербіі Расійскай Федэрацыі, якая на пачатку 1990-х разбіралася з уласнымі праблемамі. Харваты праявілі ўпартасць, і ў выніку мы бачым краіну, якая задаволеная сваімі межамі.

У беларускім грамадстве пануе безліч стэрэатыпаў наконт харватаў. Галоўны з іх палягае ў тым, што большасць лічыць усіх харватаў усташамі (прыхільнікамі «Усташы» — харвацкай нацыяналістычнай рэвалюцыйнай арганізацыі), забойцамі сербаў, яўрэяў і г. д. Калі чытаеш сербскія ці расійскія СМІ, там пішуць адно. Калі ж чытаеш заходнія, харвацкія ці славенскія СМІ, то бачым там не проста іншую трактоўку, а паралельную рэальнасць: многія факты будуць кардынальна адрознівацца. У той вайне ▶

### Топ-4 самых вядомых харватаў гісторыі

Іосіп Броз Ціта (кіраўнік Югаславіі)
Іва Андрыч (пісьменнік, нобелеўскі лаўрэат і дыпламат)
Антэ Павэліч (дыктатар-нацыст)
Лука Модрыч (футбаліст, уладальнік Залатога мяча 2018 года)

### Што адрознівае харватаў ад сербаў, акрамя рэлігіі?

Розныя культурныя коды. Гэта два этнасы, якія сфарміраваліся па розныя бакі цывілізацыйнага разлому, які праходзіў менавіта праз Балканы (розныя часткі Рымскай імперыі пасля яе падзелу ў IV стагоддзі), потым па гэтай лініі прайшоў канфесійны разлом, потым розныя цывілізацыі з-за асманскага заваявання. У іх усё рознае, і мова з кожным годам усё больш адрозніваецца.




Іосіп Броз Ціта — аўтарытарны кіраўнік пасляваеннай Югаславіі — быў харват. Многія сербы лічаць, што Ціта падзяліў Югаславію на рэспублікі несправядліва, што многія сербы апынуліся за межамі Сербіі.
На фота: **Ціта-палітвязень у югаслаўскай турме,** 1928 год.

на Балканах у кожнага боку была і ёсць свая праўда.

Факт застаецца фактам, што ў вайне 1991–1995 гадоў загінула 13 тысяч харватаў, у тым ліку 6000 мірных грамадзян, і 7 тысяч сербаў, у тым ліку 3000 мірных грамадзян. Дарагую цану заплаціла Харватыя за сваю незалежнасць.

### Футбол для ўсіх

Негатыўны імідж харватаў змяніўся летам 2018-га пасля бліскуча праведзенага харвацкімі футбалістамі чэмпіянату свету.

На харвацкіх землях пазнаёміліся з футболам у 1873 годзе, калі англійскія маракі, зайшоўшы ў порт Рыекі, зацікавілі мясцовых жыхароў гэтай гульнёй. Праз 20 гадоў лінгвіст Слаўка Рутцер Радмілавіч выпрацаваў харвацкую назву для гульні — *nogomet* (вымаўляецца «нóгамэт»).

Сучасная харвацкая футбольная зборная — *Vatreni* («Палымяныя») — з'явілася ў 1990 годзе, калі Харватыя ўжо абвясціла пра свой выхад з Югаславіі. Галоўнымі поспехамі каманды сталі бронза на сусветным першынстве ў Францыі ў 1998-м і срэбра на сусветным першынстве ў Расіі ў 2018-м.

У школьныя гады грала ў футбол нават прэзідэнт Харватыі Калінда Грабар-Кітаравіч. Сапраўдная *self-made woman*: нарадзіўшыся ў богам забытай вёсцы ў харвацкім Прымор'і, яна ад самага пачатку, са школьных часоў, самастойна рабіла бліскучую палітычную кар'еру.

Цікава, што ў Харватыі і суседніх краінах моцныя амаль усе гульнявыя віды спорту, а вось індывідуальныя — не надта. Магчыма, таму, што ўсе паўднёвыя славяне — калектывісты. Камернасць, прыватнасць, ананімнасць — гэта не пра Балканы. Тут спрадвеку жылі ў радавых, потым сельскіх грамадах: задругах (у харватаў), кланах (у чарнагорцаў).

### Харвацкасербская, сербахарвацкая ды іншыя мовы

У харватаў вельмі чыстая славянская мова, як і ў нас, таму беларусы могуць добра разумець харвацкую. «Лепа» значыць «прыгожа», «хвала» значыць «дзякуй». Але ёсць і несупадзенні ў значэнні слоў. *Domovina*, дамавіна, для харватаў азначае радзіму — супольны дом, а для беларусаў — труну, апошні дом чалавека.

Тры асноўныя гаворкі, якімі карыстаюцца на харвацкіх землях, называюцца штокаўская, кайкаўская і чакаўская (у залежнасці ад таго, як гучыць у гаворцы займеннік «што» — у адных «што», у другіх — «кай», у трэціх — «ча»), — былі распаўсюджаны аднолькава. На кожнай з іх стваралася літаратура. Літаратурная харвацкая мова пачала складвацца толькі ў першай палове XIX стагоддзя, «бацькам» яе стаў Людэвіт Гай — харвацкі Багушэвіч.

Суседзі харватаў, сербы, якія ў гэты час перажывалі не толькі культурнае, але і палітычнае адраджэнне, ужо тады прэтэндавалі на ролю асноўных носьбітаў штокаўскай гаворкі (яна распаўсюджана сярод сербаў, і менавіта на яе аснове Вук Караджыч на пачатку XIX стагоддзя стварыў сербскую літаратурную мову).

28 сакавіка 1850 года ў Вене была падпісана кампрамісная дамова паміж харвацкімі, сербскімі і славенскімі літаратарамі, якая афарміла нараджэнне сербахарвацкай, ці харвацкасербскай, мовы. Падпісанне пагаднення было выклікана найперш палітычнымі фактарамі. Патрэбны быў падмурак для папулярнай югаславісцкай канцэпцыі — ідэі рэгіянальнага аб'яднання. Носьбіты славянскіх моў адчувалі моцны ціск германізацыі, мадзьярызацыі, туркізацыі, якому




**Пасля чэмпіянату свету 2018 года зборную Харватыі ў Заграбе сустрэлі як трыумфатараў.** На фота ў цэнтры: капітан каманды Лука Модрыч, найлепшы футбаліст свету 2018 года.

**Яшчэ ў 1893 годзе лінгвіст Слаўка Рутцер Радмілавіч прыдумаў харвацкую назву футбола — *nogomet***

## Сем цудаў Харватыі

Плітвіцкія азёры
Палац Дыяклетыяна і стары горад Спліт
Дуброўнік
Сабор Святога Якуба ў Шыбеніку
Карнаты
Стары горад Ровінь
Нацыянальны парк Крка

SHUTTERSTOCK, BY MPANITI

**Плітвіцы** — унікальны каскад азёр у Дынарскім карсце. Падземныя воды ракі Караны цякуць скрозь тоўшчы вапняку і прарываюцца дзясяткамі вадаспадаў.

лепш было супрацiўляцца разам. Па Венскай дамове кадыфікацыя адбывалася на ўзор штокаўскай гаворкі, на іекаўскім дыялекце (тры дыялекты вызначаюцца па вымаўленні старажытнага «ѣ»: [э], [ie; je] ці [i]).

У часы Югаславіі лічылася, што сербскахарвацкая мова адна, але харваты пішуць на ёй лацінкай, а сербы — кірыліцай. Палітычнай спробай спалучыць паўднёваславянскія мовы стала Навасадскае пагадненне 1954 года. Дамова засяроджвалася ўжо на двух дыялектах: іекаўскім і экаўскім (якім фактычна карысталіся сербы) — і на двух правапісах (лацінка і кірыліца). Але і гэтая палітычная спроба аб'яднаць носьбітаў сербскай і харвацкай мовы правалілася. У 1967 годзе падчас «Харвацкай вясны» была апублікавана «Дэкларацыя аб назве і становішчы харвацкай літаратурнай мовы». Пасля гэтага працэс кадыфікацыі новай літаратурнай харвацкай мовы было ўжо не спыніць. У эміграцыі, у Лондане, у 1971 годзе была выдадзена харвацкая граматыка («Лонданец»), якая дагэтуль з'яўляецца асновай для сучаснай харвацкай літаратурнай мовы.

Цяпер ужо звыкла лічаць, што харвацкая і сербская мовы — дзве асобныя.

Нягледзячы на тое, што харвацкая мова грунтуецца на штокаўскай гаворцы (як і сербская), у яе межах па-ранейшаму існуюць чакаўшчына і кайкаўшчына. На іх дагэтуль размаўляюць больш за 40% харватаў. Найбольш палітызаваныя прыхільнікі кайкаўшчыны, на якой, дарэчы, размаўляе і харвацкая сталіца — Заграб. Кайкафілы дамагаюцца кадыфікацыі сваёй мовы і надання ёй афіцыйнага статусу. Чакаўшчына распаўсюджана ў Далмацыі, на ёй размаўляюць у такіх буйных гарадах, як Спліт і Рыека. Гэтая частка харвацкай мовы была кадыфікавана, але па-за межамі Харватыі, у Бургенландзе (федэральная зямля Аўстрыі са значнай харвацкай меншасцю). Пад назвай «градзішчанска-харвацкая мова» яна мае статус другой афіцыйнай мовы рэгіёна.

### Тыповыя харвацкія імёны

Мужчынскія: Антун, Іва, Франьё, Дамагой, Таміслаў, Бранімір, Твртка, Званімір. Жаночыя: Саўка, Калінда, Ядранка (апошняе — у гонар Адрыятычнага («Ядранскага») мора).

## Пляж — вось іх дача

Харватыя — яшчэ і папулярны кірунак летняга адпачынку. Цудоўны клімат, чыстыя воды ўсходняй Адрыятыкі, найпрыгажэйшыя краявіды, разнастайная культурная спадчына, натуральныя прадукты. ▶


SHUTTERSTOCK, BY ANNAJZZ


SHUTTERSTOCK, BY HAPPY WINDOW

Злева: **Дажынкі ў Харватыі**, 2018 год. Справа: **дзяўчаты ў традыцыйных галаўных уборах вострава Паг** на фестывалі карункаў

▶ Да асноўных гістарычных помнікаў можна лёгка дабрацца пры дапамозе развітай сеткі транспарту.

Турызм расце штогод, але і самі харваты любяць сваю краіну і адпачынак праводзяць пераважна на радзіме. Самыя вядомыя і танныя курорты, накшталт Макарскай, даўно прызвычаіліся да запоўненых пляжаў. Але за пару кіламетраў ад асноўнай масы людзей вас будзе чакаць цішыня, сонца, празрыстая вада і цудоўная кухня ў невялічкіх сямейных рэстаранах.

Усе пляжы ў Харватыі пакуль належаць дзяржаве, а гэта значыць, што нават побач з пяцізоркавым гатэлем кожны можа ўладкавацца на сваім пакрывале. На жаль, рыхтуюцца праекты, якія зменяць гэты закон: будуць з'яўляцца прыватныя пляжы пры гатэлях, а таксама ўводзіцца курортныя падаткі. Гэта выклікае абурэнне ў саміх харватаў, бо яны прызвычаіліся ставіцца да свайго ўзбярэжжа як да супольнай дачы.

Прыемнай адметнасцю харвацкіх курортаў з'яўляецца захаванне першай лініі ад мора ў камунальнай уласнасці. На самых дарагіх кавалках зямлі па-ранейшаму размешчаныя паркі, стадыёны, тэнісныя корты і грамадскія пляжы. Пры гэтым вельмі доўгая лінія ўзбярэжжа дазваляе купляць зямлю і будавацца ўсім ахвотным. Але толькі харватам. З аднаго боку, гэта абмяжоўвае інвестыцыі, але з другога — не дае згубіць сваю ж зямлю, як, напрыклад, адбылося ў Чарнагорыі.

## Любое застолле пачынаецца з выканання харвацкага гімна, на вяселлях перад маладымі нясуць харвацкі сцяг


SHUTTERSTOCK, BY XBRCHX

**Дуброўнік** доўгі час быў венецыянскім горадам.

Сур'ёзнай праблемай стала папулярнасць серыяла «Гульня тронаў», шмат эпізодаў якога здымалі ў Харватыі. Спліт, Кліс і асабліва Дуброўнік запоўнілі натоўпы прыхільнікаў эпапеі. Дуброўнік і без гэтага




**Самыя вядомыя прадукты харвацкай прамысловасці** — гэта лекі і запраўка для супоў «Подраўка».

не мог паскардзіцца на адсутнасць турыстаў, а цяпер сутыкнуўся з сапраўдным нашэсцем. Мясцовае насельніцтва пакідае горад. Такой папулярнасці харваты не рады, яны абураюцца, што «фэйкавы» свет стаў для турыстаў больш прывабным, чым сапраўдныя гістарычныя, культурныя і прыродныя каштоўнасці.

### Гімн спяваюць у сям'і

У харватах уражвае патрыятызм. Самы звычайны харват, незалежна ад паходжання і прафесіі, мае глыбокія гістарычныя веды. А пачынаецца ўсё з краязнаўства: харваты дагэтуль больш за ўсё ганарацца малой радзімай. Гісторыя сустракаецца на кожным кроку: тапаніміка (па назвах вуліц можна вывучыць усю гісторыю рэгіёна), безліч помнікаў гістарычным персонам, назвы адукацыйных устаноў заўсёды звязаныя з героямі мінулага. Любое застолле, сямейнае свята пачынаецца з выканання харвацкага гімна *Lijepa naša Domovino* («Прыгожая наша Радзіма»), а на вяселлях звычайна перад маладымі нясуць харвацкі сцяг.


WIKIMEDIA COMMONS

**Чорныя труфелі** з даліны ракі Мірна.

### Знакавыя стравы Харватыі

На прыморскіх землях — гэта міжземнаморская кухня. З дэсертаў для гэтага ўзбярэжжа — крэм-піта. З напояў — ліманад, сапраўдны, прыгатаваны з лімонаў. У Харватыі вельмі распаўсюджана міжземнаморская традыцыя піць чырвонае віно разведзеным вадой — называецца гэта беванда. А спецыялітэты: пажскі сыр (з вострава Паг), пршут (кумпяк), у Істрыі — труфелі.

З такіх дэталяў і складаецца нацыянальная ідэя, апантаная любоў да Радзімы, за якую ты змагаешся што на футбольным полі, што на полі бою. Не забываючыся пра жудасныя эксцэсы харвацкага нацыяналізму ў мінулым, трэба мець на ўвазе і тое, што без апантанага патрыятызму такой краіны, якую маюць харваты цяпер, не было б. Усё разабралі б суседзі. ◆


SHUTTERSTOCK, BY ZAKAZ86

**Асаблівасць харвацкіх пляжаў у тым, што яны галечныя або каменныя. У Далмацыі (узбярэжжа ад вострава Раб і да Котарскай бухты) чым далей на поўдзень, тым драбнейшая галька пакрывае пляж. Амаль усё ўзбярэжжа Істрыі — гэта пляжы-платформы, суцэльны камень. Найлепшыя пляжы — на астравах. Часам яны нават пясчаныя.**

**Самыя цікавыя са 1185 астравоў**
Харватыі — нацыянальныя паркі-архіпелагі Брыюні, Карнаты, Ластава, Млет, Корчула. Пераважная большасць астравоў незаселеная.

# АПОШНІ ВАМПІР

ЧАСТКА 1






















Аўтар сюжэту **Андрэй Скурко**
Мастак **Філіп Какоша**






ПАЛА ЦЕМРА...

АПРЫТОМНЕЎ ЛЁНЬКА ЎЖО Ў... ТРУПЯРНІ.
















РАПТАМ З КУТА ПАДЫШОЎ АФІЦЭР, ЯКІ ДАГЭТУЛЬ МАЎЧАЎ.
АДПАЧНІ КРЫХУ, ІЛЛЯ СЯМЁНАВІЧ... ТЫ СТАМІЎСЯ, ТЫ ХОЧАШ СПАЦЬ...
...
ХТО ЁН? ЯК ЁН ГЭТА ЗРАБІЎ?

А ЯК ВЫ СЯБЕ АДЧУВАЕЦЕ, ЛЕАНІД?

ДЗЕСЬЦІ Я РАНЕЙ ЯГО БАЧЫЎ... ДЗЕ Ж..?
ДЗЯКУЮ, АДЧУВАЮ СЯБЕ НЯБЛАГА.

ТАК, ВЯДОМА, БУДУ!
РАДЫ ЧУЦЬ. МАГЛІ Б ВЫ ЗАЎТРА ЗАВІТАЦЬ НА ПРАСПЕКТ СТАЛІНА?
У НОВЫ БУДЫНАК МДБ ГАДЗІНЕ НЕДЗЕ А 20-Й? У НАС, ЗДАЕЦЦА, ЁСЦЬ ЗВЕСТКІ ПРА ВАШЫХ БАЦЬКОЎ...
ДАКЛАДНА БАЧЫЎ ЯГО РАНЕЙ... ЗГАДАЦЬ БЫ ТОЛЬКІ, ДЗЕ І КАЛІ...

КРЫХУ ПАЗНЕЙ...
НІДЗЕ НЕ СПЫНЯЙСЯ!
НА ПРАСПЕКТ! ХУТКА!


ПРАСПЕКТ СТАЛІНА, НОВЫ БУДЫНАК МДБ.

ТАК!
МИНИСТР ЦАНАВА ЛАВРЕНТИЙ ФОМИЧ
У СЯБЕ?

НУ, З ЧЫМ ЗАВІТАЎ, ПАЛКОЎНІК?
ЛАЎРЭНЦІЙ ФАМІЧ, МЫ ЗНАЙШЛІ ЯГО!







ЛЁНЬКАМ ЯГО ЦЯПЕР ЗАВУЦЬ!

НЕ ПАМЫЛЯЕШСЯ? ДАКЛАДНА ЁН?

ДЫ Я САМ ДАВЕДКУ ПРА СМЕРЦЬ БАЧЫЎ - НОЖ У СЭРЦА!

І ШТО ЦЯПЕР З ДАВЕДКАЙ ГЭТАЙ?

ПЫТАННЕ ВЫРАШАНА! І З ДАВЕДКАЙ АБ СМЕРЦІ, І З ТЫМ, ХТО ЯЕ ВЫПІСАЎ!

ЛЁНЬКА, ЗНАЧЫЦЬ... ГЭТА ДОБРА...






# ІКОНЫ НА ЭКСПАРТ

У 1990-я беларусы ўзбагачаліся па-рознаму. У тым ліку праз продаж старых іконаў за мяжу. Зрэшты, не ўсе з іх былі сапраўдныя...



Іконы маляваў калі-небудзь?



Ну, за талент!








...тата пачаў ездзіць па вёсках, скупаючы за капейкі старыя сталы ды лавы. Навошта? Каб ніякая экспертыза не змагла вызначыць, што матэрыялы — новыя.

Далей усё гэтае ламачча везлася ў майстэрню мастака. Ён маляваў на старых дошках ды застарваў абразы. Зразумела, сваёй «паловы» ён ніколі так і не атрымаў. Адно капейкі.







Гатовыя іконы тата прадаваў знаёмаму літоўцу, а той ужо перапраўляў праз мяжу. Праваднікі цягнікоў, што вазілі сумкі з абразамі, былі ў долі. Мытнікі іх ніколі не даглядалі.




Урэшце, іконы траплялі на замежныя аўкцыёны ды ў галерэі. А тата такім чынам зарабіў свой першы капітал.



Ідэя — Іван Мураўёў. Сюжэт і малюнкі — Алесь Кіркевіч. Дызайн — Воля Новік.

# ФРАНЦЫСК

## ДЫВЕРСІЯ

*Сюжэт: Андрэй Скурко*
*Малюнак: Антаніна Пашкевіч*

1529 ГОД. МЯЖА ВКЛ І ПРУСКАГА ГЕРЦАГСТВА.

Стой! Хто такі? Пакажы граматы!

Да герцага Альбрэхта, доктар Скарына з Вільні.

А, з Вільні. Раней усё ваявалі, а цяпер во – саюзная дзяржава... Праязджай!

У КЁНІГСБЕРГУ, СТАЛІЦЫ ПРУСІІ, СКАРЫНУ СУСТРЭЎ САМ ГЕРЦАГ.

Чым магу быць карысны, ваша вялікасць?

Я хачу змяніць імідж Прусіі – час крыжакоў-фанатыкаў мінуў. Запрашу бізнэсоўцаў, наладжу кнігадрук, сістэму аховы здароўя... Праўда, пакуль у мяне адзін друкар і адзін лекар.

Ганс, пакажы Францыску тыпаграфію. А ты, Ёсель, пасля да хворых яго адвядзеш.








ПАЎГОДА ТАМУ Ў ВІЛЬНІ.
Паедзеш з місіяй да прускага герцага.
Даведайся, што задумаў гэты ерэтык.
Я сакратар, а не шпіён.
Ты не толькі шпіёнам, ты дыверсантам станеш, калі я загадаю.
Едзь! Сям'я твая тут застанецца, мы пра яе паклапоцімся...


Трэба пісаць справаздачу біскупу...


ТЫМ ЧАСАМ У ВІЛЬНІ.
Ліст ад нашага агента з Кёнігсберга.
Нам не трэба пад бокам лютэранскае гняздо,
ды яшчэ такое перадавое. Мы запаволім яго развіццё.
Пішы інструкцыі Францыску...


Слухай, Ганс, а колькі ты зарабляеш?
На піва і кілбасу маю. Але як ажанюся...
А мне біскуп добра плаціць, на сям'ю хапае.
Можа, у Вільні і мне месца знойдзецца?


Ёсель, а ты адкуль родам?
З Брандэнбургу. Пашанцавала ўцячы,
а майго брата спалілі жыўцом —
за тое, што іўдзей.
У нас у Вялікім Княстве на іўдзеяў
ніхто нават скоса не гляне.
Вось каб туды пераехаць…


Ваша вялікасць, я мушу тэрмінова з'ездзіць дадому.
Штосьці здарылася?
Так, сямейныя справы.
Я напішу дарожныя лісты,
каб вас нідзе не затрымалі.
Хутчэй вяртайцеся.
Так, так. Канечне...


Ваша вялікасць! Скарына
звёз з сабой Ганса і Ёселя!
Як ён мог!


Малайчына! Хай герцаг цяпер паспрабуе кнігі выдаваць
і з эпідэміямі змагацца – без друкароў і лекараў.
Прускіх спецыялістаў тут прыстроім, цябе – узнагародзім.
Я хачу звольніцца.
Працяг будзе...

# Наша Пластыляндыя

У сакрэтнай краіне Пластыляндыі жыве маленькі пластылінавы слімак. Яго клічуць Танака.

Аднойчы з ім адбылася незвычайная прыгода.



У газеце пішуць, што за лесам упала зорка.

Добра, што не на наш домік!

Цікава...

Ідэя!



Сынок, доўга не гуляй!

Будзь асцярожны!

Не хвалюйся, матуля!

Танака склаў заплечнік і рушыў у дарогу

**Насвістваючы вясёлую песеньку, Танака заглыбіўся ў густы цёмны лес...**







































Аўтар: Алесь Кудрыцкі

## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Symbal.by (пр. Машэрава, 18)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 78б
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Мастовая, 33)

**Брэст**
«Правільная кніга» (вул. Куйбышава, 13, каля рынку)
«Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

**Пінск**
«Мой модны кут» (вул. Леніна, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.

## Падпісны індэкс 00469